МІКОЛА АРОЧКА

# СУДНЫ ДЗЕНЬ СКАРЫНЫ

## ДРАМАТЫЧНАЯ ПАЭМА

МІНСК
ТДА «СТАЛІЯ»
2001

УДК 882.6-2
ББК 84(4Беи)6-6
А84

*Мастак Мікола Купава*

**Арочка М.**

А84 Судны дзень Скарыны: Драмат. паэма / Мікола Арочка; Маст. М. Купава. — Мн.: ТДА «Сталія», 2001 г. — 183 с.
ISBN 985-6670-03-9

Драматическая поэма о Франциске Скорине — это попытка осмыслить: в чем же драма нашего первопечатника?..

Славный деятель Возрождения не мог отыскать на своей родине среди духовных иерархов, магнатов понимания и материальной поддержки для своего жизненно важного дела — издания книг на языке, с которым Бог «на свет пустил».

**УДК 882.6-2**
**ББК 84(4Беи)6-6**

**ISBN 985-6670-03-9**

# ВЫКЛІКАННЕ ПОСТАЦІ

## ПРАДСПЕЎ



---

Трывожу я Твой цень сярод дзядоў,
З прадоння выклікаючы:
З'явіся!
У плоць жывую зноў ператварыся,
З ног абтрасі
пыл пяціста гадоў!

Сыдзі з-пад сініх зор!
Ці з-пад кургання,
Якое змалку ў сэрцы я нашу.
Ідзе спакон зацятае змаганне
За родны край, за мову
І душу!

Мне без Цябе —
нібы блуканне ў цемры.
Мне не спазніцца б — да Цябе дайсці!
Як многа значыць у маім жыцці
Тваё чало
у венцаносных цернях!

Перанясі мяне ў свой родны дом.
Дом гістарычны,
ўстань жа з папялішча?
На горкіх тых кругах
Тваё аблічча
Няхай жа стане мне правадніком.

Вось гэтак, як калісь, —
па стромым схіле
Самога Дантэ мудры павадыр

Кругамі зводзіў —
у пякельны вір
Сівілай прываражаны Вергілій...
Настаўнік мудры мой!
Твой сціплы вучань
Так прагне разгадаць Твой зорны час,
Які вузлом адным і вяжа нас,
Яднае, і ўзрушае нас,
І мучыць!

Які ж той час?
На стромах Адраджэння
Вялікі Леанарда, Рафаэль
І Мікеланджэла —
ўсе светачы зямель
Ратуюць Чалавека ад глумлення.

Час пекнасці мадон і захаплення
Адкрыццем Свету Новага,
вярчэння зор.
То чалавечай велічы узор!
То ўрокі чалавечага падзення!

Век залаты?
Век праўды і пазнання.
І ганьба эры новай і нябёс.
Авідзій, Дантэ,
хто павёў ваш лёс
Шляхамі сумных геніяў выгнання?!

Вячысты, каранасты, нібы дрэва,
Як мог Цябе сарваць ліхі віхор?
Якая драма?
Збег крывавых зор,
Што ў лёс твой заплылі —
Відаць, з-пад Крэва?!

Загадак рой...
Даверся мне, як сыну..
Сваім з'яўленнем абвастры мой зрок.

Каб шлях твой,
Кожны крок —
                быў, як урок
Для ўсіх, хто род вядзе свой —
Ад Скарыны.

Францішак Скарына з'яўляецца ў абліччы духу.

*Прамаўленне Духу Скарыны*

*Мой род пачаўся, пэўна ж, не з мяне*
*І не на мне,*
*І не на вас замкнецца.*
*Пад маім сэрцам*
*                пяць сгагоддзяў б'ецца!*
*Мой дух не гіне ў роднай старане!*

*Я — родам з Адраджэння.*
*Ды цяпер*
*Усім часам, прасторам я належу:*
*Прадонню — прахам,*
*А Душой — бязмежжу,*
*Іншабыццю разумна-чуйных сфер!*

*Я — родам з Адраджэння.*
*І таму ж*
*Мяне ўзрушаюць зноў яго прыкметы.*
*Зямному свету*
*                ці стае Асветы,*
*Унутранай асвечанасці душ?*

*Не стаў бы я вярэдзіць свае раны,*
*Але каб нылі ў вас яны радзей,*
*Прыадхіну з раз'ятраных грудзей*
*Сляды цяжкой*
*                духоўнай нашай драмы.*

СУДНЫ ДЗЕНЬ СКАРЫНЫ

# ЗМОВА

О, змова тайная
варожых мне свяціл!

*Ф. Петрарка*

2. Зак. 2344

# СМЕРЦЬ АДВЕРНІКА[1]

Вільня, 1525 год. Драўляны дом з вокнамі на рынкачны пляц. Маргарыта, гаспадыня дома, снуе ў прыцемку пакояў, прыпадае да акна. На куце мігатліва цепліцца свечка. Стук у дзверы. Уваходзіць Францішак Скарына, у мантыі і ў берэце доктара навук, з куфэркам у руцэ.

Скарына

Вы клікалі мяне?.. Якія беды
Ступілі на парог у гэты дом?
Чаму вы ў чорнай хусце?

Маргарыта

Вы не чулі?
З рашэтнікамі, з бондарамі з пушчы
Прыйшла на рынак зранку
пагалоска...
Ох, Юра мой!.. Няўжо гэта цябе
Там, у глухіх Нядзведзічах...
На ловах...
*(Плача.)*

Скарына

Не можа быць!
Адкіньце злую чутку.
Мыслівага такога, як Адвернік?
Ці першы раз ён браў гаспадара
Мядзведжага кутка?
Разважце самі.
Каб вестка чорная, — яна б з ганцом
Сюды, у дом, прымчала б...
Не на рынак.

Маргарыта

Бывае, вестка,
Што па рынку блудзіць,

Параганяе быстрага ганца!
Яна ва мне, пякучая, засела,
Нібы страла атрутная...
Ах, Юра!

Скарына

Здыміце хустку чорную...
Як можна
Бяду заўчасна наклікаць?

Маргарыта

Ой, што я...
Як сослепу... Не згледзела зусім,
Як ахінулася хусцінай чорнай...
Сама рука нядобры творыць знак —
Мая трывога, значыць, не сляпая...
Ах, Юра мой!
Чаму цябе пусціла
На тыя ловы?
Каб лацвей улашчыць
Адну з пацех яе высокамосці —
Дзівацтва каралевы Боны?[2]

Скарына

Тут ловы незвычайныя... Іначай
Адвернік-радца ці згадзіўся б сам
Быць на загонах тых
Галоўным лоўчым?
Здабыць гаспадара таго кутка
Патрэбна ж не з рагаціны, не з дзіды,
Паслаць да каралеўскіх ног не скуру,
А ўзяць яго, загнанага,
Жыўцом!
Хароміну, літоўскага мядзведзя!

Маргарыта

Нашто ім здаўся
Наш мядзведзь літоўскі?

Скарына

Пытанне гэта — сумны знак нябёс!
Яно даўно вісіць над нашым краем,
Як знак сваволі...
Ёсць у гэтых ловах
Гаспадара спрадвечных нашых пушчаў
Свой гаркамысны сэнс...
Абраза... Ганьба!
Звяругу гэтага з дубовай клеці
Зноў выпусцяць,
Завёзшы ў лес Кароны,
Дзе-небудзь каля Віслы, на Мазоўшы —
Для зборышча зявак,
Для злой пацехі,
Для каралеўскіх гучнатрубных ловаў...

Маргарыта

Чаму я на парог не легла гэты?
Няхай праз смерць маю пераступіў бы,
Чым сам у лапы...

Скарына

Кіньце ўсе заклёны,
Як хустку чорную,
Як пагалоску...

Маргарыта

А вы былі на вежы звездара?

Скарына

Сачыў я зоры доўга апаўночы —
Спрыяюць зоры!
Праўда, я ўглядаўся,
Пытаючыся ў неба пра далейшы
Лёс нашае друкарні...
Ёсць надзея!
Калі звяраў я знакі Задыяка...

Маргарыта

А вы пра Юру запытайце ў неба!
Ды не на змрочнай вежы чарадзея,
А тут, на даху дома нашага...
Ну, лезьце!

Францішак Скарына ідзе да лесвіцы,
што вядзе на гарышча, на зорную пляцоўку.
Застывае на прыступку.
Углядаецца ў Маргарыту.

Скарына

Вы так яго кахаеце... Крый божа,
Ліхому стацца...
Хоць мілосць такую
Спазнаўшы, можна адысці спакойна
З зямной мітрэнгі...

Маргарыта

Каму вы там варожыце?

Скарына

Сабе...
О вобраз пекнасці жаночай!
Зайздрошчу зорцы, з-пад якой на свет
Пайшоў шчаслівы лоўчы, слынны радца
Адвер...

За акном — покат капытоў, грукат павозкі,
галасы. Францішак і Маргарыта кідаюцца
да дзвярэй. Абапіраючыся на плечы лоўчых,
уваходзіць Юры Адвернік. Твар спалатнелы,
галава ў крывавых павязках.

Адвернік

Усё... Я дома.
Ды агонь той буры
Ідзе за мной з калматай пушчы...
Прэч!
Крый божа, ў дом агонь той не пускайце!
Ты толькі не пужайся, галубіца:

Калі ідзеш на ловы, на мядзведзя —
Рыхтуй пасцель!
Не аднаму мне сёння
Паслаў ты ложа стогну, плачу...
Піць!
Вадой агонь тушыце у грудзях...

Хіліцца на ложак, спрабуе сарваць укарэлыя павязкі. Скарына асцярожна здымае іх сам. Адхіляе ад крывавых ран Маргарыту. Яна кідаецца ў камору — вяртаецца з кужэльным палатном на руках.

Скарына

Гаючы кужаль... Ды ад кіпцяў чорных —
Ох, як заняўся ўжо агонь антонаў!

Маргарыта

Ратуйце, доктар, бацьку для дзяцей!

Скарына
*(Дастае з куфэрка лекі.)*
Прырода лечыць тое, што нявечыць!
Умее і караць сурова,
Але ўмее
Дарыць нам і гаючасць, і надзею...

Уваходзяць жыхары суседніх дамоў, уздыхаюць, стоячы ля парога.
З'яўляюцца родзічы Маргарыты і Адверніка — Марцін Субач з Ганнаю, Мікалай Чупрын.
Шэпчуцца, гадаюць.

Галасы

— Памрэ... Бачыце, пасінеў, нябога.
— Каму ж гэты дом застанецца?.. Тут і нашы спадкі!
— Не загадвайце... Во прыўздымаецца, яшчэ ўстане.
— У гарачцы... Старая Дарота зяця свайго хрысціць.
— Не адхрысціць... Сама, як тая свечка, дагарае.
— Я і кажу: каму дом застанецца?
— Суд нас рассудзіць...

Маргарыта неўразумела аглядаецца на тыя перашэпты. Адвернік цяжка дыхае, траціць прытомнасць. Скарына ўлівае ў яго рот зёлкавы напой. Адвернік ачынаецца, крывава кашляе. Адводзіць руку доктара.

Адвернік

Асклепій слынны мой...[3]
Не трэба!
Нутро ўсё ў пламенні...
Ці не бачыш —
З задушным кашлем пырскае агонь!
Агонь той буры ты ўжо не патушыш...
Дзе лоўчыя мае?
Дзе Петрык?.. Хвеська?
Там засталіся — на лаўжах яловых?
*(Ява мяжуе з трызненнем.)*
І я ля вас прылягу...
Але — не!
Мне трэба асачыць цябе, васпане!
Ля вываратня моцна абхапіцца,
Як з лепшым сябрам...
Ведаю, за гэта
Мяне касою лапаю пагладзіш...
За ўсю мілосць маю...
І здраду! Так!
За здраду!
Я ў тваіх гарачых зрэнках
Разгледзеў злы дакор...
Пагарду!
Лютасць!
За што цябе я мерыўся прадаць?
Уладара-асілка, што ў сабе нясе
Знак моцы нашых векавечных пушчаў!
Жыўцом!
За кратамі... Як вязня!
За што?..
За нашу ўласную пакору?
За спадзяванку, што ў чынах падвысяць;
І пойдзе радца ўверх па лесвіцы,
Як той цыган на неба...

Толькі здрадзь!
Сабе...
Сябрам і жыццядайным пушчам!
Цябе я справіўся б агрэць ашчэпам,
Калі ты да мяне лез у абдымкі,
Каб па-зямляцку хвацка мне
Аддзячыць!
Цябе я на рагаціну б успёр!
Але твой зрок упіўся,
Як свярдзёлак,
І нешта унутры ва мне глыбока,
Як дрэва, прадзіравіў...
Я ўздрыгнуўся!
Я прапусціў той міг, падобны смерці...
І на імгненне ўся мая удатнасць,
Мой спрыт — абвялі...
Сам табе у лапы
Ашчэп шпурнуў!..
Адчайна абхапіўся,
Як з хмельным сябрам на расстанні...
Гэ-э-х!

Скарына

Не трэба тут пра ростань...
Нас чакаюць
І пушчы, і сябры...
Чакаюць справы!
Друкарні нашай трэба твая ўдатнасць
І помач дабрачынная...
А дзецям —
Пяшчота ды гасцінцы з падарожжаў...

Адвернік
*(Уздымае саслабелую руку.)*

Справуйце без мяне...
Дзіцятка роднае,
Глядзі ж, не скрыўдзь, Францішак...
*І яе...*
Не пакідай у горы, галубіцу...

## У ДРУКАРНІ

*Прамаўленне Духу Скарыны*

*Спачатку было слова...*
*Як калыска,*
*Дзе дрэмле нараджэнне новых сфер,*
*Прыстанішча, дзе я жыву цяпер,*
*Ад вас удалечы —*
*і гэтак блізка!*

*Спазнаў я слова, як цялесны дух.*
*Ён з нас жывы струменіць, неўміручы!*
*Пачаў я сеяць гэты дар лятучы,*
*Араць глыбей,— як Біблія нас вучыць:*
*Не азірайся, ўзяўшыся за плуг!*

*Я множыў слова...*
*Адліваў у шрыфце.*
*Па полі белым сыпаў, як з сяўні.*
*Патрэбна ж людзям столькі дабрыні,*
*Святла,*
*Прачыстай праўды з глыбіні!*
*І мудрасці!..*
*Без іх — хто мы, скажыце?*

Друкарня ў камяніцы Якуба Бабіча [4].
Скарына спыняецца перад варштатам.
Бярэ ў рукі адну са сваіх выдадзеных кніг Бібліі.

Скарына

На свеце людзі ў размаітых рэчах
Заўзята пакладаюць мысль, каханне —
Хто ў царствы, ў панаванні,
Хто ў багацці,
У памнажэнні земляў, статкаў, скарбаў,
А хто ў раскошу вопраткі, піцця,
Любадзеяння...
Ды куды радзей —

У памнажэнне мудрасці і згоды,
Дабра і ласкі... А без іх ці зможа
Расці ўсё паспалітае дабро?
Вось мой варштат!
Сюды ўсю моц душы
І розуму натхнёна пакладаю,
Імкнуся сэнс пазнаць светабыцця
І будучыню земляў родных...
Божа,
Чаму ты не паможаш мне засеяць
Людскія душы мудрым асвячэннем?
Мая друкарня!
Першадрук русіна,
Цяпельца навучання і пазнання,
Стань ворагам духоўнага ўціснення,
У змроку душ распальвай, як свяцільнік,
Святую прагу праўды!
І яднання!
*(Роздумна ўзважвае на далонях кнігу.)*
З маіх далоняў Біблія глядзіць:
О, колькі найсакрытых таямніц
Яна ў сваіх прыслоўях замыкае!
Тут чалавечы крык, надзея, вера
Да неба ўзносяць трапяткія рукі!
Тут чалавечы дух у сіл вышэйшых
Заступніцтва шукае, разумення!
Глядзіць мне ў сэрца Біблія:
Калі ж
Ты, муж вучоны, скарб духоўны гэты
Адціснеш поўным зводам ды пашлеш
У хаты радцаў, лоўчых ды купцоў,
У душы люду паспалітага
Дзеля пажытку — у пісьмёнах родных!
Ці ты не можаш на Літве Вялікай[5]
Узняць адзін — як крыж свой?
Помніш, колькі
Ты меў высакагордай асалоды,
Калі ўсе барвы слоў беларусіна
Ты з заміраннем укладаў у вусны
Апосталам, прарокам...

І каханню!
У гордасці, любівасці аж сэрца
Падносіцца...
«Едзіна ты мне ест,
Прыяцелька, сястра і галубіца...»
«Ды не сакрый жа мудрасці свае
У лепаце яе...»
*(Адпрэчвае павеў інтымнасці.)*
О дні зласердзя!
Русь, хіба не бачыш:
На паперы,
На гэтым полі белым я застаўся
Адзін як перст... А ведама, што ў полі
Адзін не воін... Так!
Ацíх варштат.
Майстроў-памочнікаў развеяў вецер.
Саўдзельнікам маім усё цяжэй
Пасля славутай Прагі датрымаць
Са мной хаўрус друкарскі...
Дзе ж узяць
Для пільнай справы пенязяў, фларэнаў,
Літоўскіх грошаў —
Каб лічыць на копы?
Вялікая Літва да чужаземцаў
Купечымі рукамі сыравіну,
Пушніну, скуры, воск кідае шчодра,
А цёмную душу, а свае вочы
Ніяк не можа праясніць асветай!
Калі збірае грошы, то для войнаў,
Мячом скрабе скарбонкі...
Хмельны келіх
У пышнай шляхты правіць баляванне.
Ёй спраў няма да нейкай там друкарні,
Што, як жабрачка, просіць падаяння,
Ахвяравання —
Хоць на грош апекі!
Дзе адшукаць мне ў свеце разуменне,
Трывалую апору кнігадруку?
Дзе мой пратэктар?

Мецэнат памысны?
Дзе вы, ўладарцы мудрыя зямлі?

У майстэрню заходзяць сябры друкарскай справы — Якуб Бабіч і Багдан Онкаў[6]. Скарына трывожна прыўстае насустрач.

Ідзе мая апека і збавенне!..

Якуб Бабіч

Няма былой апекі — патаптана.
Глянь на Багдана...

Скарына

Пане мой асэсар!
Хто над табой пасмеў так наглуміцца?!

Багдан Онкаў
*(Цяжка апускаецца на ўслон.)*

Паграбілі ў дарозе...
Ледзь жывым
З рук хіжых вырваўся...
Драпежцы...
Здзірцы!
Да нітачкі — ўвесь скарб сямі вазоў.
Купецкі ўвесь пажытак...
Ляснуў!.. Амэн.

Скарына

Як здарыцца магло злупенне гэта?
Хто ведаў больш, як ты, Багдане,
Дарогі да Масковіі?..
Ці раз
Мінаў шчасліва ўсе небеспячэньствы!
Якія толькі сукні, тонкі выраб
І шчодрыя дарункі нашых пушчаў
Туды вазіў ты, на кірмаш вялікі!
А з рынку вёз не толькі спажыванне,
Уцеху свайму дому,
Але й нам,

Друкарні нашай — помач і апеку...
Як быць далей нам у прыгодзе злой?

Багдан Онкаў

Тут не прыгода... Горш.
Нас асачылі.
Вісеў на Парубежжы трупны дух...

Скарына

Няўжо і перамір'е — не заслона
Ад вечнага акруцтва ўладароў?
Яны ж заўсёды ўмелі пасварыць
Суседзяў крэўных!..
Паспрабуй тут змыць
Свяшчэннай нашай Бібліяй сляды
Крывавага зладзейства...

Багдан Онкаў
*(Дастае кнігу Іова,*
*абцірае бруд.)*

Вы зірніце:
Святая наша кніга затаптана
У гразь...

Скарына

Нябёсы, як вы дапусцілі
Насмейства гэта?!
Хто ўчыніў злупенне?

Багдан Онкаў

Мы праскакалі грэблю — і ўздыхнулі:
Вунь дзіды нашых вояў за грудом!
Ды што там за ганец —
На напярэймы?
Такі храпасты, злы, з уцятым вухам!
Прыгледзеўся я мелькам —
Воблік знаны!

Я недзе сустракаў яго сярод
Ахоўнікаў Гаштольда...[7]

Скарына

Не здалося?

Багдан Онкаў

Дай божа памыліцца... У дубізне
Ударылі зналёту... Атачылі
Пажадным вараннём... І ўсё.
І амэн.
*(Цяжкое маўчанне.)*
Машны тугой шкада...
Ды як жа горка
За Біблію, ўтаптаную у бруд!
З распоратых мяхоў павытрасалі
Свяшчэннае Пісанне у балота.
Там канула, ў балоце,
Наша праца...
Усе выдаткі, спадзяванкі...
Эх!

Скарына

Баюся змовы чорнай...
Вось балота!
Ды я не ўцямлю іншага, Багдане.
Скажы, чаму святы наш кніжны скарб
З Масковіі ты вёз не распрадаўшы?
Няўжо ты нашу Біблію нідзе
Не выстаўляў з таварамі на рынку?
І не паказваў —
Па дварах гасцінных
Або ў дамах купецкіх ці баярскіх?

Багдан Онкаў

Зарана, мусіць, доктар,
Мы туды
Паткнуліся з такою навіной.
Тавар нязвычны дужа, падазроны!

Ён на мяне наклікаў злое вока
Духоўнікаў, наглядчыкаў вушастых
Ды розных віжаў, цёмных у пісьмёнах...
Злабівыя нашэпты ўслед паўзлі:
Во, чарнакніжнік... Чарадзей!
Хапайце!

Скарына

Разумнасць мае вочы ў галаве,
Дурнота ў цемры ходзіць...
Не, я сам
Павінен у Масковію дабрацца
З купцамі нашымі... І не тавар
Там разгарнуць — навуку ўсякай праўды!
Той праўды, што сабрана за стагоддзі,
Каб, брацця, мая Русь —
Уся дазвання! —
Ішла к пазнанню ведаў, розум свой
На мудрасці вастрыла дасканала!
Умела разгадаць —
Дзе крыўда, праўда,
Дзе міласць, другалюбства...
То ж — рака!
Яе і агнец можа перайсці,
І слон пераплысці —
Там, дзе глыбока!

Багдан Онкаў

Не раю, слынны доктар...
Па дарозе —
Зашмат макрын і топкіх берагоў!
Не захліснуцца б вам...
А з мяне хопіць!

Скарына

Багдане, разумею твон адчай.
А можа, мы ўзаб'ёмся на пажытак?
І справу, з божай помаччу,
Адновім?

Няўжо мы сёння роднаму дзіцяці
Прысуд смяротны чынім?
*(Цяжкое, панылае маўчанне.)*
Значыць, праўда.
Няўжо, канец?..
Багдане і Якубе!
Хіба не разам мы апланавалі
Радзьмухаць наша вогнішча Асветы,
Каб ад яе усюды павіднела
На землях русаў?
Хіба не разам на шляхах купецкіх
Праз рызыку і нават авантуру
Ішлі, трасліся...
Прагна грош лічылі,
Каб толькі гэты першадрук русінскі
Закласці ў вольнай Празе?
Разумею:
Прыбытку выйшла нам з прадання кніг,
Як той мяздры са скуры —
Толькі вочы
Забіла горкім пылам...
*(Выцірае хусцінкай вочы.)*
Плача сэрца...
Хіба пайшоў наш клопат на трухло?
Бяссонным справаваннем мы скранулі
Гару!
Раней — чым Лютэр на Нямеччыне...
Раней — чым Біблія па-польску...
Мо дараслі б у выкладзе русінскім
Ад кніг святых —
Да краснага пісьменства!
Да Арыстоцеля, Петраркі, Дантэ...
Вось так, як знакаміты Альд Мануцый[8]!
Я помню:
Дых стаіўшы, ў двор друкарскі
Венецыянскі
Я прыйшоў зірнуць
На цуда свету —
Каралеўства кніг!
Купіў «Вульгату» Ераніма[9]... Потым —

Даруй мне, Божа! —
Пацягнуўся вокам
Да «Пахвалы дурноце»... Да Эразма![10]
І хоць апошнія фларэны страціў,
Затое —
як смяяўся і мудрэў я!
О, каб увесь бязмежны гэты скарб
Для люду паспалітага русінаў,
Для Белай Русі,
Для Масковіі! —
З друкарні нашай!
Во гэта азначала б сапраўды
Асвету у пісьмёнах справаваць!
Цяпер вы адкажыце:
Хіба можна
Будыніну надзей такіх
Знячэўку
Здарэннем тым лупежскім
Пахіснуць?

Багдан Онкаў

Мацуйся, доктар...
А з мяне ўжо хопіць
Навукі апякунства...

Скарына

Што ж нам скажа
Найвысшы, дабрачынны наш бурмістр,
Нязменны і фундатар, і супольнік?

Якуб Бабіч

Я з камяніцы не ганю друкарні.
Ды скарбы на зыходзе і мае...
Ты не крыўдуй!
Ды час табе зірнуць
Сваім праясным вокам на ўдавіцу...
На Маргарыту...
Там твая апора!

Мінула год яе цяжкой жалобы.
Яе пажытак просіць памнажэння,
І выглядае дом гаспадара!
Бярыся...
Ды не мне цябе вучыць.
Ты ж з кораня купецкага!

Скарына

Чацвёра нас было...
О лёс акрутны!
Як ломіш ты нелітасціва мой
Прасвет надзей на справаванне!
Што за суткі дзён...
На сцежцы — бездань!

*Скарына ў роспачы кідаецца да дзвярэй.*
*Яго ніхто не затрымлівае.*

# РАЗМОВА З ЯНАМ ГУСАМ[11]

Ці мушу я з-за страху перад пакараннем, якое працягнецца імгненне, цяжка паграшыць супраць закона Божага — па-першае, не адступіцца ад праўды, па-другое, пераступіць клятву, па-трэцяе, абурыць бліжніх сваіх?

*Ян Гус, 1415 г.*

Ест наивышшая мудрость размышления смерти и познание самого себе...

*Ф. Скарына, 1517 г.*

Францішак Скарына ўзбіраецца
па круцізне Панарскай грады.
За плячыма, у дымнай павалоцы,
раскінулася віленскае прадмесце.
Унізе — бурлівая плынь Віллі.

Скарына

Калі душу пакутна раздзірае
Памрока безвыходнасці, —
Чаму
Мяне сюды так цягне, на граду
Крутых Панар?.. На урвішча, дзе грозна
Каля падножжа плынь клякоча, стогне,
Заціснутая ложам камяністым?
Няўжо спакусна д'ябальская сіла
Так падбівае — во у гэта ложа
Абрынуць строма свой жывот?..
А можа,
Было б і лепей водамі Віллі
Адплыць у Сцікс[12], уцёкшы ад злабівых
І душ, і цёмных змоваў, ад грызення,
Як некалі сказаў ты,
Яне Гус:
«Жыць не хачу ў нікчэмным гэтым свеце,
Калі не дадзена мне шчырым словам
Сябе і іншых прабуджаць штохвілі

Да ачышчэння і добратварэння...»
Хіба не аплаціў ты праўду слоў
Найвысшым коштам?
О жахлівы крыж!
Ты сам зрабіў свой выбар...
Ну, а я?!
Чаму ты за рукаў мяне трымаеш,
Каб я на круцізне не аступіўся?

Поруч з'яўляецца прывідная постаць
Яна Гуса — засцерагае Скарыну
ў хвіліну яго роспачы.

Ян Гус

Глядзі —
Дае навуку нам Вілля!
Сваёй упартасцю, доўгацярпеннем
Прарэзала яна граду Панар —
Прарвалася на волю!
Так і праўда.

Скарына

Ды ў праўды на шляху града завал,
Затораў і запрудаў — зусім іншых!
Яны таму страшэнныя для нас,
Што не прырода чыніць іх,
А людзі!

Ян Гус

Іх чыняць мнагаможныя... А люд
Ад божай праўды ў вечным адлучэнні...

Скарына

Дзе корань злапрычыннасці?

Ян Гус

У нас!
У боязі бязмоўных жывацін.
Ці навучыліся любіць мы праўду

Вышэй саміх сябе, вышэй сваіх
Пасад і тытулаў, свайго пажытку,
Прытворнага сяброўства, славы?
Мы —
З прыроджаным чуццём сумлення, праўды —
Не хочам дзеля іх рызыкаваць!

Скарына

Хто ж больш рызыкаваў,
Як ты, наш Яне!..
А ці вялікі скутак тых ахвяр?
Як горка я ў твае сляды ўглядаўся
На бруку пражскім!...
А ці ведаў ты,
Што пропаведзь сваю,
Што слова праўды,
Якімі ты ў капліцы Віфліемскай
Люд тысячны ўздымаў і вёў... Ці ведаў,
Што ўсё гэта аплочваеш жыццём?

Ян Гус

Купец, што золата за пазухай нясе,
Хіба не рызыкуе галавой?
А золата праўдзівых слоў — не так?
За іх жыццём сваім спакон плацілі!

Скарына

Дзіўлюся, Яне... Кволы са здароўем
І па-жаноцку мяккі... Як ты мог
Сябе да подзвігу падрушыць?

Ян Гус

Як?
Я подзвіг не тварыў... Тварыла праўда!
Яна паднесла выбар: сябра Палеч[13],
Што хіліць да адступніцтва?
Ці праўда?
Я выбраў праўду.

Пыталася вузілішча, куды
Я ў ланцугах быў кінуты, разбіты
Пакутнай немаччу: дык што нарэшце?
Вяртанне да даброт жыцця?
Ці праўда?
Я выбраў праўду... Разам з спапяленнем.
Я плакаў разам з Палечам, маліўся
За ўсіх, хто адступіўся, выракся...

Скарына

О, як цябе я разумею!
Гора,
Калі сябры адступяцца ад справы,
Калі няма ёй болей падтрымання
На землях родных, у дамах магнатаў...
Ты зведаў бездань жаху!..
Ды на шчасце,
У люду паспалітага свайго
Усё ж знайшоў апірышча... Знайшоў!
Цябе ля Табару, у Козім гродзе
Хавалі б сотку год!..
А сейм супольны!
Маравія і Чэхія свой ліст-
Пратэст замацавала — 250
Пячатак!..
Божа, о, каб мне такое —
Заступніцтва такое ў Белай Русі!

Ян Гус

Заступніцтва здабудзеш яшчэ ты!
Святлом праменных кніг,
зярнятамі Асветы.
Цябе твой край пачуе!
Хіба можна,
Каб людзі Адраджэння так бязглузда
Мірыліся з лупежствам земляў, душ?
Прымалі ўсю хлусню ілжэпрарокаў,
Ілжэсвятош, што моляцца не богу —
Мамоне![14] Тоўстым кашалькам карысці!

3. Зак. 2344

З бядноты выціскаюць дзесяціну!
Пісанне кажа:
Хто адыме хлеб,
Здабыты ў поце твару, вінаваты,
Як і забойца бліжняга свайго!
Хто ў гноішча грахоўнасці паграз —
Вікарый ці сам біскуп...
Нават папа! —
Антыхрыст у сутане!.. Ён зладзейца.
Кароль з грахом смяротным —
Не кароль!
*(У запале выкрыцця.)*
Пакайцеся, распуснікі у рызах,
Лупежцы, святататцы, гандляры
На лгарстве індульгенцый!..
Вы за грош
Святым зрабілі б нават д'ябла!
Кроў злачынства
Вы апраўдаеце, крывапрысяжцы!
Каб вы жылі апостальскім жыццём,
Як у Пісанні,
Кожны з вас, як Марка,
Каб біскупам не быць, адсек бы палец!
Не пальцы дзеля праўды вы тняце —
Галовы іншаверцаў!
Божа мой,
Хто гэту порчу раннехрысціянскай
Царквы апыніць?
Вера ў сэрцы ўласным?
Калі царквой становішся ты сам?
Сябры святое праўды!
Возьмем меч,
Якім ёсць слова божае,
І пойдзем —
На грэх смяротны д'ябла у тыяры!

Ян Гус і Францішак Скарына паварочваюцца на ўзгневаны голас папы, што, як рэха, далятае з яго булы пракляцця.

Голас папы Яна XXIII

Пазбаўляю свяшчэннага сану... Адлучаю ад царквы... Накладаю найцяжэйшае з пракляццяў на блуднага сына адступніка, ерэтыка Яна Гуса. А таму ніхто не можа пасмець пад страхам адлучэння ад царквы падаць яму хлеб, напаіць яго вадою ці прыняць яго пад свой дах. Калі ж ён памрэ, забараняецца яго хаваць у асвечанай зямлі. Калі ён памрэ і будзе пахаваны ў такіх краях, куды гэта була яшчэ не даходзіла, то цела яго трэба выкапаць з зямлі і кінуць непахаваным[15].

Ян Гус

Антыхрыст, чуеш, грозіцца нямарна...
Ля Табару,
Дзе чэхі і мараве
Мяне хавалі ад той булы папскай,
Даўно трухлеюць косці і мячы
Крыжовых ператрушчаных паходаў!
З маіх пакут,
Як грозны біч нябёс,
Паўсталі Жыжка і Пракоп Вялікі[16]...

Скарына

А з імі збройна —
Русь, Літва ў падмогу!
На тых касцях з мячамі ёсць зарубкі
Братэрскай помачы харугваў нашых!
Настаўнік мой,
Ты нават не ўяўляеш,
Якога натварыў перапалоху,
Калі з будыніны царкоўнай папскай
Ты вывернуў з падмурка
Камень-глыбу —
І захістаўся гмах!

Ян Гус

А ты, Францішак,
Хіба русінскім друкам не падважыў

Усё злаімства, гвалт на землях родных?
О, каб я меў тады ў сваёй капліцы
Тваю друкарню!

## Скарына

Ты свае сляды
Навек адціснуў па каменні пражскім,
У сэрцы свайго люду
І зямлі!
Як, помню, святалюбна я ўглядаўся
У кожну тваю літару —
Той кнігі,
Якую Чэшскай Бібліяй завуць!
Я разгадаў таемнасць тваёй мэты:
Народ свой асвяціць у родным слове,
Разварушыць ягоны розум, дух
І з мовай роднай —
Вырваць з-пад таго
Цяжкога, як прыгнёт спрадвечны,
Гмаху!
Не ведаю, чым кончыцца мой лёс.
Ды ўсю душу маю яшчэ ўстрасае
Узорны прыклад твой,
Святы намер —
Твая ахвярнасць дзеі!
Вось гляджу
На гэту плынь Віллі...
Ды што там?.. Што там?!
Няўжо то воды Рэйна? А на хвалях
Віруе попел твой?..
Маю слязу
Прабач, вялікі Чэх!

## Голас ідавочцы

А калі вязанкі дроў, якія згарэлі вакол яго, рассыпаліся, а цела яшчэ на калу за шыю трымалася, прывязанае ланцугом, тады каты, кіямі паваліўшы цела разам з калом у агонь, яшчэ больш дроў падкінулі і, абыходзячы вакол, косці кіём разбівалі, каб хутчэй сатлелі. А знай-

шоўшы галаву, кіём яе развалілі. А сэрца знайшоўшы сярод унутранасцей, кій завастрыўшы, асобна на той кій насадзілі. Палячы яго па гэтым ражне, яшчэ кіём білі...

Спаліўшы ўсё дашчэнту, увесь попел з зямлёю разам досыць глыбока выкапалі, на тачку насыпалі і кінулі ў Рэйн...[17]

Скарына ў вусцішным зняменні глядзіць
на хвалі Віліі. Па ўзбярэжжы
бяжыць Маргарыта. Згледзеўшы Францішка
на скале, махае рукой, трывожна гукае.

Маргарыта

Францішак!.. Любы мой...
Ты толькі не пужайся...
Не абарвіся са скалы ў прадонне!
Сыходзь барзджэй на бераг...
Асцярожна! Твой брат Іван памёр...[18]

Скарына

Які Іван?
Цябе ў Канстанцы, Яне, не спалілі!
Не змылі хвалі Рэйна ў небыццё.
А самі разляцеліся яны,
Як матылькі... І сталі іх рашэнні,
Як павуціна ліпкая...
А ты —
Жывы, наш Яне!.. Ты жывы!
Ды дзе ж ты?
*(Няўцямна азіраецца па баках.)*

# НА ШАЛЯХ СУДНАГА ДНЯ



*П р а м а ў л е н н е  д у х у  С к а р ы н ы*

*Чаму сярод сузор'яў Задыяка,*
*Сярод прадоннай цвердзі, у сяйве,*
*Я не знайшоў Фяміды?*
*Ні яе*
*Праўдзівасуднай Дзіке?*[19]
*Ні слядоў, ні знаку!*

*Пакінутыя Шалі без прыгляду!*
*Шугаюць іх стыхіі і віры,*
*Метэарыты, зорныя вятры,*
*І змовы чорныя багоў,*
*І звады...*

1529 год. Дом Маргарыты. Ф р а н ц і ш а к  С к а р ы н а па лесвіцы злазіць з зорнай пляцоўкі, асцярожна прыпыняецца.

С к а р ы н а

Судовы дзень!
Не будзь нам Судным днём!
Трывожна ты займаешся... Світанне
Кідае стрэлы з ценямі на Шалі,
Мяшае на каромысле высокім
Іх пераменна жоўта-сіні бляск.
Куды ж хіснецца чаша?

Са спальні выходзіць з прыглушаным кашлем М а р г а р ы т а. Францішак Скарына спяшаецца да яе.

Цябе я пабудзіў неасцярожна?

М а р г а р ы т а

Не ты...
А клопат наш ліхі судовы
Трымае ў бессані даўно наш дом.

Калі ўжо тыя скончацца суды
І перасуды?

Скарына

Сёння ж, галубіца!
Суд Жыгімонта[20] сёння ўсё развержыць!..

Маргарыта

Чамусьці я не веру ў добры вырак.
Скажы, Францішак, праўду:
Дзе прычына,
Што гэты матчын дом такой ліхой
Судовай калатнечай аблажылі?
Ой, чуе сэрца цемру... Трэці суд!
Ды ім, судзілішчам, канца не будзе!

Скарына

Тужэе вузел бед...
Сам б'юся я ў здагадках.
Памёр Адвернік... Счэзла твая маці...
А тут, нібы пярун на галаву, —
Смерць брата любага, купца Івана!..
Як назнарок, з усіх, з усіх бакоў
Суды ўсчаліся —
То за гэты дом...
То за дзяльбу маёмасці... Грызенне.
Гатуюць пакасць, чую, крэдыторы
Івана... Што за атачэнне лёсу?
Ці змовы?!. Скрозь атручана паветра...
Няма чым дыхаць...

Маргарыта

Не, ты штось хаваеш...
Ты ўсё адводзіш боль маіх грудзей...
Дзе таямніца?
Скуль, нібы з мяха, вылазяць беды?
*(Плача.)*

Я сёння за тваю слязу ў адказе.
Давай прысядзем ды ладком развstaжым.
Не ўзычыў бог мне ўдатнасці купецкай —
Такой, як у Лукі майго старога[21].
Альбо — ў Івана-брата...
Іх не стала.
А я ці здольны дзедзічныя скарбы
Вось, як яны,
З купецкім спрытам множыць?
Ды так, каб дом быў ад даброт —
Як чаша!
Каб абміналі, не калоцячы яго,
Судзілішчы, ўсе злыбеды...
Даруй...
Я вінаватым чуюся за ўсё —
За немач тваю, гэту калатнечу...
Чым я суцішу, чым я аплачу
Твой боль за гэты дом?
За твае скарбы?
І д'ябал жа падбіў мяне намовіць,
Каб аддала ты іх у рукі брата,
Уклала ў рост гандлёвы...
Я б ажыў!
О, каб не гэта смерць гвалтоўная Івана!
Ён дому нашаму з дарог купецкіх
Вярнуў бы немалы прыбытак...
Ды...
Хіснулася надзея на апору...
Хіснулася тады, як Бабіч, Онкаў
Ад справы адышлі...
Ды быў разлік [illegible]
Спакусны — на купецкасць брата...
Я ў думках сваіх дзякаваў каханню
І дому твайму за прыпас імення...
Я дзякаваў Адверніку (о, памяць
Найсветлая яму!), што ён пакінуў
Скарбонку не пустую — так карцела,
Пусціўшы ў рост, прыпас памножыць,

А потым, утрываліўшы аснову,
Зноў ажывіць жаданы мой занятак —
Адчуць у гэтых пальцах, у крыві
Дрыготкі стук друкарскага варштата...
А гэты дом, скалочаны судамі,
Я адсуджу не толькі для сям'і...
Ен мог бы стаць прытулкам для друкарні!

Маргарыта

Друкарню ў матчын дом?
Вой што надумаў!
Ці не з яе ідуць на нас напасці?
Бясконцыя суды і валакіты?
Я думала: ён будзе для дзяцей,
Ашчаджаны той грош, што ты намовіў
На копы множыць?
Ты ж яго — у бездань!
На кнігі, на друкарню прэш...
Францішак!
Прадай яе... Малю цябе
Прадай!

Скарына

Не галубіцу бачу я —
Арліцу!
Арліца крылы дбайна распасцёрла
Над арляняткамі... Але ў мяне
Сярод дзяцей сваіх яшчэ адно
Ёсць роднае...
Дык ці магу, скажы,
Сваё дзіця я кінуць?.. Не!
Друкарня!
Яна — жыццё маё!.. Мой лёс... Працяг
У долю люду паспалітага!

Маргарыта

Я чую — змрок плыве...
Прадай, мой любы!
Я ў гэты дзень судовы патрабую!

Хіба дзіця тваё жывое?
Збудзь!
Падумай лепш пра нас, яшчэ жывых...

Увальваюцца гуртам родзічы Маргарыты,
сястра Ганна з мужам Марцінам Субачам,
Мікалай Чупрын і інш.
Выстаўляюць прэтэнзіі на дом.

Галасы

— Сястра, ці мы ў бога не роўныя?.. І наша тут дзель!

— Свой запаветны тэстамэнт каму дала старая Дарота?

— Нам!.. Мы свайго не ўступім... На падзел гэты дом!

— Судовы вырак пахіліць на наш бок!

— Глядзіце, каб потым не прыйшлося па свеце пайсці...

Са спальні выбягае разбуджаны хлопчык.
Маргарыта бярэ яго на рукі.

Маргарыта

Вы думаеце —
Гэта для Францішка
Ці для мяне запавядала маці
Бацькоўскі дом?..
Пакрыўдзіла вас, бедных!
Няшчасных, абдзяліла... Лемантуйце!
Яна ж то для сіроткі... Для Сымонкі!
Для ўнука, што без бацькі сірацее...
Вы гора не зазналі — ўсё ў вас ёсць:
Свае двары...
Дзятва пры сваіх татах.
Вам не хапае толькі гэтай дзелі,
Што ў вашых горлах косткай перасела...
Дарота, наша маці... Хай ёй пухам...
Была з душой, нібыта ў чарацінкі.
Яна глядзела ў прышласць —
На дзяцей!
Ды вам ці зразумець яе?
Ой, не!

Як можаце ступаць вы на парог
Сюды з такою калатнечай?!

Маргарыта зняможана хіліцца.
Скарына падхоплівае яе з дзіцем,
адводзіць у спальню. У дзвярах з'яўляецца
віленскі біскуп Ян[22].
На калені падаюць Ганна з мужам.
Біскуп жагнае іх, уздымае на ногі.

Біскуп Ян

Маліце не мяне, а пана Бога,
Каб Гаспадарскі перасуд высокі
Вам даў зычлівы вырак...
А ўладыка
Багатай біскупіі віленскай —
Калі вы станеце дзяцьмі касцёла —
Не скрыўдзіць вас...
Ідзіце.

Родзічы выходзяць. Скарына замірае
ў дзвярах спальні, бачачы ўсё.

Скарына

О, ваша емінэнцыя...
Прадвесце —
Што разам з вамі ступіць на парог
У гэты дом, нарэшце, дабрадзейства...

Біскуп Ян

Спакой пад гэтым дахам у руках
Не толькі пана Езуса...

Скарына

Каго ж?

Біскуп Ян

Гаспадара святліцы гэтай... Так!
Вы ўмееце разумнасці вучыць
Другіх...

Ды час прымерыць гэту мудрасць,
Шаноўны доктар, да сябе!
Ці так?

Скарына

Я вашых захадаў добрапамысных
Не ўцямлю штось...

Біскуп Ян

О-хо!.. Вы ж сакратар
І хатні лекар мой...
Ці мне не ведаць,
Як сэнс глыбокі ловіце з паўслова!
А ў гэты ж дзень —
Судовы вырак спее!
А вырак Гаспадарскі — воля Бога!
І розум ваш абвостраны, як дзіда...

Скарына

Вы, значыць, дапускаеце, вялебны,
Што гэты дом,
Дзе я знайшоў прытулак,
На шалях Гаспадарскага суда
Узважваць сёння будзе не Фяміда?
Не ваша справядлівасць?
Хто ж тады?!
Хто выпіс з права гайнага [23] з пячаткай
Акрутна скіне з чашы правасуддзя?!

Біскуп Ян

Вы не такі наіўны доктар...
Кіньце!
Няўжо вы за судовай цяганінай
Не чуеце руку вышэй?

Скарына

Гаштальда?

Біскуп Ян

Я толькі ад яго, ад ваяводы.
Спагадна заклапочаны ён лёсам
Друкарні вашай...
Дзе ж вы ёй, крый божа,
Прытулак знойдзеце, калі бурмістр
Папросіць з камяніцы?
Калі дом,
Што ляжа зноў на чашу перасуду,
Хіснецца ў бок пажаднае радні?

Скарына

Чаго ж ён так клапоціцца,
Вяльможны?

Біскуп Ян

Клапоціцца Статут Літоўскі.
Яго цяпер завуць:
Статут Гаштольда![24]

Скарына

Статут Гаштольда?!
Чуў я... Ха!.. Усюды
Яны сваё імя спяшаюцца наклеіць,
Ды час імёны тыя адскрабе
З усіх прысвоеных уладай назваў!

Біскуп Ян

Ёсць клопат большы ў нас:
Друкарню —
Лацінскую, сваю! — чакае Вільня!
Нам трэба выкладач
і слынны майстра...
Я вас прапанаваў.

Скарына

Перад судом
Вы і зайшлі з прычыны той, вялебны?

Але хіба ж то ўмова?!
Гэта змова!

Біскуп Ян

Ёсць навіна яшчэ:
Яна з ганцом
Апоўначы прымчалася ў мой дом!
Святкуе Вільня слынную ўрачыстасць
Вялікай каранацыі!

Скарына

Няўжо
Свайго ўсё ж дамаглася Бона?

Біскуп Ян

Гляньце —
Як з Гедымінавай гары шыкоўна
Вялікакняскі замак выглядае
Гаспадара і Боны!
У карэце,
На белым, нібы снег, васьмерыку.
Яны вязуць малога Жыгімонта[25],
Каб у катэдры ў Вільні асвяціць
На стол Літвы Вялікай...

Скарына

Спачуваю...

Біскуп Ян

Каму?

Скарына

Я спачуваю вам, вялебны...
Ці лёгка будзе першынцу глядзець,
Вам, сыну Жыгімонта?
Хоць і права,
На жаль, і скасавала пазашлюбнасць...

Біскуп Ян

Не лашчыць свет
Людзей — з «няправым ложам»...
Ды я даўно махнуў на першародства.
Ці лёгка мне ад стану зганьбавання
Прайсці было у біскупы?
Ого-о!
Малюся я на каралеву Бону,
На захады яе перад найвысшай
Апостальскай царквою Рыма...
Мне —
Да скону пець хвалу
Лацінскай веры...

Скарына

Вы ж з кораня —
Старых князёў літоўскіх!
Для годнасці хіба таго замала?

Біскуп Ян

Для годнасці патрэбен цвёрды грунт!
Хіба вы не шукаеце яго
У мецэнаце?
Доктар, я вам раю:
Ідзіце тым насустрач, хто вас цэніць!
Стары Гаштольд прасіў узважыць добра...
Ён крыўд не выбачае!
А яшчэ;
Ад караля я маю запрашэнне
Сабе і вам, майму сакратару
У Белым доме капітула... Вам,
Вучонейшаму мужу —
Паспрыяць у гэты клапатлівы дзень...

На ратушы б'е гадзіннік,
абвяшчаючы пачатак дзённай працы.

О Езус!
Нас кліча Гаспадарскі суд.

## ВЫРАК

Віленскі магістрат.
За сталом у ролі найпаўнамоцных суддзяў
Гаспадарскага суда — князі
Канстанцін Астрожскі[26], Юры Радзівіл[27],
віленскі біскуп Ян, кіеўскі біскуп Мікола,
паны Рады Вялікага княства Літоўскага.
За супрацьлеглымі сталамі — Скарына
і родзічы Маргарыты.
Зачытваецца канчатковы судовы вырак.

Князь Астрожскі

...І тым самым домам у месце віленскім, які ляжыць на рынку, не хацелі пасгупіцца родзічы Маргарыты... Тады доктар Францішко Скарына мовіў і паклаў перад намі выпіс з кніг права гайнага пад пячаццю места нашага віленскага. Услухаўшы таго выпісу, прысудзілі тэй жа дом і ўсё іншае іменне жане доктара Францішка Скарыны Маргарыце і дзецям яе дзяржаць і ўжываць спакойна на вечныя часы, а таму Марціну і іх нашчадкам казалі ў том вечнае маўчанне мець, і на гэтым даем Францішку Скарыну і яго жане Маргарыце наш ліст з пячаццю[28].

Родзічы Маргарыты незадаволена пакідаюць
памяшканне магістрата, іх галасы тонуць
у натоўпе віленскіх мяшчан. Біскупы і князі
ажыўлена размаўляюць, кіруючы да выхаду.
Скарына падыходзіць з удзячным паклонам.

Скарына

Я дзякую вялебным і вяльможным
За дабратлівы вырак правасуддзя —
Ён годны Гаспадарскага суда!
Для хворай Маргарыты будзе ён
Гаючым лекарскім напоем...

Біскуп Ян

Езус!
Ён прынясе нябесную гаючасць

У дом трывожны ваш... Але пры ўмове —
Вы помніце?
Чакаю у катэдры!

Біскупы выходзяць. Скарына звяртаецца
да князёў Астрожскага і Радзівіла.

Скарына

Вяльможныя,
Да вас яшчэ адна турбацыя —
Мая...
І ўсёй маёй зямлі русінскай!

Князь Астрожскі

Прыйдзецца ўважыць доктара...

Скарына

Калісьці
Святы Еліязар Ерусалімскі
Паслаў да Пталамея[29] семдзесят
Настаўнікаў, умелых дасканала
У філасофіі, ў Пісанні, ў мовах,
Каб выкласці сэнс Божага закону
На грэчаскую мову са старой
Яўрэйскай...
Цяпер жа нам даводзіцца выходзіць
Да выкладу Свяшчэннага пісання
На мовы родныя —
Па аднаму!
Эпоха Рэнесансу не чакае,
Прыспешвае і ўжо ступае важка
На нашых землях...
Час ім адрадзіцца!
У мове, у свядомасці, асвеце.
Але да выкладу святога слова,
Да памнажэння у пісьмёнах родных
Русь падыходзіць з боязню,
з дрыжаннем
Перад Каронай!..
Гэта боязь Кнігі —

Для люду паспалітага!.. Усюды
Я натыкаюся ў сваіх блуканнях
На глухату сцяны неразумення,
На атачэнне непрыязі злой!
О мнагаможныя князі, маршалкі,
Вы, ваяводы, гетманы,
Ці вы
Хоць можаце ўявіць, які цяжкі,
Ахвярны паядынак выпаў мне,
Як крыж, на долю?

Князь Астрожскі

Крыж ваш — без прымусу...
Вы прыклад для сябе ўзялі высокі
Святога Ераніма...
Сказана ж: каму
Ад Бога многа дадзена...

Скарына

Жартуе князь.
Мне многа дадзена — і гэтак мала!
Хто я?
Няварты, сціплы паслядоўнік
І Феадосія, і Ераніма...
Ды грэчаская мова і лаціна
Не патрабуюць моцы уцвярджэння:
З часоў элінскіх —
Боскія то мовы!
А нам беларусінская паслана —
Не Богам?
Біблію чакае паспалітасць!
Настольнай гэтай кнігі навучання
Час патрабуе, час!
Наш век Асветы!
Апосталы, прарокі хіба горш
У нашых мовах родных выкладаюць
Навуку мудрасці і ўсякай праўды?
Пазнаннем розум асвячаюць!
Дык чаму

У мнагаможным нашым княстве
Маю друкарню атачыла злоба?
О, гора нам!
Яна жабрачкай стала,
Выгнанніцай у доме сваім родным...

Князь Радзівіл

Мы паспрыялі вам — хіба не так?
Цяпер — дом ваш!
Чаго яшчэ хацець?
Дык карыстайце з Богам...
Па патрэбе.

Скарына

Схіляюся на ваша дабрачынства...
Але мне горка, слухаючы вас,
У згадках пеклавацца:
Дык няўжо
Не ў час я нарадзіўся?
Мо зарана?
Аж крыўдна ад такога дапушчэння!
Чаму, скажыце, сотку год таму —
Было не рана нарадзіцца Гусу?
Хто запаліў яго на першы выклад
Пісання ў роднай мове?
Хто прыўзняў
Ягоны дух да адраджэння краю?
Вось ён і даў наказ мне
Ў Празе Чэшскай:
Шукай апоры ў землях сваіх родных
Вось так, як ён знайшоў яе сярод
Паспольства свайго чэхаў і мараваў,
Сярод шляхецтва мнагаможнага...

Князь Астрожскі

Але той шлях —
Страшэнна небяспечны!

Скарына

Няхай!
Ды скінуўшы абладу цемры,
Глыбокі розум краю не задрэмле!
Ён — нібы шчыт вялікаму пачатку
Асветы, Адраджэння!..
Я нядаўна
На свае вочы бачыў гэты шчыт:
За ім, нібы за пазухай у Бога,
Жыве, ваюе з Рымам Лютэр![30]
Непераможны кацэр...[31]
Як і Гус!
Вы чулі пра Евангелле ў пісьмёнах
Нямецкіх?.. Не?
Дык, можа,чулі вы
Пра ерэтычнасць тэзісаў, прыбітых
Так дзёрзка да глухіх варот касцёла
У Вітэнберзе?..
А цяпер скажыце,
Чаму той кацэр стаў непараможным?
Ці ведаеце, хто яго прыкрыў
Ад папскіх інтэрдыктаў,
Бул, кастроў?
Курфюрсты!.. Мнагаможныя князі!
Адзін Саксонскі Фрыдрых[32] чаго варты!
Яго вы ведаеце?..
Не, не веру!
Не ведаеце існасці зямлі
Сваёй радзіннай,
Што так прагне Адраджэння!

Князь Радзівіл

Зарана задзіраеце вы тут
Наш грунт удзірванелы.
На каменні —
Нарог каб не скрышыўся!

Скарына

Эпікур
Калісьці невясёла пасміхнуўся:
Шчаслівы той, каму ўдалося лепш
Прыладкавацца...
Сёння ж — хто сумеў
З прыбыткам гандляваць сабой і краем,
Як скурамі быдлячымі...
Ці ёсць,
Вяльможныя, шлях болей небяспечны?

Князь Астрожскі

На нас ніхто ад роду не кідаў
Такога непачцівага наводу...

Скарына

Я не пра вас, вяльможныя, даруйце...
Вы, абаронцы праваслаўя,
Шчодра
Кідаеце свае ахвяраванні
На мураванні віленскіх сабораў,
Манастыроў, капліц,
На бляск, раскошу,
Каб толькі прытрымаць шалёны націск
Лацінскай веры...
Але ж ёсць яшчэ
І шлях верацярпення... Шлях ратунку!
Ён крышыць глухату перагародак!
Ці чуеце вы подых Рэнесансу?
Ідзе,
Пачаўшы з Чэхіі, ад Гуса,
Жыванача льна і няўхільна
Здань
Вялікай Рэфармацыі!.. Яна
Распачала няспыннае адпрэнне
Адметніцтву, душалупежству...

Князь Астрожскі

Досыць!
Набраліся, гляджу, вы ў падарожжах
Ідэй, паветраў розных, якваўчкоў,
Што чэпяцца за вопратку...
Ці трэба —
Яны на землях нашых?

Скарына

Не ваўчкі!
Ідзе па свеце Рушанне... А вы?
Пакрыты славаю вялікай бітвы
Пад Оршай,
Вялікі гетман, княжа,
Вы глядзіце,
Каб не прайграць на гэты раз
Літоўскай Русі
З-за цемры сваёй — бітвы куды большай!

Вяльможныя князі паспешліва развітваюцца са Скарынам, выходзяць.

Я зноў пакінуты... Як перст адзін.
Не зразуметы краю ўладарамі.
Ну што ім каштавала б чуць падвысіць
Дзяржаўнасць разумення:
Узяць пад крылле
Сваёй магутнасці маю друкарню!
Лёс кнігадруку — будучыню краю!
Я не кажу пра горкі ўласны лёс...
Ці справа выйграна ў судзе?
Судовы дзень,
Няўжо ты станеш Судным?

# БАЛЯВАННЕ І ПЕКЛАВАННЕ

Лепей ест поити в дом плачу,
нежели в дом пированія.

*Біблія, кн. Эклезіяста.*
*Пераклад Ф. Скарыны*

*Прамаўленне духу Скарыны*

*Сусвету чашы дзве —*
*што перацягне?*
*Бушуе хмельны баль...*
*Галосіць плач...*
*Снуе мой дух над домам слёз, нястач.*
*Не духу —*
*плоці трэба баляванне.*

*Глынуў я шмат зямнога пеклавання,*
*Я ледзьве вызваліў душу з ярма!*
*Яна з вярхоўным розумам сама*
*Злілася...*
*Але прагне зноў вяртання!*

*Вяртання да зямлі сваёй, дзе дом,*
*Дзе цёплы дым*
*па-над Дзвіной курыцца...*
*Мне трэба ў дужым целе маладым*
*З прарakaваннем вешчым адрадзіцца,*
*Каб не маглі ніколі заблудзіцца*
*Вы на шляху —*
*трывожным і крутым!*

Велікакняскі палац у Вільні.
У вялікай зале віруе шум балю, грыміць
і пяе срэбра, дрэва, медзь.
У пярэдні пакой выходзіць Скарына.

Скарына

Чаго прыйшоў я на раскошу балю?
Цікаўнасць разбірае —
Як магнаты,
Прэлаты, ваяводы, верхаводы

Па-змоўніцку так дружна прапіваюць
Велікакняскі стол Літвы?..
Карону
Ўздзеўшы на галоўку малалетка,
Спяшаюцца прадаць яе, аддаць
У рукі дынастычных Ягелонаў,
Што калісь учынілі applicare[33],
Сто пяцьдзесят гадоў таму — у Крэве!
Ды хіба мне відовішчу дзівіцца?
Нагледзеўся ў саборы кафедральным
Елейнай цырымоніі памазання...
Не аднаму мне вочы выядаў,
Як дым кадзільны,
Гаркамысны сорам...
Князь Канстанцін Астрожскі спатыкнуўся,
Звярэдзіўшы старэчыя калені...
Ці занямог, ці, можа, гардамыснасць
Яго на баляванне не пусціла...
Скруціла немач і Гаспадара!
Старому Жыгімонту не да балю,
Калі даўнейшы звычай з ласкі Боны
Прыходзіцца таптаць
І беззаконнаваць...
Няўжо, накрыўшы галаву пярынай,
Каб гульбішча не чуць,
Кароль улежыць?
А я ж хацеў спаткаць Гаспадара...

З бальнай залі, абмахваючыся веерам,
выходзіць каралева Бона, у пышных строях,
бляску залататканых накідак і дарагіх
каменняў, якія іскрацца на ўборы
і ў цёмных як смоль валасах.
Поруч ваявода Гаштольд, біскуп Ян,
улюбенец муз Анджэй Кжыцкі, італьянскі
апякун каралевы Аліфія.
Выбягае з бразготкай
каралеўскі блазан Станьчык-Ґуска.

Станьчык-Гуска

Слухайце дзівосныя загадкі каралевы!.. Ха! Не кажыце, што чулі іх. Маўчок! Разгадваць буду я!.. Мой прыз...

Бона захоплена дэкламуе вершы, канцоны.
Гарэзліва пытаецца: чые?

Каралева Бона

Круг апошні ідзе
Па сказанні прарочыцы Кумскай[34] —
Зноў пачнецца часоў новы лад высакосны...

Галасы

— Вергілій!
— Яго таемна-прарочыя «Буколікі»...

Станьчык-Гуска

Эклога чацвёртая, самая вешчая!.. Да нас ідзе залаты век Апалона...

Каралева Бона

Але скажыце, хто для вас Вергілій:
Прарок,
Што прадвяшчаў з'яўленне Езуса,
Ці маг?

Світа маўчыць. Каралева чакае, нервуецца.
Заўважае каля акна Скарыну.
З цікаўнасцю набліжаецца.

Мо скажа нам вучоны гэты муж?
Маг ці прарок?

Скарына

О, польская Юнона![35]
Вы ведаеце самі, што не можа
Паэт сапраўдны —
Не прапракаваць!..
І нават магам быць...
Так-так, і — магам!
Сягае ён — і ў неба, і ў Аід[36].
Яшчэ богападобны бард Гамер
Спускаўся ў бездань Тартару[37]...
Ці так?
*(Дэкламуе.)*

Кінуў ахвяры ў пламенне,
А сам пачаў клікаць
Грознага бога Аіда
І страшную з ім Персефону[38]...

Каралева Бона

У свята каранацыі — ні слова
Пра Тартар і Аід...
Хай сыдзе лепш
На нас мілосці дух!
О, amor...[39]
*(Захоплена дэкламуе.)*
Калі б Гамер вялікі і Вергілій
Убачылі яе, найсветлую з свяціл, —
Такой яшчэ не ведаў небасхіл! —
О, як бы ўславілі яе... Богатварылі!

Галасы

— Петрарка!
— Санет, прысвечаны яго каханай Лауры...

Каралева Бона

Але ці ведае шляхетная Вільня, хто пасля падзення Іліёна[40] першы з адважных траянцаў ступіў на бераг італійскі, у край маёй Айчызны?

Галасы

— Эней, прародзіч вашай светласці!
— Брат Парыса, услаўленага Гамерам!

Каралева Бона

Памяць ваша прыцьмела ад лішку напояў?.. Маўчы, Аліфія! Я пытаюся ў шляхетнай Вільні! Тады скажыце вы, доктар...

Скарына

Там, дзе імкліва прарваўся
Бурны выток Цімава

З дзевяціжыльных крутых гарлавін,
З-пад гары скалістай
І наступае, топячы нівы, да мора падобны,
Там Анценор заснаваў свой Патавій[41] —
Прыстанішча цеўкраў,
Мескаму племю імя даў
І зброю Троі павесіў...[42]

Каралева Бона

Va bene![43]
Дзе ж Эней наш затрымаўся?

Скарына

Пакуль Эней, прародзіч слынны ваш,
Спакусна бавіўся ў Сівілы Кумскай,
Каб вызнаць з чарадзейных вешчых кніг
Жыцця наканаванасць,
Анценор
Паспеў закласці Падую — Патавій!

Заінтрыгаваны позірк Боны аглядае Скарыну.
Біскуп Ян і ваявода Гаштольд спяшаюцца
бліжэй пазнаёміць з ім каралеву.

Каралева Бона

Пра вас я, доктар, чула на Літве!
Студыяваў і вас Патавій слынны?
Адтуль і персцень залаты?[44]

Скарына

Калісьці
Траянец Анценор за плугам сам
Прайшоў — ён баразной абвёў глыбока
Аблог, дзе горад закрасуе!
Кажуць,
Ён толькі там прыпаднімаў нарог,
Дзе будуць брамы і вароты...

Лёгкай
Была рука, на шчасце, ў Анценора!
Шырокія вароты ён пакінуў
У боку усходні —
Там ужо займаўся,
Нібы зара, вялікі свет славянства!
О Падуя,
Ты наша alma mater![45]
Ты нам, русінам, чэхам і палякам
Вучонасці вароты расчыніла!
Ды ці не час і нам на землях родных
Раздзьмухаць вогнішча Асветы?..
О!
Найсветлая, я сёння вас прашу...

Гаштольд
*(Перапыняе. Да Боны.)*

Наш доктар —
Улюбенец кніг, друкарства,
Але ў палоне зманлівых ілюзій...

Каралева Бона

Наш віленскі Мануцый?
Чула... Брава!

Скарына

Жартуе ваша светласць, ахрысціўшы
Мяне спакусна так, але заўчасна...
Мануцый — царства друку, кніг,
А я?
Мая друкарня ў нейкай злой апале.
Ёй застаецца лёс не друку —
Бруку!
Ісці з паклонам марным да магнатаў,
З працягнутай рукой прасіць ратунку,
Апекі, разумення...
О Юнона!
Вы апякунка пекнага мастацтва,
Вы так захопленая кніг пакрасай!

Іх духам мудрасці —
Цнатлівым, чыстым,
Вымоўным, дасканалым, дабратлівым...
Я з божай помаччу закончыў выклад
Усіх свяшчэнных кніг Пісання — гэта ж
Для нашага паспольства цэлы скарб!
Ці вам казаць, найсветлая...
Прашу вас:
Дапамажыце можнасцю сваёй —
Хоць завяршыць,
Што не паспеў я ў Празе:
Адціснуць кнігі — у пісьмёнах родных,
У поўным зводзе Біблію...

Каралева Бона

Вось як?
Нядаўна ў Вільні, з ласкі князя Яна,
Я вашу Біблію ў руках трымала...
І цуд, і жах!
Што ўздумалі вы, доктар?!
Хачу прызнацца вам, як аднаверцу:
Францішак,
Вы таксама ўзялі хрост
Лацінскага закону...
То жахліва:
Як вы маглі апостальскае слова
Тут сеяць мовай прасталюддзя?
Русінаў неабчэсаных!
О, Deo![46]

Біскуп Ян

Я навучаў Францішка...
Толькі ж ён
Заўзята прагне Бібліяй развеяць
Цямноту праваслаўя!..
Ха-а!

Скарына

Даруйце,
Але я цісну кнігі па-русінску

Не толькі для пажытку праваслаўя!
А для ўсяго паспольства...

Біскуп Ян

Для якога?

Скарына

Для тых,
Што вы ў лаціну ахрысцілі!
Ды па зямлі адны яны ж —
Русіны!

Каралева Бона
*(Незадаволена, строга.)*

Католікам — сваё ў нас асвячэнне,
З кніг — толькі нашых!
Deo Gratias![47]
Было б абразай годнасці Кароны
І нашай слепатой, калі б дазвол
Далі мы на Асвету і на Веру
У вашай мове!

Скарына

Светлая, прабачце:
На гэтай мове наш Статут Літоўскі!
Шануе люд свае пісьмёны, права:
О, колькі сам я тут,
На Белай Русі,
Сабраў ашчадна, па крупінцы мудрай,
Са звычаяў старых — па артыкулу
Прыроджаных законаў для Статута —
Пачцівых, справядлівых,
Можных, дзельных,
Не для пажытку чалавека аднаго —
Для паспалітага дабра людского!
Хіба Статут свой не пара адціснуць
У мове земляў родных?

Гаштольд

Свой Статут
Я сам адцісну толькі ў мовах боскіх —
Па-польску, па-латыні!
Хоча Вільня
Свае мець кнігі ў каталіцкім друку!
Я думаю, што доктар не адмовіць
Умельствам дасканалым?
Ці не так?

Каралева Бона

Вас пад крыло высокае апекі
У Вільні запрашае сын мой... Сын!
Ён сёння стол прыняў Літвы Вялікай!
Ён Гаспадар ваш... Magnus![48]
Гэй, панове,
Балюйце, весяліцеся...
Дзе Станьчык?

Станьчык-Гуска

Францішак, павесялі нас!.. Ці праўда — ты маг і чарнакніжнік? Ну раскажы, як ты самога Лютэра да смерці напужаў!.. Хэ-э, пацеха...

Каралева Бона

Вялікага ерэтыка таго?
Дык раскажыце дзіўную прыгоду!
Пацешце нас... калі вы чарадзейнік...
Гэй, чашу — presto, presto![49]
Не з віном,
З фларэнамі, дукатамі!..

Скарына

Я мушу
Наперад папрасіць дазволу ў цяню...

Каралева Бона

Якога цяню?

Скарына

Ценю свайго сябра...
Яго задраў на ловах бураспіннік
У пушчы нашай... Для ліхой пацехі!
Даруй мне, сябра...
Можа, грэшна тут
Трывожыць твой ахвярны цень...
Ды толькі
Спірае грудзі мне на гэтым балі
Адпрэння горды дух...
Смех са слязой —
Як выкуп за дукаты ў гэтай чашы,
За нашы пушчы, згоны, пагвалчэнні...
Найсветлая,
Вы толькі не крыўдуйце,
Што я падчас вандроўкі ў Вітэнберг
Марціну прыгадаў таго мядзведзя...

Каралева Бона

Мядзведзя?!

Скарына

Так... Пад грушай манастырскай,
Калі мы з Меланхтонам[50] міралюбна
Над дошкай шахмат штось дыскутавалі
Ды з конавак духмяную гарбату
Пілі... О, Божа —
Лютэр папярхнуўся!
Ён на мяне ўтаропіў зрок вірлівы,
Немігатлівы... Крыкнуў з перапудам:
«Я знаю, хто ты: маг і варажэй!
Ты падасланы чарнакніжнік!..
Дзякуй,
Што папярэдзілі сябры-палякі,
Засцераглі: прыедзе ў Вітэнберг
З Літвы Скарына нейкі...
Дык ганіце!
На вас ён кіне чары сваіх кніг!

Ён вобарацень... У любы патвор
Абернецца...»
А сам — назад, назад!..

Світа пацяшаецца. Выбухі смеху.

Я думаў — Лютэр кепікі мне строіць.
Тут я прыўстаў, прыгнуўся — нібы ўлез
У поўсць таго мядзведзя з нашай пушчы...
Гу-у-у!

Каралева Бона
*(З жахам адступаецца.)*

Мядзведзя?!

Скарына

Касалапага... Во так!
Ну, я ўдаваць умею яшчэ змалку:
Хапала ў нас для гульняў скур звярыных!
Шапчу Марціну:
Во я — бураспіннік!
Харомінай хаджу ў літоўскіх пушчах.
Ці мала пабыло ў маіх абдымках
Пыхлівай шляхты ды паквапных лоўчых,
Зламаных іх ашчэпаў і рагацін!
Мяне травілі псамі ў родных нетрах,
Нагонам заганялі ў сеці, ямы.
Я ведаў іх прыманкі —
Бочкі з мёдам!
А там, за імі, ў вываратнях — пасткі!
Ох, як я вырываўся, бег наўстром
З аблаваў ды загонаў хітрых...
Толькі ж...
*(З балючым прыпамінам.)*
Каго з нас не асочыць здрада?
Абняў я ў звалцы лоўчага: во як!
Дзесятаму закажа!.. Але ўсё ж —
Загналі, д'яблы, ўпёрлі, як за крату,
У клець з дубовых колляў, дошак тоўстых...
Здалося — гэта волю роднай пушчы,
А не мяне павезлі дзесь на Віслу,

У мазавецкі бор глухі, каронны,
На панскае пасмешышча, на ганьбу!
Спусцілі выжлаў, лютых ваўкадаваў,
Храпастых коней
Мужыкоў сагнаных —
Не вырвешся з ліхога атачэння!
О ловы каралеўскія!.. Ад вас
Куды мне ратавацца?.. Дзе схавацца?
Я нюхам выйсце ўчуў —
Вунь каралева!
Пад дубам на мышастым жарабку
Гарцуе так бяспечна з аркебузай[51]...
Дай пераляк той верхніцы ўчыню!
Хай ведае гульню, пацеху злую,
Калі у пушчах нашай Белай Русі
Раз'ятрыцца узгневана мядзведзь!
О, як уздыбіўся з іржаннем дзікім
Пад верхніцаю конь!
Наўскач рвануўся —
І ўмэнт суччо дубовае яздачку
Сарвала, бразнула на дол!
Мяне яснавяльможная чакала?
Во — я!!!
Так лёгка не ўпалюеце мяне
З мыслівымі і выжламі сваімі!
Не ўчэпіць ваша мосць —
Мне колца ў храпу!
Хутчэй ваш род высокадынастычны
З міражнай воляю, з прымусам хіжым
У чэраве вагітным пературнецца...

Бона ўскрыквае і са світай
накіроўваецца ў бальную залю.

Станьчык-Гуска

Хо-о!.. Чарадзейнік, брава! Аддаю свой прыз... Хо-ха!.. Але ж — шаленец ты! Сарваць такое апякунства!.. Ай... Ды выйсце, браце, ёсць. *(Дастае з кішэні тоўсты кашалёк.)* Чуеш, бяры мяне ў мецэнаты, у свае апекуны! Сярод нашай вяльможнай шляхты лепшага ты не знойдзеш фундатара! Хо-ха... *(Даганяе світу.)*

## Скарына

О моцны Божа нашае дзяржавы,
Дзе славілася век верацярпімасць
І талерантнасць! як жа церпіш ты,
Як плодзіш ты на землях нашых родных
Такіх фанатыкаў!
Чаго я тут?
Чаму не ў доме плачу?

СУДНЫ ДЗЕНЬ
СКАРЫНЫ

# ЗА КРАТАЙ

Стоить за стеною нашею...
Выгледаеть вскрозе крату.

*Біблія, кн. Песня песняў,*
*пераклад Ф. Скарыны*

*Прамаўленне духу Скарыны*

*Дзе воля?*
*А дзе крата ў нашым лёсе?*
*За духам чалавечым у сусвет*
*Пыл ліхаімства, нібы хвост камет,*
*Імкне — не адсячэш!*
*Усё звілося...*

*Зямлю,*
*Нібы з астральнай прорвы чорнай,*
*Штосьці немаччу навіслай прыгняло.*
*О змрок вузілішча!*
*Табе назло*
*Свет новы паўстае з крупінак зорных!*

*Хай зорацца яны ў нас праз вякі,*
*Каб злобства —*
*Не вяло наш род на страту.*
*О, як я зненавідзеў тую крату,*
*Якой улоўлен цяжка*
*дух людскі!*

## ПАСІЛЛЮ СІЛАЮ АДПРЭННЕ

Познань, прадвесне 1532 г.
Змрочныя сцены гарадской турмы.
Скарына цяжка снуе ад сцяны да сцяны.

Скарына

Прыйшоў мой непамысна горкі час...
Я ў гэту клецъ вузілішча загнаны,
Як той мядзведзь,
Што з нашай роднай пушчы
Забраны ў глыб Кароны —
Для пацехі,
Для дзікага насмейства розных лоўчых...
Як цяжка ў цемры розуму!.. Гняце
Памрока безвыходнасці і той жа
Зламоўніцкай бяды...
Чацвёрты месяц!
Я ў доме плачу — сотку страшных дзён,
Што душаць цяжкай роспаччу...
Як плача
Параненая цёмнасцю душа!
Галосіць нема дух... Чацвёрты месяц
Прадвесня я чакаю... Ні прасвету!
Адлютавалі сцюжы, маразы.
Набраклая галінка б'ецца ў крату,
А на цвілой сцяне святлічны зайка
Наўскос трымціць, як кволая надзея...
Ды адчыніце гэты брудны жалар!
Э-гэ-э-й!

Грукае ў акаваныя дзверы.
Уваходзіць бурмістр Позненскага магістрата
пан Скаргардыян. Дастае паперу.

Скаргардыян

Вельмі шкадую, што за сценамі нашай вязніцы даўно томіцца слынны доктар вольных і лекарскіх навук Скарына. Але, на жаль, я зноў прынёс не аблёгку вам,

а новы строгі ўказ караля Жыгімонта. Паслухайце. «Я, Жыгімонт, з ласкі боскай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі... Даручаю паважанаму бурмістру і радцам здзейсніць да канца належнае правасуддзе да Францішка Скарыны як да чалавека беглага і немаёмаснага... І не вызваляць яго з астрога датуль, пакуль над ім у вас на месцы не завяршыцца неадкладнае правасуддзе і пакуль ён не выплаціць іудзеям старому Майсею з Варшавы і яго сыну Лазару дзвесце шэсць коп грошаў... І інакш не рабіце па абавязку вашаму і па міласці нашай...» [52]

Скарына

Я верыць не хачу сваім вушам!
У жалары задушным беззаконне
Мяне катуе сотку дзён...
Ганебнасць!
Як смешна да дурноты, марнатраўна
Прыдумаць, апрача судоў бясконцых,
Пад ногі мне яшчэ —
І яму даўгавую!
І з выглядам сур'ёзным так падлыжна
Спусціць, як выжлаў,
прагных крэдытораў,
Тузоў фінансавых Варшавы... Рвіце
Загнанага ў адхланне гэта... Піце
Яго доўгацярпенне, кроў...
Няхай
У яме даўгавой даводзіць правасць!
Няхай свае русінскія пісьмёны
Запісвае на плесні гэтых сцен...
Няхай крычыць у роспачы, што ён,
Напеклаваўшыся,
Цяпер зусім не супраць
За волю сваю, ўрэшце, заплаціць
Усе даўгі купецкія Івана!
Яго тады мы выпусцім... Але
Няхай спачатку брудам абрасце,
Прытухне цнота ад смуроду ямы
І ў гноішчы зняслáвіцца...

6. Зак. 2344

Няхай
Уесца немач злая ў косць яго,
У дух яго...
*(Трасецца ад кашлю ці плачу, затуліўшы твар.)*

Скаргардыян

Спачуваю... Але дамаганні крэдытараў вашага брата Івана набылі цяпер высокую моц каралеўскага ўказа, паўторанага двойчы...

Скарына

Дасведчаны ў пазнанні юрысдыкцыі,
Вы, пан Скаргардыян,
Як доктар праў абодвух,
Не можаце не ведаць, што Літва
І Русь — паклалі ў артыкул асобны
Свой урачысты шлюб і словы залатыя:
Ніхто, ні сам кароль, ні князь вялікі,
Ніхто з магнатаў і вялікаможных —
Не маюць права жаднага:
Караць,
Кідаць за крату ў цёмную вязніцу
Па тайнаму даносу, злой намове,
А толькі па суду,
Законна распачатаму
Па звычаю старому... Дык чаму
Насуперак закону і прысягам
Мяне трымае ў кіпцях сваіх брудных
Зламысная няправасць?!
Я прашу
Занесці ў кнігу актаў грамадзянскіх
Рашучы мой пратэст!

У вязніцу Скарыны ўрываецца яго братаніч Раман[53], сын нябожчыка Івана Скарыны.

Раман
*(Да Скаргардыяна.)*

Чаму мяне ў вязніцу не пускаюць

Па справе пільнай?..
Ці не маю права
Я на прыход свой сёння — як законны
Пасрэднік свайго дзядзькі?

Скарына

Мой Рамане!
А ты заўзята ўсё клапочаш, б'ешся,
За дзядзьку свайго лезеш на ражон...

Раман

Слабы мой клопат... Толькі гузакі
На галаве...
Хаджу нібы ўсляпую.
Нібы аглохлі ўсе!.. Ніхто з вяльможаў
І чуць не хоча, што даўным-даўно
Узрост мой паўнамоцны!.. Што прыняў
Усю маёмасць свайго бацькі
Я,
А не Францыск Скарына.
Гэта я —
Маёмасны і моцны для разліку.
І пквітацца мушу толькі сам
За бацькавы даўгі!
Няўжо няясна?
На ўсіх найшла памрока — толькі смех
Блукае па вачах...
Каму патрэбен
Акрутны гэты зман?.. Каго ён цешыць?
Мой дзядзька — сам жа гэткі крэдытор,
Як тыя іудзеі!.. Што ім трэба?
Мой дзядзька ўжо спагнаў з мяне пазыку!
Дык, калі ласка, спаганяйце ўсе,
Каму купец Іван павінен быў...
Дык не!
Упарцяцца ды валаводзяць,
Не чуюць слоў маіх, маіх вымогаў,
Нібыта вушы ў іх заліты воскам!

Скарына

Братаніч мой,
Цяжкі ты робіш ход...
Ты хочаш, каб зламыснікі мае
Адчулі моц тваёй рукі — парукі,
Пасрэдніцтва ў судзе!
Ці не насіў
Ты за мяне залог у суд?

Раман

Але ж —
Пазнанскі суд не хоча браць залогу!

Скаргардыян

На гэта трэба згода крэдытораў...

Скарына

Я дзякую, Рамане... Але мне
Твой вымушаны ход такі балючы!
Адно, што цешыць:
Паглядзіце, як
З крыві Скарынаў годна вырастае
Насільству хціваму адпрэнне!
Твой залог
Б'е ў гэту крату! На ўсю Русь грукоча!
Ды як, скажы, мне ўцяміць:
Я — заложнік?!
Заложнік у сваім радзінным краі?
Братаніч выкуп за мяне прынёс!

Раман

Хоць я прынёс, ды дзіўная завора:
Залогу крэдыторы не бяруць!

Скарына

Як гэта — не бяруць?
Ах, зразумела!
Ганіцелі мае, карціць вам дужа,
Каб я тут заставаўся гніць даўжэй!

Адпрэнне ж вам!
Залог аддай праз суд!

Раман

Праз суд яны не хочуць...

Скарына

Во зладзейцы!
Вас трэба прымушаць яшчэ судом
Браць выкуп за заложніка!..
Для вас —
Няхай бы лепш я ў яме задыхнуўся!

Раман

Настойваюць:
Пры сведках з двух бакоў
Залог мой прымуць... Толькі без суда.

Скарына

Залог ацэніць суд!.. І паўнамоцна
Уручыць ім парадкам прымусовым.
І толькі суд!
А тыя збоку сведкі —
Хітрушчы ход!.. Ён пахне валакітай,
Працягам краты гэтай, каб мой дух
Парушаны — адсюль шпурнуць на сметнік!

Раман

Залог пры сведках, кажуць... Але з рук
Чамусьці не маіх —
А толькі вашых!

Скарына

Што трэба ім?..
Маё самазакланне?
Самапрызнанне ўласнае віны?
Я, злыдзень, вінаваты сам,

А не яны!
Я сам упёк сябе сюды за крату!
Шаноўны пан Скаргардыян, дык што —
Ваш суд на беззаконні толькі здатны?
Крывапрысяжнасць — замест правасуддзя?
На пагвалчэнні,
Што вам прадпісала
Указам каралеўская Вялікасць?

Скаргардыян

Я вымушаны растлумачыць: наш суд не супраць вызначэння меры залогу ў законным парадку. Але нашы захады разбіваюцца аб нежаданне варшаўскіх крэдытораў. Я павінен зачытаць вам з кнігі актаў запіс, зроблены ў мінулую суботу: «Бурмістр познаньскі Валянцін Скаргардыян, абодвух праў доктар, выклікаў праз свайго вознага ў суд іудзея Майсея з Варшавы. З'явіўшыся па гэтым выкліку ў Познаньскую Раду, іудзей сам прыйшоў да пана бурмістра і спаслаўся на суботняе свята, у час якога яму не можна нічога рабіць або распачынаць. І паколькі заўтрашні дзень нядзеля, то іудзей папрасіў, каб тэрмін, вызначаны для выкліку, быў перанесены на панядзелак, заяўляючы, што ён займаецца справамі ў гэты дзень...»[54]

Скарына

Ці прыходзіў стары Майсей у панядзелак, як абяцаў?.. Не! Ці вы пасылалі да яго яшчэ раз свайго вознага? Можа, іудзей захварэў?

Скаргардыян

Наш возны, на жаль, нідзе не можа яго адшукаць...

Скарына

Няўжо, скажыце, пан Скаргардыян,
Вам не дае ўся гэта валакіта
Падставы абвясціць рашэнне Рады:
Што крэдытор Майсей, які не раз

Законна выклікаўся ў суд,
Хлуслівы!
Ад першых дзён учыненай ім цяжбы —
Па сёння!.. Так, хлуслівы!
Маргаслепства
Не хоча бачыць злую цяганіну,
Што распачата бруднаю рукою,
Акрутнай воляй нейкаю, каб я
Спаганіўся у яме даўгавой...
Дык што параіце?
Чакаць, як ласкі,
І месяцы, і годы выглядаць
З-за вашай краты хіжых крэдытораў?

Скаргардыян

Калі крэдытары, выкліканыя ў пазнаньскі суд, накіроўваюцца не да нас, каб вырашыць у законным парадку судовую справу, а спяшаюцца зноў у Кракаў, да караля, і дабіваюцца там яшчэ аднаго мандата, дык што мы можам? *(Разводзіць рукамі.)* Дазвольце адвітацца...

Скарына

Чакайце, пан бурмістр...
Я патрабую:
Да караля пашліце неадкладна
Свайго ганца... Няхай ён растлумачыць:
Не проста вязень, а закон Кароны
Загнаны ў гэту яму,
Як і я!
*(Бурмістр выходзіць.)*

Раман

Ці шмат надзей на тога пасланца?
Дакуль тут пеклавацца?
Дзейства трэба!
З-за краты дзідай не праткнеш драпежцу!
А я ўжо не магу трываць іх кіпцяў,
Глядзець на ваш закратны паядынак
З акруцтвам змовы...

Я павінен сам
Дайсці да Жыгімонта, як даходзяць
Яны з намовамі...

### Скарына

О, ім прасцей!
У іх кароль і сам бярэ пазыкі.
А там, дзе грош, — паслуга за паслугу.
Шкада мне сіл тваіх...
Адкінь, братаніч,
Намер свой ад калдобістай дарогі...
Каб ты з сабою вёз хоць нейкі ліст
Ад слыннае персоны!..
Слухай: ёсць
На Нараве ў Пултуску сябра мой —
Мікола з Гусава[55]... Скіруй туды!
Я з ім дзяліў па-брацку хлеб вандровак,
Прыгод і бед...
І песні роднай хлеб!

# НАЧНАЯ РАЗМОВА З ІОВАМ[56]

Сярод роздумаў аб прывідах начных, калі сон находзіць на людзей, ахапіў мяне жах і трэпет і патрос усе косці мае

*Біблія: кн. Іова*

Скарына

Чаго я прахапіўся сярод ночы,
Абліты, нібы варам, цёмным жахам?
І ў змроку на сцяне,
Між хісткіх ценяў
Разгледзеў я цябе ў пакутах злых,
Іоў! Адкуль з'явіўся ты?
З біблейскай прытчы?
Пытаюся я ў роздумах начных:
Дакуль табе, Іоў доўгацярплівы,
Сядзець у шэрым попеле гаручым,
У язвах закарэлых, у струпах?
З рукамі ўздзетымі!
Дзе я?.. Дзе ты?
Я рву, як ты, адзенне на сабе...
Я кленчу перад вобразам цярпення...
Я ўверх рыззё шпурляю...
Я малю...
Кляну, як ты, з адчаем дзень народзін
І ноч зачацця — вейкі той дзянніцы,
Што ўпершыню пабачыла мяне...
Нашто святло пакутніку, калі
Ты выкапаў бы смерць сваю хутчэй,
Чым золаташукальнік злітак скарбу?
Я быццам тваё рэха...
Твой двайнік!
Ды ў роспачы я большай тут... Чаму
Зямля аддана ў рукі нечасціўцам?
Чаму ж ты, Усявышні, кару шлеш
Не на галовы іх,
А біч пакуты

Ты апускаеш люта на нявінных?
І з катаванняў
Сам пасмейваешся...

Іоў

Не наракай.
Сядзь ля мяне, Францішак,
І выгалась душу сваю да дна!

Скарына

Я сам сабе у роспачы абрыд.
Пабіла ўсё нутро маё злаўрогасць...
Я сліну, як і ты, не праглыну,
Нібы ў грудзях звілі гняздо аспіды!
*(Надрыўна кашляе.)*

Іоў

Мацуйся тым, што я, —
Доўгацярпеннем!
І Бога не гняві...

Скарына

Але за што
На нас пасланы злыбяды, напасці?
За тое, што апекі пад'ярэмнасць
Я адкідаў з душы, як слізнюка?

Іоў

Мы ўсе ў дзясніцы Бога...
Ну, а Бог
Найбольшыя свае выпрабаванні
Дае таму, каго найболей любіць!

Скарына

Нашто табе пакуты мае, Божа?
Быць вечным страстацерпцам, як і ты?
Раскрыжаваным — во на гэтай краце?

Чаму прыходзіш, Божа, да мяне
Ты ў вобліку Іова?

Іоў

Не, Францішак.
Я да цябе з'явіўся з тваёй кнігі!
Хіба я не жыву ў табе з тых дзён,
Калі ты вобраз мой, за рысай рысу,
Перакладаў на родныя пісьмёны?
Ты сам мяне тварыў —
І дух, і плоць —
Па вобліку свайму і падабенству!
Ты удыхнуў у стогн, у косць маю
Жыццё другое!..
Дзякую табе.
Але ж чаму ты ў летах маладых
Так прыкіпеў да кнігі майго плачу?
Узрушаны, са мной ты разам плакаў!
Чаму ты з плачу гэтага пачаў
Свой друк русінскі —
Кнігаю Іова?

Скарына

Я ў лёсе тваім — лёс пазнаў уласны!
У голасе пакутніцкім — свой голас!
У лямамнце нясцерпным — і свой лямант.
Ды я пачаў не з плачу, не з адчаю —
А з мудрасці твайго доўгацярпення!
Пачаў я з вечнай спрэчкі —
Бога з Д'яблам!
Ды я не зразумеў, чаму ў той спрэчцы
Абраны мы ахвярамі?
Чаму?!

Іоў

Маўчы!
Ці можна лезці ў таямніцы?
Хіба нам, грэшным, дадзена разгледзець
Яго намер высокі?

Плачу я...
Але хіба мой лямант з ласкі Бога?
Я ў згубную дзясніцу Д'ябла трапіў!
Мяне Ўсявышні лютаю праказай
На веру выпрабоўвае!..
Дык — вер!
У благадаць яго — без крыўд, разваг,
Вер слепа, у смірэнні, без гардыні!
Узнось да неба слых!..
Вышэй, вышэй!
Ці чуеш галасы там?.. Грозны гул!
Там спрэчка вечная у Бога з Д'яблам
За род людскі!

Скарына

Неверагодна: Бог святы і Д'ябал
Няўжо яшчэ ўсё б'юцца аб заклад?

З нябесных вышынь даносяцца галасы Бога
і Д'ябла ў зацятай і вечнай спрэчцы —
аб меры чалавечых цярпенняў у імя веры.

Голас Д'ябла

Хіба дарэмна баіцца Бога праведнік? Ці не ты з усіх бакоў засланіў яго, і дом яго, і ўсё, што ў яго? Справу рук яго ты благаславіў, і статкі яго множацца па зямлі. Але накладзі руку тваю і краніся ўсяго, што ёсць у яго, — ці будзе пець ён хвалу табе?

Голас Бога

Вось ён, праведнік мой... Іоў! І ўсё, што ёсць у яго, цяпер у руцэ тваёй. Толькі на яго самога не накладай руку тваю!

Па небе пралятае грымотны гул.
Зігзагі маланак. Услед — трэск дамоў,
мычанне кароў, бляянне, выццё...
Чорная моц д'яблавай рукі
змятае з зямлі людскі набытак.
Але ў вуснах Іова няма праклёну.

Голас Д'ябла

Скура за скуру, а за жыццё сваё чалавек аддасць усё, што ёсць у яго. Накладзі руку тваю на самога яго і краніся плоці яго і косці яго... Ці ўзнясе ён хвалу табе?

Голас Бога

Вось ён — у руцэ тваёй, з усёй плоццю і косцю. Усё пекла сваё абрынь на яго... Толькі душу яго не чапай!

Зноў — вогненная грымотнасць,
усё клякоча, бліскавічна віхурыцца.

Скарына

Ты чуў галоўную умову
Той вечнай спрэчкі?
Не чапай душу!
Пакутны мой Іоў! Табе лягчэй
Было ў зямлі абетаванай Уц!

Іоў

А ты сядай у гэты попел едкі!
Абсып ім галаву, агледзься сам:
Ці ты не голы сёння, як і я?
Дзе дом твой?
У вузілішчы, за кратай?
Дзе скутак твой, набытак?
Ты — мой брат!
Ты выпетраў ад цемры гэтай ямы.
Ты, як і я, пакутнік вечнай спрэчкі
Сіл неба і прадоння... Бога з Д'яблам!
Яны там вечна б'юцца аб заклад,
А ты — трывай!
Жыві доўгацярпеннем!

Скарына

Ды сёння іх заклад — куды цяжэй!
Душа на кон пастаўлена...
Душа!

Ідзе рахунак люты... Як ні цяжка
Скарэламу у попеле сядзець,
Клясці зачацця ноч і дзень народзін,
Ды ўжо рука глумлення распасцёрта
Над самым дарагім у нас —
Душой!
Напэўна, паступіўся Бог апошнім:
Душу цкуюць і бэсцяць адусюль,
Запрадаюць, як скуры... Як жа можна
Пускаць душу ў заклад?
У кіпці Д'ябла!

### Іоў

Не адхіляйся ў мудрасць...
Лепш падай
Кавалак чарапіцы той шурпатай
Ды памажы абскрэбці мне са скуры
Запыленае струп'е...
Злая смага,
Дай праглынуць у горле ўкасцянелым
Задушлівы камяк... Мае цярпенні,
Пякельна несхадзімыя,
На шалях
Вы пераважылі б пясок марскі...

### Скарына

Тваё доўгацярпенне — як урок
Для нас, беларусінаў...
Ды скажы,
У вобразе якой злаўрогай прытчы
Паўстанем хутка мы перад сусветам,
Перад прадоннай цвердзю сініх зор,
Перад разумным духам усёісным,
Калі ўсявышні сёння аддае
Злыдушным сілам на выпрабаванне,
На зганьбаванне, здзек, на патаптанне
Душу?!
Глядзі — як у маю душу
Уеўся цень крыжастай гэтай краты!
Яна клюе, як дзюба варання,

Знутры мой дух, парушаны цямніцай...
На выпетраным целе — не балячкі!
То праступаюць з дна душы нясцерпна,
Як язвы свету хіжага,
З мяне
Балюча, незагойна праступаюць
Закінутыя гвалтам у душу
Наводы, змовы чорныя, хлусня,
Падступніцтва, насмейства, удушэнне!
Я рукі уздымаю...
Моцны Божа!
Навошта ты нячысцікам смярдзючым
Дазволіў апаганьваць брыдка, брудна
Недатыкальнасць духу чалавечага —
Сумленне, цноту,
Міласць, браталюбства!
Таптаць святую Кнігу!.. Хіба можна
Яе тупым насільствам апаганьваць?

Іоў

Шукаеш ты няправых?..
Як жа так?
Дабро ад Бога будзем мы прымаць,
А зло прымаць не будзем?

Скарына

Зло — ад Бога?!

Іоў

Бог пасылае злое, як агонь,
Каб выпрабоўваць золата!

Скарына

Дакуль?
Ці трэба мяне вечна выпрабоўваць?
Як быццам непамысны корань зла
Ва мне засеў яшчэ з граху Адама!
Чаму ж не верыш ты свайму тварэнню,

Якое ты,
Зляпіўшы з гліны, з праху,
Дыханнем ажывіў?

Іоў

Але нячысцік
Паспеў таксама ў гэтае тварэнне
Свой дух смярдзючы удыхнуць!
Францішак,
Дарма ты б'ешся ў мудрасці цянётах,
Спрачаешся са мною ці з сабой?
Заблытаўшыся ў зманлівых пісьмёнах,
Гатоў ты, як Фама той, правяраць
Светабудову,
Што стварыла слова!

Скарына

О, ўсемагутнасць слова!
Як не верыць
У сілу творцы, што тварыў — з нічога!
Зямлю, сусвет павесіў — ні на чым!
Я веру!.. бо калі не ён —
То хто ж?
Я б'юся ў згадках роспачна, пакутна,
Спрачаюся у роздумах начных...
Не выпрабоўвай, Божа, так бязмерна
На веру моц майго доўгацярпення!
Бо чалавек не вераю адной
Жыве...
Жыве ён хлебам роднай справы!
Вучыў ты:
Цела без душы і вера —
Без справы — мёртвыя!
Дык справай пацвярджайце!
Бо ты наш Бог — не мёртвых, а жывых!
Ці не святая справа — асвячаць
Разумнасцю пісьмёнаў
Чалавека?
Вясці яго да міралюбства, згоды

На землях родных і па ўсёй Зямлі!
Калі ты, Божа, воляю сваёй
Кіруеш кожным помыслам, памкненнем,
Маёй няскоранасцю духу,
Значыць, —
Ты для мяне ўсявышні — гэта кніга,
Ты для мяне ўсявышні — гэта край
Радзінны, паспаліты мой,
Зямля,
Якую я і тут, за брудңай кратай,
Прачыстай сню і ўспалымнелым зрокам,
І сэрцам клічу з цемры да Асветы!
Да самаўсведамлення!
Што за сілы
Ты, Божа, даў, каб гэтак спадзявацца!
Калі ж не суджана па волі злой
Мне спраўдзіць запаветнае,
То суджана камусьці гэта ж здзейсніць!
Зямля мая, не падзялі мой лёс!
Ты чуеш мяне, край мой любы,
Люд,
Я заклінаю ў гэтым пеклаванні:
Не станьцеся Іовам!

## З'ЯЎЛЕННЕ МАРГАРЫТЫ

Маргарыта

Я за тваімі спрэчкамі начнымі,
За роспачнымі крыкамі душы
Сачу і з тога свету...
Я — ў трывозе.
Ты можаш так парушыцца зусім,
Скрануцца з глузду...
Часу тут багата,
Каб у бяссонні, ва ўспамінах-згадках
Раз'ятрывацца горка, выклікаць
Са змроку прывіды, дыскутаваць,
Узважваць сэнсы ўсе, наканаванні,
Пакутваць утрапёна...
Я прыйшла,
Каб даць параду, трохі абразуміць,
Прысутная заўсёды, я ўсё бачу...
Я вечны твой дакор і напамін!

Скарына

О галубіца!
Як я не сумеў
Цябе засцерагчы ад судзішчаў,
Ад калатні, атрутнага паветра,
Ад страт, балесна перажытых?
Ды і сваіх блуканняў непамысных,
Ад усяго, што здуру я ўчыпіў!
Не адмалю і кроплю даравання
Твайго — і на тым свеце,
Маргарыта!
Мяне, я думаў, выраклася ты,
Бо ўсё радзей, радзей у сон астрожны
Прыходзіла з дакорам...
Ну, скажы,
Як з гэтай ямы выбрацца — вярнуцца
Да нашых асірочаных дзяцей?

Маргарыта

Дакуль твайму бяссонню пеклавацца?
Ты волі выглядаеш, правасуддзя?
Чакаеш справядлівасці ганца,
Што з Кракава вязе табе ясноты?
Ох, бачыць горка мне,
Як ты адчайна
Шукаеш выйсця, ранячы душу,
Як б'ешся ты аб крату галавой...
А дзе была раней твая прамудрасць?
Ці раз ты адхіляў руку апекі —
Збавенне ўсёй сям'і!
Ты не шкадуеш?

Скарына

Фундатары мае — яшчэ ў калысцы.
Відаць, не дачакацца мне іх, годных!
А тых, нягодных, што нясуць рабунак
Маёй душы і справе, ці не лепш
Адпрэчыць?

Маргарыта

Ты адпрэчыў — і мяне...
Разгледзеў бы спачатку:
Дзе рабунак?
Выглядвай паратунак для сям'і!
Ты ж — бацька...
На каго, скажы, пакінуў
У Вільні нашых сірат?

Скарына

Ты даруй...
Хіба я думаць мог пра гэту яму?
Я толькі аднаго хацеў пазбыцца —
Уласнай ганьбы, здрады...

Маргарыта

Але ж ты...
Ты здрадзіў большаму: сваёй сям'і!

Ты з дому нашага забраў цяпельца,
Дастатак і бяспеку...
Ці не я,
Ступаючы адной нагой у дол,
Цябе высцерагала, так маліла:
Не ўпарціцца бяздумна ваяводзе!
Ціхмяна ўдай яму сваю пакору...
Ён — уладарца ў Вільні,
Ён жа — бог!
Вышэй за Гаспадарскі суд.
А ты?
Не да яго з пакорай прыхінуўся,
А ў Прусію падаўся да Альбрэхта[57]...

Скарына

А як інакш?
Пагроза канфіскату
Тады навісла зноў над нашым домам.
Я адхіліў бяду!
Я адшукаў
Заступніцтва маркграфа, разуменне,
Гасціннасць Кёнігсберга, нават больш —
Пачцівасць запрашэння да двара...

Маргарыта

Ці скарыстаў ты тое запрашэнне?
Паганьбаваў Гаштольдам,
Дык прыняў бы
Апеку хоць бы Прускага Альбрэхта!
Такі шчаслівы выбліснуў выпадак!
Ён пакідаў цябе ў двары вяльможным,
З усёй сям'ёю нашай у Крулеўцы,
Увесь наш род узводзіў у дваранства!
А чым ты адплаціў яму?
Аж сорам!
Маркграфа ты акрутна так зняславіў!
Аддзякаваў няцнотай за лісты,
Дзе столькі дабрачыннасці было
І захаплення розумам тваім...
Навошта ты зманіў яго падданых —

І друкара, і лекара?..
А потым
Звёў і мяне трывогамі у дол...

Скарына

Даруй мне, галубіца...

Маргарыта

Галубіца?
Перад табою — маці ў цернях...
Цень!

Скарына

Мая лілея ў цернях... Лай мяне!
Але прашу — паслухай маю споведзь
І зразумей, каханая...
Дык вось.
Апошні раз рашыў я паспытаць
Свой лёс друкарскі!..
Калі ўжо няма
Апекі маёй годнай, дык я сам
Фундатарам друкарні ўласнай стану!
Пайду на раздрабленне — рызыкну!
Па шчырасці,
Дык гэта зерне думкі
Выношваў я ў таемнасці з тых дзён,
Калі дзялілі прагна крэдыторы
У Познані ўсе спадкі брата — скуры
У Карбавым скляпенні...
Ты ж сама
Даверыла мне цалкам сваю долю,
З наказам выпраўляючы ў дарогу:
Каб я спагнаў сваё!
Мая сяўня
Была, нарэшце, з донцам залатым!
Далоні засвярбелі аж — дзве соткі
Літоўскіх копаў!
Цэлая маёмасць!
Мне з ёю так карцела — ну яшчэ раз,

Хоць з рызыкай, ды выйсці на загон
З сяўнёй пісьмёнаў родных!
Бог ты мой!
На што не пойдзеш дзеля кроўнай мэты,
Што апантана ўсё жыццё трымае!
На безгалоўе... Нават — авантуру!..
Наліха той Крулевец ды шляхецтва?
Шляхецкасць мая — ў спраўджанні задум!
Ды разгадаў Альбрэхт мой запаветны
Намер —
Паслаў мне злосна наўздагон
Стралу атрутную... Зыркаты д'ябал!
І трэба ж так сарваць мае надзеі
На друкаванне... Мары ўсе разбіць
Аб гэту крату!
Беды ўсе мае —
Ці не заціснуты ў адзіны вузел?
Альбрэхты два — і віленскі, і прускі...
Ці не заблытаўся між іх мой лёс?

Маргарыта

Заблытацца ў цянётах злых не штука!
Няўжо ты, знакаміты, дзельны, змысны,
Пачцівы і доўгацярплівы,
Хочаш,
Каб род наш, нібы дрэва з каранямі,
Віхура злая вырвала?
Паслухай.
Сюды я да цябе не так прыйшла
З дакорамі цяжкімі з тога свету.
Я вечны твой і боль, і напамін:
Каб ты за кратай галаву не траціў!
Ты сам казаў:
Калі сляпы сляпога
Вядзе — у яму ўваляцца дваіх!
Залішне я была сляпой, калі
Жыла ў абладзе мар тваіх —
Згаворлівай, маўклівай, паслухмянай...
Прыйшла я з папярэджаннем!

Ты чуеш,
Як стогне рэха крокаў на прыступках?
Сам Бог яшчэ падзею шле табе
На выбаўленне з бруднай ямы…
Чуеш —
На лесвіцы вяльможную хаду?
Ты перад зданню той схіліся ніц…
Кіўні аб згодзе…
Не ўступай у спрэчку!
Ты сярод прывідаў начных такога
Не прычакаеш слыннага візіту…
Пашле табе ўладарца выбаўленне.
Яго пакрыўдзіў ты…
Але важней
Цяпер яму — задума кніжнай справы!
Францішак, любы, не ўпускай імгнення!
Ты пад рукой высокае апекі
Паслужыш не вяльможы,
А сабе!
Памножыш скарбы мудра, незлічона
І утрываліш прышласць для дзяцей!
Ідзе ратунак, помні…
Абхітры
Свой час ліхі з ліхімі ўладарамі!

## ВІЗІТ АЛЬБРЭХТА ПРУСКАГА

Дзверы ў вязніцу Скарыны шырока расчыняюцца. У рыцарскім убранні, з гарнастаевай мантыяй на руцэ з'яўляецца Альбрэхт Пруські.

Скарына

Высокі госць, маркграфе?
Не чакаў
Я вашага візіту у вязніцу.
Я не ўяўляў і ў пострахах начных,
Што ўбачу сярод зданяў
Вашу светласць!

Альбрэхт Пруські

Казаў Салон[58]:
Закон, як павуціна —
Увязне ў ёй слабы, а дужы сам
Сумее вырвацца...
Сюды б я мог і не спяшацца!

Скарына

Што вы!
Я сотку дзён адчайна тут, на кратах,
Крыжую плоць знямоглую, душу,
Але людская жорсткасць меж не знае!

Альбрэхт Пруські

Ці шанаваць навучыцца Карона
Недатыкальнасць доктара?
То ж — звычай
Культурнага паспольства свету...

Скарына
*(Абводзіць рукамі вязніцу.)*

Вы...
Так-так, вы ўсе, хто ўпёк мяне сюды, —

Дзяцей хоць пашкадуйце!
Маіх сірат!
Вы топчаце наўмысна і глумліва,
Забраўшы бацьку ў іх —
Дзяцей маіх!

Альбрэхт Пpycкі

Я спачуваю вам... тут недарэчнасць!
Прынёс я вам спагаду і з Варшавы —
Ад Пястаўны[59]... Я толькі ад яе.
Пра вас пачулі мы ад іудзеяў,
Вяртаючы пазыкі ім свае...
Якая прыкрасць!.. Ведаеце, ў Ганны
Уласны незагойны боль... Яна
Так разумее вас...

Скарына

Я ўдзячны ёй...
Ды што за супадзенне — трэба ж так!
Учора сярод прывідаў начных
З'явіўся мне, як цень, жахлівы вобраз
Трагедыі тых Пястаў... Баль крывавы!
Яго спраўляла Бона — чашы дзве
Паднесла Янушу і Станіславу...
У чашах тых з густым, як кроў, вінам
Канала непадлегласць іх Мазоўшы...
Звон лютні... І труцізна!
Скуль яны?
Труцізнай паслугоўвалася часта
Еўропа ў войнах дынастычных... Толькі —
Не мы!
З'яўленне каралевы Боны
Занесла разам з модамі і гэту
Акрутную забойчасць...
Ох, як зручна!
Каго труцізнай сцяць, як тых апошніх
Братоў двух Пястаў — і хвала!.. Канец
Дынастыі старой...
Святкуй захоп Мазоўшы!

Каго з пракляццем Рыма — на касцёр!
Ну, а каго — іржавай гэтай кратай...

Альбрэхт Прускі

Ды як вы дапусціліся, каб вас
Ламалі кратай бруднай?

Скарына

Ах, вяльможны!
Не задавайце мне такіх загадак.
Хіба вас не ламалі?.. Прыгадайце!
Ці соладка было ў сваіх руках
Ламаць магістру Ордэна самому
Знак уладарства — шпагу?
І, сагнуўшы,
Свае калені перад Жыгімонтам,
Усклаўшы на Евангелле далонь,
Прысягу даць:
Быць вечным падапечным,
Слухмяным леннікам Кароны... Так?

Альбрэхт Прускі

Але ж не леннік я ў сваёй зямлі!
Не склаў я зброі, не зламаў —
Змяніў!

Скарына

Ці не падказваеце мне ласкава —
Быць вашым збраяносцам?

Альбрэхт Прускі
*(Перапыняе, здымае з рукі мантыю.)*

Пачакайце...
Тут золь нясцерпная і плесня — фу-у!
Аж да касцей праймае...
Ну, а вам
Патрэбна берагчыся!
Апраніце...

Скарына

Ах, мантыя!.. Блакітны гарнастай.
Але прыпяць?
Ды за якую ласку?
Калі што-кольвек я ў вас заслужыў,
Дык не дарунак гэты, а ваш гнеў,
Расчаравання стрэлы наўздагон
І сцежку заадно —
Да гэтай ямы!

Альбрэхт Пруські

Сваёй адмовай
Доктар цяжка крыўдзіць
Не толькі містра Ордэна...

Скарына

Былога... Мы —
Даўно ўжо сталі леннікамі з вамі:
Я — ў злога часу.
Вы — у Жыгімонта.
А сплочваем —
Хто ямай, хто сумленнем...

Альбрэхт Пруські

Францішак, пэўна, ў крыўдзе на мяне
За прыкры той выпадак?
Лепш — забудзем...
Славуты доктар вёў тады сябе,
Згадзіцеся, зусім неадпаведна
Сваёй высокай годнасці...
*(Ушчувальна ўздымае палец.)*
Забраў...
Змануў патворна...
Звёў з сабой маю
Астатнюю надзею — друкара,
Якога шанаваў я, як зрэніцу...
А разам — іудзея-лекара!
Ці не грабежства сярод бела дня?

Скарына

Я мог бы адказаць старою прытчай
Пра той магічны камень:
На яго
Паўстала з крыўдай шэрае каменне.
Але хіба не смешна вінавацiць
Прыроджаную сілу прыцягнення?

Альбрэхт Прускі

На тую сілу — сіла права ёсць,
Закону!

Скарына

А ці ведаеце вы,
Што і ў мяне было старое права
На вашых падапечных?
Што вас дзівіць?
Яны ж былі ў супольнасці са мной
Яшчэ з друкарні пражскай!
Ці не я іх навучыў пазнанню —
Літар, зёлак?
Яны шкадуюць, як і я, што лёс
Нас разлучыў, спыніўшы стук варштату...
Я і цяпер гукнуў бы іх, каб толькі
Ажыў варштат друкарскі!

Альбрэхт Прускі

Так, яны —
Прычараваны нашым затлумленнем...
Яны чакаюць вас!
Я слова даў,
Што сам да вас звярнуся з запрашэннем.
Дык, калі ласка, ў замак!
Мой варштат
Таксама кліча вас да спраў вялікіх!
*(Маўчанне.)*
Ці я не зычыў, доктар, вам дабра?
Я прыхінуў гасцінна вас, як брата.

Я шчыра вам паказваў шлях ратунку.
Вы з бляскам жыва так дэманстравалі
Найвысшае майстэрства выяўлення
Навукаў вызваленых,
Мудры вопыт,
Набыты на дарогах вандравання,
Гаючы талент лекарства, свой дар,
Пазнанне таямніц жыцця,
Што я
Вас прыпісаў, як блізкага, да кола
Людзей свайго двара —
Сваіх падданых!

Скарына

Мне дзіўна толькі:
Гэтак вокамгненна
Умее рыцар здраджваць свайму слову,
Заступніцтва мяняць на стрэлы помсты...

Альбрэхт Прускі

Я ў змову не ўступаў з Гаштольдам, не!
Я проста да канца не вызнаў мэт
Таго візіту вашага...
Скажыце — вас толькі вабілі лісты мае?
Заступніцтва перад няласкай Вільні?
Мой голас атэстацыі высокай?
Ці людзі мае — лекар і друкар?
А можа, што яшчэ?
Той новы свет
Вызнання лютэранскага?.. Вучэння?
Цікавасць Рэфармацыі Марціна?[60]
Прызнайцеся! Я ж вам даваў нямала,
Ды вы не ўмелі браць...
Ці не хацелі?
Даваў сваю руку, пратэктарства...

Скарына

Я дзякую... Вяльможная апека
Была такою зманлівай!.. А спрэчкі —

Такімі вальнадумнымі!..
Ды вір
Вызнанняў розных, поглядаў, вучэнняў,
На жаль, па розных плынях нас панёс...
Эразм і Гутэн[61]...
Лютэр... Томас Мюнцэр[62]...
Эпохі нашай воблік і акраса!

Альбрэхт Пруські

Вы не ніжэй, паверце, іх!
Ваш розум...

Скарына

Не месца тут для гучных атэстацый...

Альбрэхт Пруські

Я адчуваў адно: сустрэча наша —
Прадвызначэнне боскае!..
Вас грэшна
Не запрасіць для справы і для славы —
Як запрашаюць вунь наперахоп
І гарады, і княствы, і пасады
Эразма з Ротэрдама... Пад карэту
Шпурляюць кашалькі, фларэны, кветкі...
Вы значылі б не меней для мяне!

Скарына

Вам трэба на паслугу маё ўмельства?
Ці пакланенне новаму вызнанню?

Альбрэхт Пруські

Прыкмеціў я з прыемнасцю:
Палоняць
Зярняты Рэфармацыі і вас!
Так, я вызнанец Лютэра... А вы?
Ці вызналі надзейныя хады
У крэпасць сваёй веры?
Ці душу
Патрэслі новыя вераву чэнні?

Ці там шукаеце сваё збаўленне —
Для земляў родных?
Вам — ад Яна Гуса
Ляжыць дарога проста — да Марціна!
Да Лютэра вы прыйдзеце яшчэ
У Вітэнберг уласнымі нагамі!

Скарына

Ідуць мае духоўныя памкненні
За межы, абазначаныя вамі...
Але мая прыглядка на Марціна
Не скончана...
Шкада, выпадак прыкры
Мяне вярнуў заўчасна з Вітэнберга.
З якой бы асалодай я цяпер
З Марцінам пасядзеў за куфлем
хмельным!..
Калі я толькі вырвуся з-за краты,
Дальбог, я не стрымаюся і рушу...

Альбрэхт Прускі
*(Падхоплівае.)*

Я ж і кажу!
Але цяпер, мой доктар,
Ратунак ваш адзін пакуль што... Так!
Ідзе праз рэзідэнцыю маю!
Адсюль вас вырве моц мае рукі,
Высокае заступніцтва ў Кароне
Перад самім Гаспадаром!
Мне лёгка
Пераканаць старога Жыгімонта,
Давесці ўсю няправасць крэдытораў,
Што вас сюды зламоўна упяклі...
А тыя іх грашовыя вымогі,
Прэтэнзіі — хоць сёння я сплачу
За вас — да пфенінга...
Вы не пярэчце!
Вы потым акуратна аддасце
Са скарбаў, у мяне запрацаваных...

Скарына

Я мог бы сам вымогі крэдытораў
Сплаціць за брата...
Але хто
Мне сёння сплоціць па высокай меры
Заплямленасць намоваў іх?
Хто вытра
Іх бруднасць з чалавечага імя?
І хто суцешыць боль маленькіх сірат?

Альбрэхт Пруські

Ды вы без даху роднага!
Той дом...
Злашчасны дом у Вільні, з-за якога
Судоў было,судоў! —
Як гневам боскім,
Пажарам спапялёны... Дзе ж прытулак
Надзейны ваш?..
Падсуседзі ў сяброў?
На гэты раз, мой доктар, спадзяюся,
Вы болей будзеце удумным, мудрым
Наконт сябе...
Вас болей не спакусіць —
Вярнуцца да разбураных ілюзій...
Я не штурхаю на прымус!
Пачціва
Я толькі прапаноўваю вам службу —
З выгоднасцю для вас і для мяне!
Я сам вас ахіну міласпагадай
З дзяцьмі...
Я выдам прывілей, якім
Яшчэ ніхто з купецкага карэння
Ніколі не валодаў...
Да даброт,
Што працай вы заслужыце сумленна,
Дадасца вам навечна —
З роду ў род! — Высокая шляхетнасць!

Скарына

Што за помрач!
Як часта на радзіме плоцяць кратай,

А на чужыне — ледзь не абяцаннем
Зямнога раю!
Так здавён, здавён…
Ды ці я маю права спакушацца?

### Альбрэхт Пpyскі

Патрэбен Прусіі высакагодны
Тлумач святых Пісанняў, знаўца тонкі
Кніг старадаўніх…
Мудры выкладач!
А заадно — выдатны майстра друку!
Калі Еўропа ў войнах рэлігійных
Агнём нявечыцца, крывёй сцякае,
Калі даўно чакаюць нашы землі
Сваёй, а не лацінскай веры,
О-о-о!
Як мне патрэбна пруская друкарня!
Няўжо вам бруд ліпучай павуціны
І плесня гэтых сцен —
Мілей, чым воля?
Чым свежы пах паперы, фарбы, кніг?
Ці не ўсё роўна —
Дзе служыць Асвеце?
Шляхетнасці, культуры блізкіх земляў!
Вас запрашае ў замак для супольства
Магістр славутай Прусіі, якой
Яшчэ здабыць належыць Адраджэнне!
Дык вырашайце:
Двор мой — альбо крата?

### Скарына

Я буду ноччу думаць над адказам…
Ды, мусіць, праўду гаварыў Салон:
Закон — як павуціна…
Але той,
Хто дужы правасцю, доўгацярпеннем,
Хто мудры чысцінёй сваёй душы, —
Прарвецца з павуціны сам
І бруд —
Адкіне на ганіцеляў сваіх!

## З'ЯЎЛЕННЕ МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА, АБО ПАЗНАННЕ СЯБЕ

*Прамаўленне духу Скарыны*

*Калі застаўся ўлоўлены ты кратай,*
*Угледзься у душу зямлі глыбей!*
*Успомні мудры запавет Сакрата:*
*Пазнай сябе!*
*Ці ты пазнаў сябе?*

*Пазнай сябе, свае ўсе злопрычыны:*
*Адкуль яны, нязводныя, як лёс?*
*Ці споўніў для сябе і для Айчыны*
*Той мудры запавет саміх нябёс?*

*Хто на наш род з вякоў накінуў гора?*
*Самапазнанне — боскі запавет!*
*Яго з руін Дэльфійскага сабора*[63]
*Узяў Сакрат, каб перадаць у свет.*

*Не з галавы, не з ілюзорных мараў*
*Свой мудры афарызм здабыў Сакрат.*
*Наказ сышоў з вышыняў —*
*з-пад Стажараў,*
*З-пад Арыёна, быццам зоркапад.*

*Упаўшы на дэльфійскія калоны,*
*Ён высек літар дзіўнае святло:*
*«Пазнай сябе!» —*
*з вытокаў і заломаў,*
*Каб адлягло —*
*ад родных земляў зло.*

*Дайсці да злопрычын мы мусім самі,*
*Павінны дакапацца з глыбіні:*
*Хто — мы?*
*Дзе нашай праўды карані?*
*Дзе выйсце, што накрэслена багамі?*

Каля закратаванага акенца — Скарына.
Ён выглядае звестуна волі, справядлівасці.
Ён адразу і не чуе, як, з'явіўшыся ў вязніцы,
да яго пляча дакранаецца Мікола Гусоўскі.
Сябры абдымаюцца.

Гусоўскі

Прынёс мне тваё гора да Пултуска
Братаніч дабратлівы твой Раман.
О, д'яблы!
За ваш дзікі глум і зман —
Хай вечна вам і ў пекле будзе пуста!

Скарына

Даруй, што патрывожыў праз Рамана
Цябе над Наравам... Гляджу — твае
Ступаюць ногі цяжка, неслухмяна.
Дай пагляджу —
ці не паралюш б'е?

Гусоўскі

Прыпластаваны год я да пасцелі,
Ды закарцела так абняць цябе!

Скарына

Маю душу назольна тут скрабе
Наказ Сакрата:
Ты пазнаў сябе?

Гусоўскі

Сябе мы не пазналі —
Вось паралюш!
Уелася чужына ў маю косць.
Ты на сабе спазнаў тут:
Хіжасць, злосць
Па-змоўніцку і топчуць нас, і раняць.
Ты, як і я, у біскупа ў апецы.
На службе нашы музы, зёлкі, дух.
Убок саступіш —

Ёсць аброць і лейцы.
Ёсць пад крысом фанатыкаў абух!
Ох, каб цяпер —
Мне хоць глыток адзіны
Адтуль, з Радзімы,
З пушчаў і гаёў,
Дзе сэрца працінаў мне рык зубрыны,
Дзе рагачы вялі мяне з гайнёй,
Дзе я, ўчапіўшыся каню у грыву,
Кідаўся ў стромы Нёмана, Дняпра!
Сын палясоўшчыка,
Я — з тых мыслівых,
Якія ў жылах чуюць кроў зубра!
Не сэрца — тупаціць зубрыны статак,
То замірае раптам, як світанак,
Дзе распачаў свой баль глушцовы ток...
Мне б з тых крыніц —
Ты чуеш? — на астанак
Ну хоць адзін малюсенькі глыток!
Я б акрыяў...

Скарына

Скажы, але чаму
Мы толькі ў немачы або з-за краты
Шчымліва б'емся ў дзверы роднай хаты?
Апомнімся!

Гусоўскі

Бо тут — чужына душ!

Скарына

Чужына душ?
Вось, браце, сэнс цяжкі!
Мне ад яго аж непамысна штосьці...
Ды на Радзіме, любай з маленкосці,
Свае хіба не ходзяць чужакі?!

Гусоўскі

Што мне казаць...
Я для сваіх куткоў
Стаў чужаком сваім між чужакоў.
З Айчыны па сваёй ахвоце гнаны,
Не адмалю я ўжо сваіх грахоў,
Хоць сняцца мне і пушчы, і паляны...
Мне немач злая —
Гэта як адплата!

Скарына

Ты строгі лішне...
Хіба ж то грахі?
Была чужына нам — як alma mater,
Вастрыла розум, каб затым дахаты
Вярнуць нас на вышэйшыя кругі!

Гусоўскі

Ды ці вярнуўся я?

Скарына

Душой вярнуўся!
Твая Carmen[64] пяе пра родны кут.

Гусоўскі

Ды ці свае пісьмёны
Нёс я ў люд?
Вось так, як ты нясеш для Белай Русі!
Змяніў я спеў пушчанскі на лаціну...

Скарына

Ды не сышоў ты з родных пуцявін.
Ты ў «Песні пра зубра» —
Беларусін!
І ўдзячны родны край табе як сыну!

Гусоўскі

Свае сумненні я табе прынёс
На сконе год,
Я — у даўгу, Францішак...

Скарына

Твая Carmen —
То Бацькаўшчыны лёс!
Адна не меней важыць маіх кніжак.
Спачатку, праўда, я крыху злаваў:
Чаму ты ўдася ў боскую лаціну?
Наш край даваў наказ беларусіну,
Каб сваю мову ў кнігах справаваў!
Каб люд свой прыўздымаў —
Праз асвячэнне!
А ты наладзіў гуслі папе Льву[65]...
Я разумеў, што тут не адрачэнне.
Ды час і нам сваю мець галаву!
Усё ж чужына нас студыявала
Не так сабе:
Пара пазнаць сябе!
Тваё самапазнанне праспявала
На гуслях свету цэламу ў журбе.
Ты вобраз Белай Русі з-пад заслоны
Прыўзняў, як дзіва, — ў вобліку зубра!
Гуртуюцца ў народ адзін плямёны
З адзнакай першароднасці, дабра —
Твой спеў вячысты і боганатхнёны!
Сабраў ты вобраз краю па крупіцах —
У звычаёвым праве, у быліцах,
Павер'ях, прымхах —
Ад дзядоў, паган...
То ж гэта наша людства крывічан,
Нашчадкаў і Зубра, і Мілавіцы!
Зубра аточаць верхнікі, лаўцы
І тнуць з бакоў галоднай, хіжай псярняй.
Ён сваім хібам грозна і ўладарна
Устрасяне — ляцяць ва ўсе канцы!

Гусоўскі

Кажы ўжо да канца...
Загнаны ў пастку,
Ён скача на завалкі і брусы.
Зваротны шлях адцяты — у лясы.
Лаўцы пастронкі цягнуць, нібы ласку.
Аркан — на шыю, галаву — да ног,
Вужышчамі і путамі стрыножаць.
Лаўкач нахабна ўсядзе паміж рог,
За колца ў пысе цягнуць і рагочуць...
А потым распярэсцяць у мішэнь —
Для пробы спрыту,
Збройнага рыштунку.
Са стрэламі ў баках, ён паратунку
Не просіць...
Гасне ў зрэнках дзень...
Пасвежаваўшы волата, на скуры
Разлягуцца, учыняць шумны баль...

Скарына

За гэтай прытчай бачу я, на жаль:
Не баль яны спраўляюць,
А хаўтуры!

Гусоўскі

З братазабойчай хіжасці, з усобіц —
Няўжо ўладарнасць выйграе сусед?
Арканяць край, не цямячы, што робяць!
З расколіны зжахнецца яшчэ свет!

Скарына

Ты ўклаў у «Песню пра зубра» пазнанне
Гісторыі, што быццам цёмны бор,
Дзе на падпал пакінуты касцёр
Падчас ліхі ўзаемапалявання!
Урокі ёсць...
Але ці ёсць узор?



Гусоўскі

Я запалонен Вітаўтам[66] — зубром!
Ён орды супыніў...
Ён выцяў здрады!
Ён, праўда, не плаціў за зло дабром.
Плаціў за зло ён ворагу —
Грунвальдам!

Скарына

Ён — князь вялікіх ратных сіл...
Ды ўсё ж —
Ці гэта падсякала зброд і хіжасць?
Ні муштра, ні харугвіі, ні грош,
Дзяржаве моц дае —
Верацярпімасць!
Ці гэта трохі цяміць той разумнік,
Што падсякае іншым карані?
Разваляцца імперыі хлусні,
Іх не ўратуе хітразмоўнасць уній!

Гусоўскі

Расце наш недавер —
Гаспадару...

Скарына

Ты мовіш сам,
Што зубр наш — у загоне!

Гусоўскі

Я прысвяціў Carmen з надзеяй Боне.
Ёй ліст паслаў...

Скарына

Я дзякую... Ды сёння
Ці ў яме ад таго лягчэй зубру?

## ANTIDOTUM[67]

Радзее прыцемак у вязніцы.
На ратушы б'е гадзіннік.
Час плыве нібыта міма ўсведамлення.
С к а р ы н а ідзе да кратаў,
углядаецца ў неба.

С к а р ы н а

Я прадчуваю:
Лопне, нібы лёд
Напровесну, — зламыснасць
чорнай змовы.
Але чаму мне сёння так балесна
І роспачна на сэрцы?
Хмары неба
Выпісваюць за кратаю абліччы
Істотаў выкапнёвых — дыназаўраў,
Хвастатых жывацін з галоўкай вузкай,
Пачвараў розных...
Сёння на зямлі
Сярод людзей яны перавяліся?
Як цяжка ўпасці, патаптаным імі!
Ахвярай стаць —
Іх варварства, дзікунства,
Сляпых інстынктаў, хіжага разліку!
Адкрыты Новы свет?
Вунь крывянеюць
Ля ног канкістадораў землі інкаў,
Ацтэкаў!
Хіжыя лупежцы скарбаў
На кубаметры мераць золата!
Картэс[68] не паспявае адсылаць
Рабунак на крылатых каравелах
Для Карла Пятага...[69]
Вы кажаце:
Наш свет з паўшар'яў двух?
Ён з двух цяжкіх каменняў жарнавых
З насечкай грубай!
Колькі паміж іх

Пераціраецца ахвярных лёсаў!
Зярнятак прыязі і другалюбства!
Што круціць іх шалёна —
Два паўшар'і?
Што горбіць чалавечы стан, ды так,
Што ў годнасці не выпрастацца!
Езус!
Чаго яшчэ чакаць, калі твая
Адна святая вера хрысціян,
Як шар той, раскалолася,
Як жорны —
Затрэслася паміж кругоў шурпатых!
Я — зерне паміж камянёў!
Я марыў
Пра першароднасць чысціні людской,
З якой у колас пойдзе браталюбства,
Пашана бліжняга,
Верацярпімасць!
Але імперыям, мацарствам хіжым
Чужыя землі гэтак зручна верай,
Як пашчаю акулы, праглынуць
І пераварваць разам з іх найменнем,
З іх мовай, духам...
Як жа гартаваць
Унутраную моц супраціўлення
Усім аматарам грызення, збродства?
Няхай яны сваё пажранне
Выблююць!
Я мушу гартаваць свой antidotum!

Скарына кідаецца да дзвярэй — вось пачне грукаць. Чуецца гулкае набліжэнне крокаў. З'яўляецца бурмістр Скаргардыян з пакетам.

Скаргардыян

Зважайце, слынны Доктар. Гэта прамаўляю да вас не я, а яго Каралеўская Вялікасць *(Чытае паперу.)*: «Я, Жыгімонт, з ласкі боскай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі... Усім і кожнаму з прыдворных, кашталянам, старастам, бурмістрам, войтам,

радцам... Дамагліся тут ад нас апошнім часам іудзеі варшаўскія указу супраць шаноўнага Францыска Скарыны, якога яны без усялякага права называлі даўжніком, чалавекам без заняткаў, бадзягам... Але мы даведаліся ад мудрых нашых дарадцаў, людзей сумленных і знаных у Каралеўстве, а таксама ад прадбачлівага юнака ў паўнамоцным узросце, сына памерлага купца Івана Скарыны Рамана, што Францішак Скарына з'яўляецца вельмі паважаным і маёмасным чалавекам, знакамітым доктарам мастацтваў і лекарства, і да яго не было знойдзена ніякага правасуддзя па яго праву. Таму мы загадваем вам гэтым указам і граматай неадкладна адпусціць Францыска Скарыну на волю з турмы...

Жадаючы дзеля гэтага адарыць яго асабістай нашай ласкай, мы знайшлі патрэбным даць яму многія льготы і прывілеі. Тым самым мы адказваем за яго поўную бяспеку і бярэм яго пад нашу ахову і апеку. Няхай ніхто не адважыцца затрымліваць або арыштоўваць яго самога ці яго маёмасць. І няхай будзе вызвалены і свабодны ён ад усякіх павіннасцей і гарадскіх службаў... Не смейце наогул умешвацца ў яго справы, якія б ні былі яны важныя ці нязначныя, прычыняць яму якое-небудзь насілле ці знявольваць. І няхай ніхто з вас не адважыцца рабіць гэта пад страхам нашай цяжкой кары адпаведна нашаму загаду і міласці нашай...»[70].

Скарына ў цяжкім утрапенні глядзіць
на краты. Рэзка адварочваецца ад іх.
Але прывідныя ценіクратаў няўмольна
наступаюць, разрастаюцца з бакоў.
Скарына пераводзіць успалымнелы зрок з месца
на месца... Краты! Ён вусцішна кідаецца
ад сцяны да сцяны. Хапаецца за галаву і,
не вытрымаўшы напругі, апускаецца
на халоднае каменне. Скаргардыян кідаецца
да яго. Лісты каралеўскай граматы
бязладна разлятаюцца ва ўсе бакі...
Вакол Скарыны, нібы ў карагодзе,
наступаючы на каралеўскія прывілеі,
кружацца мройлівыя цені вяльмож, ваяводаў.
маршалкаў, кашталянаў, крэдытораў...
Карагод вядзе Бона. Скарына прыўстае,
нематліва глядзіць на шалёны карагод
прывідных постацяў — узмахам рукі
рашуча адпрэчвае насланнё зданяў.

## Прамаўленне духу Скарыны

*Шукаю antidotum —*
*Супраць'яддзе,*
*Апірышча параненай душы,*
*Прыцвікаванай горам на крыжы*
*Загнанасці, няправасці, пракляцця!*

*Шукаю antidotum —*
*Супраць тых*
*Аматараў насмейства і цкавання,*
*Што топчуць без развагі, пакаяння*
*Вялікасць рэчаў, родных і святых!*

*Шукаю antidotum —*
*Супраць здрады,*
*Адметніцтва, злабы, крывых прысяг,*
*Што зблытваюць і шлях наш, і працяг*
*І на правы людзей наводзяць краты!*

*Шукаю antidotum —*
*Супраць здзеку*
*Над чалавечай існасцю, калі*
*Пад знакам веры ходзіць па зямлі*
*Захопніцтва і душ, і меж спрадвеку!*

*Шукаю antidotum —*
*Ад рабунку*
*Гісторыі і памяці людзей,*
*Ад тых ідэй,*
*Ад тых акрутных дзей,*
*З якімі не здабыць нам паратунку!*

*Шукаю antidotum —*
*Супраць слёз*
*Дзяцей асірацелых, плачу матак,*
*Людзей, якіх прымус зганяе ў статак!..*
*Дзе antidotum,*
*Што наш зменіць лёс?*

СУДНЫ ДЗЕНЬ
СКАРЫНЫ

# КРУГІ АДВІТАННЯ

Замест узнагарод — несправядлівы і жорсткі прысуд, пажыццёвае выгнанне, пазбаўленне спадчыны бацькоў і спроба — зразумела, асуджаная на няўдачу! — апаганіць найвялікшую справу аблыжнымі абвінавачваннямі! Яго ўцекі з Фларэнцыі, яго астанкі, пахаваныя ў чужой зямлі, яго дзеці, якія жывуць хто-дзе, сярод чужых людзей, — вось яны, па сёння не сцёртыя сляды тых падзей.

*Джавані Бакачыо. Жыццё Дантэ, 1360 г.*

# СПРЭЧКА З ЛЮТЭРАМ

Пакуль я жыву — я чума ваша... Я павінен, як кажа Ісайя, быць вашым мядзведзем і воўкам па шляху ў Асірыю. Ды не будзе вам спакою перад імем маім, пакуль вы не зробіцеся лепшымі ці не згінеце!

*Марцін Лютэр*

...Будучи лекарем телесным досконалым, возжеле быти лекарем душ наших.

*Ф. Скарына*

Вітэнберг. У садзе былога аўгусцінскага манастыра пад разгалістай грушай, што ўзнялася вышэй за макавіцы славутага сабора, сядзяць за дашчатым сталом Лютэр, Меланхтон, Карльштат[71]. На стале — першыя адбіткі лістоў Біблії Лютэра[72].

Лютэр

Фатальнасць лёсу —
Гэта боскі перст.
Прадвызначана ўсё, наканавана...
Але ж, сябры вызнання новага,
Узважце:
Ёсць у нашай новай веры
Хоць права на адзіны меч?

Меланхтон

Які?

Лютэр

Меч абароны!

Меланхтон

Наш — бяскроўны меч!

Лютэр

Бяскроўны?..
На словах ён бяскроўны
ў кожнай веры.

Падыходзіць былы чарнец манастыра,
паслушнік у доме Лютэра.

Чарнец-паслушнік

У браму стукаецца паломнік... Ён з Усходу, падбіты дарогай. Кажа, ён сюды ўжо наведваўся.

Лютэр

Кліч паломніка!.. Ды на стол, будзь ласкаў, гарачай гарбаты. Не! Саксонскага піва свежага ды падсілкавання чалавеку з дарогі.

На сцяжыне з'яўляецца Францішак Скарына.
Насустрач грузна прыўздымаецца
цікаўны гаспадар сядзібы.

Скарына

Я на працяг размовы, што калісьці
Так прыкра абарвалася...

Лютэр
*(Пазнаючы, са смехам.)*

Хэ-хо!..
Не ўспамінай мне тую недарэчнасць!
Таго пушчанскага свайго мядзведзя...
Я ледзь душой не загавеў ад жаху...
Ого, калмач, звяруга!.. Каб хоць я
Не чуў, не ведаў пра яго... А то ж
Уся Еўропа чула!
Як на ловах
Ён Бону з жарабка так спрытна скінуў,
Заўчасна загубіў — о д'ябал дзікі! —
З жаночага вагітнага улоння
Жыццё... Малютку... Каралевіча![73]
Як ведаць?

Можа, гэта быў якраз
Апошні з Ягелонаў у Кароне?
Мільгнула мне:
Во гэты дзікі згубца,
Што спрытна абярнуўся ў поўсць
мядзведзя,
Цяпер прыйшоў пусціць на выгубленне
Душу Марціна!
Шчасце яшчэ маеш,
Што лоўка цягу даў з-пад гэтай грушы!..
*(Смех.)*
Ды неўзабаве мне за тую прыкрасць
Прыйшлося чырванець
перад Альбрэхтам!
Перад яго мілосцю да цябе...
Ён пра цябе расказваў з падзіўленнем:
Пра цуды лекаў,
бляск твайго майстэрства
У тлумачэнні кніг...
Такія людзі
Патрэбны нашай новай веры!
А што мяне спужаў — такі я зроду:
Сядзіць страхоцце нейкае ўнутры —
Баюся д'яблаў, злыдняў чарнакніжных,
Не веру ў Тартар, пекла,
Ды баюся!
Нячысцікаў тых столькі развялося
У вобліках пачварных!..

Скарына

Развялося...
Я ледзьве вырваўся з іх пекла!

Лютэр

Чуў...
За вызваленне дзякуй Кёнігсбергу!
І трэба ж так Альбрэхту ўпадабаць
Бадзягу-доктара!.. Запомні толькі —
Табе Альбрэхт пасланы небам... Ён —
Твой лёс!

Наладзяцца стасункі вашы!
Я ведаў:
Ты пакружыш і прыйдзеш
На прыцягненне полымя майго!
Бач — занялося!

Скарына

Так... Хрыстос адзін,
А веры яго множацца...

Лютэр

Ну й добра!
З іх пераможа тая, што душу
Ператварае ў кожным чалавеку —
У малітоўны дом!..

Скарына

Мяне бянтэжыць,
Што з верамі ў нас множацца і звады.
Між іх — як між агнёў я...
І не двух!
Крыжуюцца, крывавяцца ў пламенні
Законы розных вер — дзеля грызення?
Пажаднага ўзаемапаглынання?
Ды пашырэння меж сваіх імперый?

Чарнец-паслушнік стаўляе на стол талеркі
з вяндлінай, смажанай дзічынай, віно,
саксонскае піва. Лютэр перапыняе Скарыну

Лютэр

Пачакай...
З дарогі час падсілкавацца.
Яшчэ мы наспрачаемся...
Табе,
Відаць, у нас захочацца агледзець
Увесь працэс друкарства, цэхі ўсе —
Ад выкладу Пісання да варштата...
Але галоўны цэх наш —
Гэта вера!

Вось хлеб, віно — яе і кроў і цела.
Частуйся...

Скарына
*(Бярэ хлеб.*
*Прыглядаецца да адбіткаў Біbліі.)*

Дазвольце ў рукі...
Водціскі Пісання?!
Біблейскія ўсе кнігі — ў поўным зводзе?
Дык вось дзе ён —
Хрыстовы хлеб надзённы!
Духоўнае падсілкаванне люду.
Якая радасць Богу і паспольству!
Вы апярэдзілі мяне... Нядарам
Сюды трапаў я ногі — па навуку...

Лютэр

Ты распачаў раней за нас — і столькі
Даў кніг выбойных!
Гэта мы адсталі.

Скарына

Каб не чынілі ліха мне — даўно б
Я выклад свой адціснуў поўным зводам.
Але не тое ў нас свядоміе...
Адны заворы, змовы...
Боязь Кнігі!
Няўжо адстаў я, Божа, безнадзейна
З пажыткам душ беларусінаў?
Ох-х!
*(Адпрэчвае свой маркотны ўздых.)*
Пабачыў я на свеце многа бітваў,
Але такой бяскроўнай перамогі,
Як гэты скарб, —
Дзе сёння ты прывеціш?
То ж перамога ўсіх зямель нямецкіх,
Паспольства вашага, ўсяго народа!

Бо гэта ж ён тут вашымі рукамі
Тварыў сабор уласны у пісьмёнах...

Лютэр
*(Наліваючы віно.)*

Не ўзняў бы я адзін такі сабор,
Каб са старых муроў тут, па цаглінцы,
Не разбіралі, не перакладалі
У новы гмах
Выдатнейшыя знаўцы
І моваў старадаўніх, і культуры —
Карльштат і Меланхтон...
*(Ківае на Меланхтона.)*
Ты не глядзі
На плечыкі яго худыя...
Ён —
Галоўны дойлід тут і палігістар...
Я толькі сам — падручны у яго!

Меланхтон

Паслухаем калегу лепш...
Чаму
Вы абарвалі друк на палавіне?

Скарына

Аповесць доўгая... Вам сумна стане.
Ні скарбаў, ні паперы... Ды найгорш...
Падтрымка трэба,
Трэба разуменне...
Паперу, скажам, можна адшукаць
І на папернях вашых...
Я займуся!
Ды дзе мне адшукаць той шчыт надзейны,
Які заслоніць родныя пісьмёны
У кнігах, у культуры?

Меланхтон

Але ж вы —
Мне трапіўся «Апостал» і «Псалтыр»[74] —

Свой выклад робіце на лад
Стараславянскі!

Лютэр

Вось дзе пралік твой, доктар!
Ды адкінь
Ты шалупінне той змярцвелай мовы!
Яно не лепш ад кайданоў латыні,
Куды папісты прагнуць закаваць
Даступнасць веры...
Іх закон лацінскі
Вунь пачапіў на Біблію замок,
Міранін перад тым замком —
Як овен!
Ён слухае ўсю тлумнасць бляску месы,
Што за яго спраўляюць,
А не ён!
А святасць веры — хіба на амбонах?
Яна у сэрцы кожнага!
Ты сам
Душой пранікні ў таінства Пісання.
Але спачатку адамкні замок той!
Адкінь яго, разбі!
А ты, калега,
Ці не надумаў проста замяніць
Адзін замок іржавы —
На другі?

Скарына
*(Дастае адну са сваіх кніг Біблії.)*

На ёй ганебныя сляды кастроў,
Бруд капытоў —
Не мёртвыя замкі стараславянства.
Тут мова паспалітая!
Шкада,
Што ўсе вы, дасканалыя у мовах
Старога свету — ад сівой Элады,
Ад Іудзеі, ад плямён халдзейскіх —
Да мовы Цыцэрона і Вергілія —

Чамусьці вы,
Іх тлумачы і знаўцы,
Забыліся, што ёсць славянскі свет!
Што ён свае жывыя мовы так
Справуе чынна, як і вы!
Калі б
На сотку год раней вас не з'явіўся
Вялікі Чэх — Ян Гус,
Ці нарадзіўся б,
Скажыце, Гус Саксонскі?

Меланхтон

Калі Марцін рашуча прыбіваў
Да тых вунь замкавых варот касцёла
Пратэст сваіх грымотных тэзісаў,
Паверце,
Не чытаў ён Яна Гуса!

Лютэр

Я нават высмеяць збіраўся іх,
Схізматыкаў багемскіх —
Гуса, Ераніма[75]...
Ды папская даўбежка, брудны Эк[76]
Са мной у дыспуце так спрытна, хітра
Мяне самога падкляпаў да Гуса!
Ці ведаў Эк,
Што ў зале спрэчкі той
Яго намовы слухаў, дых стаіўшы,
Чэх-арганісты Якаб?
Мы да ранку
Сядзелі з ім у роздуме сумотным...
Прайграў я дыспут?.. Не!
Я быццам слухаў
З жывой легенды Гуса!
Ці я думаў,
Што з Чэхіі ганец прымчыць дарунак
Мне — кнігі папярэдніка!.. Пачціва
Мяне ахрысцяць гэтак:
Гус Саксонскі!

Я зрок нібы прамыў:
То я — гусіт?!
Так-так, мы ўсе міжвольныя гусіты!
І Аўгусцін[77]...
І наш апостал Павел...
Чаму?
Евангельская ісціна з іх рук
Аддадзена агню...
Праклятая
Па сённяшні крывавы дзень!
Ты чуў?
Кроў пратэстантаў,
Кроў перахрышчэнцаў
Успеніла ўсе воды ў Нідэрландах!
Пакутніцтва крывавы арэол
Ірдзее густа над чалом усіх
Выгнанцаў новай веры!

Скарына

Чуць балесна...
Усплёскі мутных рэлігійных войнаў
І нас пастрашна ўцягваюць у вір!
У вас агонь з тых дзён,
Як завулканіў
Ваш Вітэнберг, устросшы да глыбінь
Самасвядомасць нацыі...
А мы —
Беларусіны — усё на тым жа глумным
Прамежку гістарычным — паласе,
Якую меч з агнём адсоўвае
На ўсход — на захад...
Пад сутанай веры,
Аказваецца, лёгка так прысвойваць
Чужыя землі!

Меланхтон

Разумею вас.
Для страт хапае аднаго агню,
Напушчанага з папскага прастолу.

9. Зак. 2344

Ды ў Вітэнберзе мы яго збіваем
Агнём вызнання новага...
А вас —
Дык атачылі два!.. І з двух бакоў!
Вайна каталіцызму з праваслаўем...

## Скарына

Мне часам выдае, што гэта тая ж —
Траянская вайна!
Ад сценаў Троі
Яна ў абліччы іншым перайшла
Да сцен не менш зацятых і варожых.
Ахейцаў зноў паклікала Элада,
Траянцаў ацалелых — італійскі
Раскошны бераг...
Грэцыя — і Рым!
Варожыя і зноў два асяродкі.
Яны Хрыста рассеклі на дзве веры.
І ў полымя, нібы ў бяздонне, зноў
Кульнуліся...
Ды не на дзесяць год —
А на стагоддзі лютасці бясконцай...
Дзе голас іх сабораў прымірэння?
Заглох у фанатычнасці ўладык,
Што з двух бакоў зламысна
раздзьмуваюць
Геену вогненную...
Два вызнанні
Узводзяць свае крэпасці, байніцы
І з іх пускаюць ядры змоваў гнюсных
І мэтаў хіжых —
Толькі не праменне
Асветы люду паспалітаму...
Дакуль мая зямля ставацца будзе
Арэнай бітвы дзікай, непамыснай?
Траянская вайна!
О, колькі ты
Забрала ад мяне людзей мне родных,
Ахвярна кінуўшы на свой алтар,
Крывавы і бязглузды!

Колькі ты
Глынула маіх высілкаў, напругі,
Паломніцтваў, шуканняў і цярпенняў!
Траянская вайна, хіба не ты,
Забраўшы ад дзяцей, мяне шпурнула
У яму даўгавую... А цяпер
Пагнала зноў у свет?

Карльштат

Я разумею...
Цяжкая драма люду зазірнула
Глыбока ў сэрца вам:
Дзе выйсце?

Скарына

Выйсце?
У вобразе разумнасці святой!
Нам трэба пакланяцца, як іконе,
Верацярпенню!

Лютэр

Хо-о!.. Які міраж!
Верацярпенне ваша не прымірыць
Тых двух агнёў.
Скажы, што прымірыла
Ля сценаў Трої ў паядынку лютым
Ахіла з Гектарам?
Іх раздзяліла смерць!
У тым пражорстве згубных двух агнёў
Усё ж агонь не лішні быў бы —
Трэці!
Вам з гэтай бітвы двух веравызнанняў
Патрэбна выпасці...
Ці зразумеў?
Патрэбна выскачыць, як з пекла!
Бачу —
Ты нездарма прыйшоў у Вітэнберг!

Скарына

Вам не цярпіцца, мусіць, перадаць
У рукі нашы —
Трэці свой агонь?
Навуку вашага веравызнання?

Лютэр

У ім — ваш паратунак!!
Сам узваж.
З Альбрэхтам Прускім мы памеркавалі:
Адна ў нас служба веры — ў Вітэнбергу
Ці Кёнігсбергу...
Тут — ці там?
Калега, выбірайце — дзе зручней вам?

Скарына

Прыйшоў я, каб прыгледзецца бліжэй
Да ўзору вашага...
Рукамі ўсё памацаць!
Што тоіцца ў дыханні Рэфармацыі?
Яна, як перад бураю зара,
Палохае і вабіць...
Калі мне,
Нягоднаму выгнанніку, служыць
І стаць вызнанцам вашым —
То па веры! Па чыстаму сумленню!

Лютэр

Я ўхваляю.
І вера, і сумленне — дар нябёс!

Скарына

Ды ў вашай веры шмат незразумелых
Мне таямніц...

Лютэр

Я, доктар, не цярплю
Ніякіх таямніц!.. Я вымеў іх

Мятлой рэформ з вучэння новай веры.
Адкіньце смецце таінстваў свяшчэнных —
Ці нас яны ратуюць ад граху?
Ёсць толькі сіла веры!
Чыстай веры!
Яна вышэй за ўсе законы, справы.
Законы толькі множаць праграшэнні,
А вера — іх даруе!
Не сабор.
Не бляск ілжывых мес і не літанні.
Не тлумны чад кадзідлаў —
Толькі вера!
Сабор, які ты ў сэрцы ўзнёс —
Твой Бог!
Няўжо чарнец, што душыцца аскезай,
Збірае барматаннем нейкі лішак
Спраў дабрачынных,
Святасць — у запас?
Той лішак назапашаны падхопяць
На індульгенцыі папісты...
Гэй!
Купляйце іх, разбойнікі, зладзейцы,
Пралюбадзейцы і лгуны... Хутчэй!
Купляйце ўсе, хто хоча скасаваць
Грахі, ў якія ты, як муха, ўліп!
Міране,
Пад сутану з галавой!
Ёсць тайна споведзі?
О, святатацтва!
Яно даруе ўсё за кашалёк!
Ратуеце людзей вы ад граху?
Вы самі ў брудзе з галавой пагразлі!
Ці чуў ты пра святы наказ папістаў:
«Рабіце так, як мы вас навучаем,
Ды не рабіце так, як мы...»
Хэ-хо-о!

## Скарына

Мне даспадобы ваша злосць і смех.
Бароніце вы гэтым княствы, землі

10. Зак. 2344

Ад папскае імперыі грабежства.
Але зважайце!.. З бруднаю вадой
Вы і дзіця — за плот?
Ёсць таямніцы!
Я ў большай згодзе з мудрасцю Ібн Сіны[78].
Вучыў ён:
Не спяшайцеся адпрэчыць,
Кляйміць насмействам,
Розным ачмурэннем
Усё, што недаступна разуменню
Ці ўяве вашай
(«Быць таго не можа!»),
А ў свеце ўсё, калега, можа быць!
Ёсць тайна ускладання чуйных рук
(Апосталаў успомніце, Хрыста!);
Ёсць тайна споведзі...
Свяшчэннадзейства...
Ёсць ачышчэнне ў шчырым пакаянні
І нават — у пакутах,
Калі сам
Ты душыш у сабе сваю брыдоту,
Спакусу ці гардыню...
Ёсць катарсіс!
А колькі таямніц астральных!
Нас —
Яны з сусветам лучаць!
Чалавек —
Часцінка дзіва, розуму сусветнага
І духу сфер лятучых!
Хіба можна
Так безаглядна, у сляпым няверʼі,
Вульгарна агаляць сябе?

Лютэр

Ібн-Сіна?
Адкінь ты глупства тых аўтарытэтаў!
Яны перад Пісаннем —
Нуль, труха!

Скарына

Няўжо вы так не церпіце пазнання,
Што здабывае розум філасофскі?

Лютэр
*(Спрабуе абысціся жартам.)*

Платон мне — сябра,
І Сакрат мне — сябра.
Ды ісціна бліжэй!

Скарына

Жарт Арыстоцеля... Ды вы, здаецца, —
Усіх іх пад мятлу!

Лютэр

Для разумення Бібліі — навошта
Усе яны, платонікі-сафісты,
Эпікурэйцы-свінні?..
Божа, збаў
Ад іх вучэнняў мудрых
І асветы!

Скарына

Асвету бэсціць, мусіць, недарэчы.
Хвала ёй, калі розум асвячае,
Хвала ёй двойчы,
Калі ў нас
Душу аздараўляе, гоіць, лечыць!
Калі нам прышчапляе дабрачынства,
Унутраную выхаванасць, цноту...
Узбагачае розум праз пазнанне!
Казаў прарок:
Свяцільнік плоці — вочы.
Свяцільнік духу — розум.
Ці не так?

Лютэр

Не розум мой ці твой прадвызначае!
І не твая асвета...
Воля Бога!
А ў чалавека ад грэхападзення —
Ні кроплі ўласнай волі!
Бо нават ад народзін кожны крок
Наканаваны Богам!

Скарына

Як жа так?
Калі няма ў мяне свабоднай волі,
Тады ж няма і выбару майго!
(Бо выбар толькі там,
дзе ёсць свабода!)
Граху майго няма...
Бо гэта ж Бог
Навёў мяне на грэшную сцяжыну...
Не д'ябальская сіла, што пранікла
Брыдотна у нутро маё... А Бог!
Вы вынішчаеце імкненне да дабра,
Да дабрадзейства —
Праз катарсіс свой!
Няўжо няма духоўнасці ні кроплі,
Што ад народзін — Богам удыхнута?

Лютэр

Не шмат, гляджу,
Ты цэніш кроў Хрыста:
Па-твойму, акупіў ён на крыжы
Брыдоту толькі нашу, цёмны грэх,
А за духоўнасць не праліў ні кроплі!
Яна была ў нас быццам — ад народзін.
І гэтаму духоўнаму святлу
Дзяцей Адама — Бог паверыў!..
Не!
Сурова я гляджу: у чалавеку —
Зямное ўсё!

І дух яго зямны!
Наскрозь грахоўны... Верыць можна духу
Хрыста. І толькі.
А не чалавека.
Святло і цемра ў ім перапляліся,
Як змеі у клубку...

Скарына

Адкуль жа ў нас
Жыве чуццё няпісаных законаў?
Прыроджаная нашая сумленнасць?
Заступніцтва за праўду і дабро?
Гаючае чуццё спагады, цноты,
Мілосці да Айчыны?
Скуль яны?
Дае нам іх нядарам ад народзін
Матуля чуйная — Прырода!
Бог наш!
І гэты Божы дар —
Асвета множыць...

Лютэр

Чакай, чакай: ці не вяшчуе гэта
Тваімі вуснамі Эразм?
Ён прагне
Духоўнай дабрачыннасці — як ты,
І ходзіць важна ў рыцарах асветы...

Меланхтон
*(Каб зняць напружанне.)*

Вы чулі жарт: у Лютэра мезенец
Асветы мае больш,
Чым цела ўсё Эразма!
*(Смяюцца.)*

Лютэр

Асвета наша —
Толькі вера ў Бога!

Яна ваюе сэрцы ўжо мільёнаў —
Без акрываўленага меча!

Скарына

Вось як?
А я, даруйце, з жахам бачыў сам,
Як расплывалася па вашай веры
Кроў Мюнцэра!

Лютэр
*(Пахмура.)*

Я халадзеў нутром,
Калі лілася тая кроў, бо кара
Касіла і выколвала зраніцы
Невінаватым —
Тым, хто стаў за праўду,
А не шальмоўцам,
Не айцам тыранства...
*(Хвіліна задумення.)*
Шкада мне Томаса...
Ды на яго
Майму зласердзю цяжка адпусціцца.
Каб не ўмяшаўся ў справу нашу
Мюнцэр
З паўстаннем недарэчным,
Рэфармацыя
Ужо спраўляла б перамогу ў свеце!

Скарына

Калі паўстанне плавае ў крыві
Нявіннай —
То нідзе, ніхто, нішто
Сваім веравызнаннем ці вучэннем
Ахвяр не апраўдае, не акупіць!

Лютэр

Ты гуманіст...
Ды хіба перамены

З'яўляюцца без бунту, абурэння?
Кровапраліцця?..
Іх тушыць спагадай,
Як тоїі пажар — саломай!
Гэта ж — лёс!
Прадвызначэнне Бога!.. Гэта ім
Акрэслены наперад бунты, спрэчкі,
Паўстанні, раз'яднанні...
Ох жа, як
Яны ўстрасаюць свет наш!
Вось, здаецца,
Абрынецца і рухне, стане прахам
Усё тварэнне боскае, сусвет!
Але ж, па мне, —
Лепш страціць цэлы свет,
Чым Бога —
Творцу незлічоных светаў!
Лепш пераЖыць праказу бед і страт,
Чым амяртвіць, забіць, замардаваць
Бязвер'ем нашы душы...
І з грахом —
Кульнуць у Тартар!

Скарына

Страшна неяк стала...
Дыхнула з новай веры на мяне —
Дрыготкасць золкая,
Сляпая жорсткасць...
Цяпер не я напудзіў вас, а вы
Штурхаеце мяне сваім абліччам
Хутчэй адсюль...
Каб доўга не затрымвацца...

Лютэр

Куды ты?

Скарына

Залатвіць трэба справы... А затым —
І ў шлях зваротны.

Лютэр

Не, на гэты раз
Цябе не адпушчу я так паспешна!
Пабудзь, агледзься... Адвядзі душу
Нязмушанай гасціннасцю Марціна!
Ды зрок прамый свой:
Шлях у нас адзін!
Хіба ты не з'явіўся, каб з надзеяй
Ад вогнішча майго у Вітэнберзе
Сваю паходню запаліць?
Нясі яе да сваіх земляў здратаваных!
Цябе я не трымаю тут прымусам.
Нясі туды — у сэрца свайго люду
Прачысты Дом вызнання новай веры!
І ты здабудзеш Дом сваёй Айчыны!
*(Падумаўшы.)*
Ну, а яшчэ —
Шаноўны мой калега —
Заўсёды, як тады:
Мядзведзем будзь!
Так-так, мядзведзем з вашых дзікіх пушчаў,
Раз'ятраным і лютым...
Не, не тым,
Які мяне да смерці напужаў...
А тым, што грозна пойдзе па слядах
Заплямленых ерархаў ды папістаў,
Антыхрыстаў у шатах пурпуровых —
Як здань, страхоцце іх!
Ды я і сам
Да скону дзён сваіх мядзведзем лютым
Пайду па іх слядах смярдзючых — хай
Са страхам азіраюцца на нас,
Ад нашага дыхання наўздагон —
Калоцяцца, пакуль —
Ісайя кажа —
Ці зменяцца зусім яны,
Ці згінуць!
Цяпер ты бачыш —
Шлях у нас адзін!

Вядзе ён да збаўлення з прагных клешчаў
Імперыі царкоўнай...



### Скарына

Каб змяніць —
Адну імперыю вызнання на другую?
Каб шырыць уладанні новай веры
Няўхільна і няспынна — на ўсе землі,
Вялікія, малыя?
Каб трымаць
У новых абцугах учэпістых —
Пакорлівыя душы і ўладанні
Далей, далей —
На Захад і на Ўсход?
Даруйце, што кажу так... Але дзе
Няма верацярпення —
Ой, баюся,
Што неўзабаве выражуцца хіжа
У пашчах бураспіннікаў такіх
Драпежныя клыкі ўладарніцтва,
Рабунку...
Ці не так было, дарэчы,
Ва ўсіх імперый веры?
Выбачайце,
Ды ў гэтай хісткай, непамыснай справе —
Я кепскі памагатын...

### Лютэр

Мне шкада,
Што сёння без прыстанішча, без даху,
Ты недзе зноў пацягнешся —
На свой
Агеньчык зманны і міражны...
Доктар!
Цаню тваю няўступнасць, апантанасць,
Але, спазнаўшы бездань глуму, стратаў,
Час і мудрэйшым быць!

Скарына
*(У роздуме, з горыччу.)*

Няўжо і праўда,
Што я, па-вашаму, бяздомнік нейкі,
Бадзяга валачашчы і бязродны?
І застаецца мне адно —
Ярмо
Чужых і мэт, і дзей?

Лютэр

Бяздомнік ты!
Над галавой няма — не толькі даху.
Бяздомнік ты на Бацькаўшчыне!
Гэта — шаноўны доктар, горш.

## ПАЛОМНІЦТВА У МАСКОВІЮ

Дом у Маскве. За сталом гасцёўні — гаспадар дома Міхал Глінскі[79] і Францішак Скарына.

Скарына

Паломніцтва ў Масковію!
О, колькі
Выношваў дум я ў гэтую дарогу!
З цямніцы мне свяцілася яна,
Нібы крышталь у камні дарагім.
Але маё паломніцтва —
Не ўцёкі!
Я не ад'езджы з роднае зямлі,
Як ты, Міхале...
Гоніць мяне справа.

Глінскі
*(Запрашае да пачастунку.)*

Францішак, будзь як дома...
Раскажы,
Як Русь Літоўская, Айчына наша?
Краіна год маіх лятучых, бітваў,
Шалёных, вострых, нібы шабля, дум.
Любоў мая... Мілосць!
Ці доўга нам
Плаціць за гэта ўсё цямніцамі?

Скарына

Такі ўжо кошт святла:
Яго заўсёды
Аплочвалі цямніцамі...

Глінскі

Адмерыў —
Ты колькі ёй жыцця?

Скарына

Пятнаццаць тыдняў.

Глінскі

Пятнаццаць тыдняў —
не пятнаццаць год!

Скарына

Ды наша плата — па рахунку розным.

Глінскі

Рахунак наш — цярпенні за мілосць!
Хіба цябе не зачапіў глыбока
Сум па Русі Літоўскай —
Нашай Белай Русі?
Па яе
Прастоле гаспадарскім?

Скарына

Зачапіў
Мяне мой даўні сум —
Па кнігах, па Асвеце!
Шануйце светач паспалітых душ —
Прастол свой абяруць яны і самі!

Глінскі

Э-э, не!
Хто ім дазволіць свой прастол?
Карона?!
Не, спачатку — непадлегласць!
І самастойнасць —
свой прастол уласны!
Ды не такі, які нам хочуць даць
Вялікая Літва,
Масковія...
А Княства Рускае — як даўні Кіеў!
Ці Полацк!
Толькі з іх нам асвячэнне.

Скарына

Калі прастол з насільствам —
Не святла,
Чакай цямніцы!
Крата там, дзе кроў.

Глінскі

Навошта ты прыгадваеш мне кроў?
Бяскроўных не бывае спраў вялікіх.
Ну а яны, скажы, ці не вышэй
Галоў смярдзючых?
Час круты быў, помніш?
Пыхлівы Забярэзскі ля Гародні[80]
Ганебным слугаваннем унітарным
Давёў мяне да шалу!
Хоць зарана
Тады перапалоху нарабіла
На шаблі галава яго... Ды я —
Па іншым уздыхаю...
Не па той —
Здабытай каля Клецка славе збройнай
У бітве з крымчакамі...
Што з таго,
Што тую славу збройную навек
Запішуць летапісцы Белай Русі
На мой рахунак?
Мне хіба лягчэй?
Мой сум —
Што я не здолеў датрымаць
Той вышыні палёту — да сваёй
Жыццёвай, запаветнай мэты!
Колькі
Трагедый мне пад ногі ўпала, покуль
І сам, падцяты, злёг...
А што з таго?

Скарына

Я чую роспачную споведзь...
Горкасць...

Няўжо і праўду кажуць — за табой
Ідзе, як даўні грэх,
Цень Аляксандра[81]?

Глінскі

Давай па кубку гэтай во мальвазіі —
За успамін душы!
Глыні напою.

Скарына

Ты знаўца зёлак лекарскіх і злых —
Няўжо сабе дазволіў?

Глінскі

Русь старая
Дала дазвол, а ў рукі —
траў труцізну.
Я ў сродках неразборлівы...
Паспешна
Я прагнуў вырваць з сэрца
Сум балючы —
Па той, яшчэ у Крэве адабранай,
Дзяржаўнасці...
Навошта слынны Вітаўт
Перамануў мой род з арды татарскай?
Каб далучыць да суму гэтага?
Відаць, зарана ў сэрцы маладым
Адчуў я іскры сумнага агню,
Паспешліва
І гэтак безразважна
Я кінуўся ў пражорлівы касцёр,
Што сам раздзьмуў — на паў-Літвы?
Ты помніш?
Я абяцаў старому Жыгімонту —
За тое, што па брату Аляксандру
Ён стол Літоўскі падгарнуў,
А мне —
За ласку зёлак тых — не захацеў
Хоць паў-Літвы ўступіць...

Я абяцаў:
Усё жыццё ты будзеш шкадаваць —
Са мною разам!
Праклянеш няўступнасць!
Смаленск, адцяўшы ядрамі гармат[82],
Як дар, паднёс я рускаму цару...
Згаворлівым зрабіўся Жыгімонт,
Руку працягваў!
*(З пякучым успамінам.)*
Эх, не лёс, не лёс!
Я думаў, што Васіль[83] мне паднясе
Смаленск — за ласку...
Ажно — дулю!.. Во-о!
Упёк мяне ў цямніцу на пятнаццаць
Атрутных год...
У гноішча!

Скарына

Міхале,
Хадзіў ты ў фаварытах Аляксандра,
Трымаў поўгаспадарства!
Што яшчэ?
Табе цямніца — плата.

Глінскі
*(Узгарачана.)*

Ну няхай —
Адплата мне!.. Але за што — табе?!
Вучонейшаму кніжніку?
Ці бачыш,
Куды Карона стан Літвы згінае?
Сабе пад ногі!
Соткі год насільства!
Я ўжо тады дрыготка прадчуваў
Сваю цямніцу...
І тваю цямніцу!
Не з хмелю гавару, ты не дзівіся...
Калі сустрэў цябе я на вандроўных
Дарогах пошуку навук, асветы —

На влоскіх берагах — ужо тады
Наскрозь цябе разгледзеў:
Во расце
Пакутнік новы за зямлю сваю!
Ён хоча дух асветы удыхнуць
У плоць маю...
І ўсёй зямлі русінскай!
Дадаць нам да пазнання —
і свядомасць!
Хто зразумеў цябе?
Ты — вечны вязень
У мэт сваіх, у мар сваіх —
Як я!
Здагадваюся, што ў тваім пакунку...

Скарына
*(Падае Глінскаму
адну з кніг Біблії.)*

Прывёз я сціплы дар —
Русі Літоўскай!
Наш пільны клопат...

Глінскі
*(Гартаючы кнігу.)*

Браце,— гэта ж скарб!
Шкада, цямніца зрок мой прытупіла...
Ды за пятнаццаць год яна ці мала
Набаяла ўсялякіх пагалосак!
Я чую і цяпер,
Як сцены, камень
Мне шэпчуць вуснамі Максіма Грэка[84]:
«Ёсць Біблія русінаў на Літве!»
Я ажно ўскрыкнуў:
Той русін — Скарына!
За пазухай насіў ты Ераніма...
І Феадосія...
І Яна Гуса...
Ты — паслядоўнік іх!

Скарына

На жаль — няварты...

Глінскі
*(Чытае.)*

У мове той прыроджанай, з якой
Мы ў свет пасланы богам...
Як ухвальна!
Справуеш ты ўжо выкладам Пісання
Пісьмёны родныя беларусінаў —
Як грэкі, лаціняне свае мовы
Спакон справуюць...

Скарына

Дзякуй, што ты бачыш
Зярняты справы нашай...
Клопат наш!
Да вас маё паломніцтва — з надзеяй,
Паклонам нізкім!..

Глінскі

Ох, зарана, брат!
Фанатыкам прачыстай грэцкай веры
Не зразумець цябе...
Каб я — і тут
Абшарамі валодаў, як раней, —
На паў-Літвы!
Ты жыў бы — як за пазухай!
А дай мне княствы
роднай Белай Русі?
Дык вось адкуль — Асвета!
А ты кажаш...
Ну, а цяпер...
*(Разводзіць рукамі.)*

Скарына

Міхале, ўся надзея на цябе!
Цяпер жа ты — рука у Васіля,

Ты — крэўны яго, свой…
Ты — у фаворы,
Як некалі ў Літве пры Аляксандры!
Алена[85], вашая братанка, падарыла
Масковіі чацвёртага Івана![86]
Кроў ад крыві —
Старога роду Глінскіх!
Ты выплыў зноў, нібы з таго прадоння…
Пакліканы з цямніцы —
Да ўладарства!

Глінскі

Паклікаў не царэвіч-крэўнік,
А Казань!
Маё умельства ратнае…
Фавор тут — валасінка… Хібны лёс!
Тут сёння — воля,
Заўтра — увязненне.
Ці плаха, як таму Бярсеню, што
Пасмеў перад царом з'явіцца з крыўдай…
Язык трымай тут моцна за зубамі,
Калі яго ў цябе не адцялі,
Як Жаранаму Хведару[87]…
Вазьмі!
*(Вяртае Біблію.)*
Ды пакладзі цішком у свой пакунак
І павяртай па-добру, па-здарову
У родную зямлю…

Скарына

Міхайла Львовіч!
Жыўцом не рэжце маю мару!
Хіба —
Дзеля такога постраху я плёўся,
З паклажай тросся шляхам небяспечным —
Сюды?
Дайсці я мушу да Вялікасці
Гасудара «ўсея Русі»…

Глінскі

Францішак,
Адкуль жа ты зваліўся —
не з нябёс?
Каб так не чуць, не ведаць...
Ці не верыць —
Пакуль аж сам не апячэшся!
Браце,
Разлік твой на пратэктарства маё?
А ты спярша ў духоўнікаў спытайся
Пра лёс Максіма Грэка!
Колькі ён
Павандраваў нагамі па Еўропе!
Здабыў святло навукаў,
Каб прынесці —
Сюды,
На Русь Маскоўскую,
Свой скарб!
Свой дзельны выклад кніг святых...
Ты распытай епіскапаў, дзякоў,
Чым заплаціў яму Сабор духоўны
І хрысталюбны самадзержца наш
За клопат —
Прасвятліць галовы іх!
Развеяць іх дрымучыя цямноты,
Прынесці на амбоны іх і ў келлі
Прыстойнасць быту, цноту...
І пісьмёны!
Чым заплацілі?..
Вечным увязненнем!
Я з заміраннем сам нядаўна чуў,
Як ён, на сконе жывата свайго,
Прасіў пакорна Бога і ўладык
Занесці свае косці на святы
Афон —
Адкуль жа самі запрасілі!

Скарына

Як можна адбіраць правы —
І ў праха?!

Глінскі

Правы?
Такіх во — адпусці!.. Па свеце
Яны такую славу разнясуць!
Не, лепш цямніца вечная...

Скарына

З цябе —
Аж пырсча едкі смех...

Глінскі

Перасцярога!

Скарына

Яна маіх не стручвае надзей...

Глінскі

Быць — па твайму хаценню!
Я гляджу —
Ты рызыкант няўступны,
непапраўны...
Паспытай!

У бакавым прыдзеле сабора канчаюць размову з Францішкам Скарынам маскоўскі мітрапаліт Даніíл[88], дзякі Курыцын і Цыпляцьеў— духоўныя дарадчыкі Васіля III.

Даніíл

Цяпер, калі сонца праваслаўя вассіяла над нашай рускай зямлёй, пачалі з'яўляцца да нас пасланцы сатанінскага воінства, розныя інакі, кніжнікі-міране і ўносіць усялякую ерась, як тыя жыдоўствуючыя[89]... Гасподзь наставіў уладык Сабора нашага звярнуцца да яго вялікасці Гасудара: «Падзвігніся на ерэтыкаў!» Запавядаў нам, слугам божым, сцерагчы род чалавечы ад ваўкоў душазагубных... Сцеражыцеся ад ваўкоў, сцеражыцеся ад псоў, сцеражыцеся ад свіней, сцеражыцеся ад ерэтыкаў — ды не паб'юць і не з'ядуць яны статку

Хрыстовага... Таму мы, слугі Вялікага князя нашага, перадаем яго моцную волю і раім доктару-літвіну, які асмеліўся прывезці нам гэтыя свяшчэнныя кнігі, папсаваныя ерассю: адрачыся ад іх! Спалі свае богаадступніцтва і багахульства!.. Гэта аблегчыць тваю сцязю да духоўнага ратунку...

Скарына

Найсветлы уладыка наш!
Мяне,
Гляджу, вы далучылі да ваўкоў
Душазагубных... Да ерэтыкаў...
Нібыта логвішча іх — толькі там,
За рубяжом Масковіі, ў Літве,
Варожай вам...
А там — таксама ж Русь!
Беларусіны прагнуць там Асветы,
Як прагне, брацця, мая Русь —
Уся!
Калі вас нехта слепатой карае
Ды пострахам пужае псоў, свіней.
То як жа будзе цемру нам развеяць?
Паверце ў дабрачыннасць маёй мэты,
Якой, на жаль, я не знайшоў патрымкі
Там, на Русі Літоўскай...
Мне патрэбна
Самому стаць перад найсветлым зрокам
Цара Васілія...
Тут справа ўсёй Русі!
Мне толькі трэба з ім памеркаваць
Пра з'явішча друкарні на Русі —
Свяцільнік кнігі рускай.

Дзякі

— Твае кнігі папсаваны дзясніцай сатанінскай!

— Ох, якое багахульства ўчынена з Пісаннем Свяшчэнным?.. Гляньце! Як церпіць Біблія мерзкасць партрэта гэтага?![90]

— У сонмішча святых захацеў?

— Кайся, кніжнік і фарысей, ерэтык Францыск Скарына...

— Францыск!.. Хо! Тут скрыта і яўна — падкопы лаціны... Літвы!

Даніiл

Ерэтыкі ў Літве жывуць у аслабе... Іх вучэнні з д'ябальскай спакусай кіруюць на Масковію. Яшчэ гэтых акаянных пісьмёнаў тут не хапала! Кніг, ціснутых ерассю!.. Ва ўслужэнне Богу тут — не царкоўнае славянства, а нізкая прастамоўнасць... Адступніцтва! Ці не хочуць яны, кнігі багамерзкія, навечна аддзеленай Русі Літоўскай?

Дзякі

— Тут хітрасць рымскага закона! Прачыстай веры праваслаўнай сапсаванне, а потым — адарванне зямель!

— Русь, татарамі адторжаную, аддаць на пажранне ляхам? Антыхрысту з Рыма?

Даніiл

Ныне і прысна ўжо не Рым правіць. Упаў ён у бездань сатанінскую. О Госпадзі, як ты церпіш новае грэхападзенне? Патрыярхі Царграда паддаліся султану, папа — антыхрысту! Гэта Масква ўратавала паству хрысціянскую! Прыняла яе з рук Божых і стала трэцім Рымам!.. А чацвёртаму Рыму не бываць!.. Уталкуйце яму, слугі Хрыстовы... (*Мітрапаліт чынна выходзіць. Дзякі падступаюцца да Скарыны.*)

Дзякі

— Ачысцім крэпасць Хрыстову, у якую пранік сатанінскі дух!

— Гэй, стража! У ланцугі ерэтыка, улоўленага намі. (*Падбягаюць стражнікі.*) У цямніцу яго!

— Адступіся ад кніг з ерассю — ім адна дарога... Во — на той касцёр у двары. (*Стражнікі цягнуць Скарынавы кнігі да дзвярэй.*)

Скарына

*(Вырываецца з рук стражнікаў.)*

Не смейце іх паліць!
Святое слова!
Вы разам з Богам цягнеце ў агонь
Асвету нашай Русі!
О, вандалы...
Дзе дух разумнасці?..
Каму ўжо верыць?
Ці мала краты мне было ў Кароне?
Сюды прыйшоў я на вяшчунны покліч
Праўдзівасці,
Надзей на справаванне...
А вы?
Судзілішча ўчынілі мне —
Пад дахам
дома Божага!

Дзякі

— Замкні вусны свае, адступнік Хрыстовы!

— Глянь у акно: ерась твая — дымам нячыстым пайшла...

— І ерэтыка на касцёр!

— Не велена...

— Цямніца яго ачысціць.

— Ачысцім нашу Русь Вялікую... Як ачышчае гішпанскі кароль зямлю сваю ад ваўкоў душагубных...

Стражнікі падштурхоўваюць закаванага Скарыну да дзвярэй. За акном тупат капытоў. Убягае задыханы Міхал Глінскі, перапыняе расправу.

Глінскі

Свяшчэннаслужыцелі! Спыніце гэта акруцтва... Я паручыўся за Скарыну перад вялікім хрысталюбным князем. Паклаў залог за яго — пяць тысяч залатых! Бяру яго на свае рукі — для дазнання...

Скарына

Дзе кнігі мае?
Што за гвалт?.. Рабунак!
Насільства над свяшчэнным словам...
Бога!
Ці бачыш ты, нябесны, гэта збродства,
Насмейства непамыснае!..
О, гора нам!
Хачу да ног упасці ўладара
Русі Вялікай...

Глінскі
*(Ведучы да дзвярэй Скарыну.)*

Слынны мой друкар...
Хіба ты не дазнаўся, як рука
Самадзяржаўная цябе кранула?
Пагладзіла... Цішком яшчэ!
Бяры —
На шлях зваротны ад мяне...
Ды з Богам!
Справуй на Белай Русі!
Хай твой дзень —
Не стане Судным!..

# МАЛІТВА Ў САХВЕІ

*Прамаўленне духу Скарыны*

*Пераванны сабораў, бажніц,*
*Перазовы Дзвіны, Палаты.*
*Як мой дух —*
*без радзінных крыніц*
*Перасмяг, перагорк, апастыў.*

*Кліча даўняе веча званоў*
*На вячысты свой сход, на збор.*
*Адчужэлых кліча сыноў,*
*Запрапалых братоў, сясцёр.*

*Падмацуй сваю споведзь душы*
*Цалаваннем сваім на крыжы.*
*Увесь свет абхадзі, абкружы,*
*Міма дому свайго*
*не бяжы!*

Бацькоўскае «іменне» Скарыны за Дзвіною.
Залаціцца восень у прысадах. У засені,
на сцяжыне, Скарына са старэнькай маці.

Маці

Здарожыўся зусім ты, сыне мой.
Зняможыўся...
Стаў думны, недужлівы.
Трымаўся б лепш радзіннага гнязда.
Хіба на дзедзічным дварышчы цесна?
Куды ж ты зноў?
Не кажаш, нешта тоіш...
Ах, ліхаімныя палын-дарогі!
Яны ў мяне крадуць цябе, крадуць —
Па валасінцы шызай, па крывінцы...

Скарына

Я міма свайго дому не бягу!
Я разам з ім хаджу па ўсіх дарогах,

З табою, мама,
З полацкай зямлёй.
Але ж едзіны кожны чалавек
Павінен мець глыбока ў сэрцы рэч,
Што забірае сілы ўсе, —
І ў ёй
Найбольш сябе самога разумее,
Шануе і кахае...

Маці

Апроч той,
Як кажаш, рэчы —
Ёсць яшчэ і маці!
Хто ўмее больш кахаць і шкадаваць!

Скарына
*(Туліць матулю.)*

Як добра,
Што не толькі справаванне,
А ў свеце ёсць яшчэ патрэба ласкі,
Пяшчоты, цноты...
Прыцяжэнне крэўнасці...
Ды як жа іх узгодніць без прынукі?
Апошні мой ратунак — пашукаць
Апірышча на Полаччыне любай...
Не звёўся ж розум!
Тут маё зачала.
Хай будзе ж тут —
і дакананне справы,
І з Божых рук — кананне жывата...

Маці

Ты адыходзіш зноў?
Куды, мой сыне?..

Скарына

У Полацк — па свой лёс...
Маліся, мама,
За мой прыстанак на зямлі Сахвеі!

На падворак заходзяць
Еська Сцепановіч і Міхна Аўсянік[91],
зяці нябожчыка Івана Скарыны.
Яны ўзбуджаны навінамі.

Галасы

— Што творыцца на перавозе! Акалічнае людства валам валіць. Ці чулі? У Сахвейку прыехаў уладыка мітрапаліт!

— Пачакай, Еська, з тым уладыкам. Быццам не ведаем яго, Іосіпа[92]. Быў жа архіепіскапам у нашым Полацку.

— Але ж ад нас выйшаў у мітрапаліты — усея Русі!

— Хоць і ўсея, да нашай справы з табой не залатвіць. Хай дзядзька Францішак разважыць нас, скажа праўду па законах пісаных.

— Бачу, горліцы закружыліся над нашым дварышчам у Полацку... І раптам нейкае духнавенне ў замку. Чаго ты, Міхна, каб ты спрах, адарваў мяне ад таго падзіўлення?

— Ты не тлумі галаву тут... Скажы, дакуль няўчціва паводзіць будзеш сябе з нашай дзядзінай? Ужо трэці год самаўпраўна трымаеш у сваім пажыўленні гэта зарэчнае іменне! Ды яшчэ вока зырыш на дварышча ў замку...

— Гэта ж ты зырышся на тое замкавае дварышча, каб на цябе немач!

— А чаго ты віжаваў сёння там?

— На твой дом любаваўся поруч... Табе мала? Ты ж мешчанін гаспадарскі, на слугаванні гаспадарскім! Калі мала, адгарадзі сабе і дварышча гарэлае... Толькі гэта вось іменне не чапай: Яно ў маёй апецы!

— Я толькі свайго дапіраю... Хто заплаціў за купца Івана, цесця нашага, памяць яму нябесная, яго доўг вялікі — сорак коп і паўтары капы грошай? Можа ты, Еська? Тады хто права мае дзяржаць іменне гэта і дварышча? Дзядзька Францішак, як там паводле Статута праў пісаных?

## Маці

Пакіньце гэту сварку...
Брыдка чуць!
У валтузні сваёй зусім аслеплі,
Не бачыце — ні крэўнасці, ні шаны,
Ні мацеры старой, што навучае —
У гаспадаранні мець меру пажыўлення...
Ні сына ураджонага майго —
Францішка!
Ён не госць!.. Ён не чужы тут,
Ён сваёй дзелі — роўны гаспадар!

## Скарына

Гаспадарамі нам спакусна быць,
Але чакае ўсіх нас —
Выкупленне!
Як прыкра: трэба дзедзічную долю
Вяртаць праз выкупленне...
Ну, а хто
Не мае гэтых пенезяў і копаў?
Не мае права ўжо на бацькаў кут?
Я з выкупленнем трохі пачакаю.
І дзедзічнае права не прадам
За пенезі таксама...
Толькі тут
Я чую грунт трывалы пад нагамі!
Ох, будзе гора нам, калі не зможам
Ніяк мы свае крыўды занядбаць!
Калі сляпая жадасць пажыўлення
У нас заб'е чуццё сваёй зямлі,
Свядоміе радзіннасці...
Бо кажуць:
У цёмную душу не ўвойдзе мудрасць,
Памыснасць гаспадарская,
А толькі —
Пакоры і няволі смутны дух!

Полацкая Сафія. Закончыўшы богаслужэнне,
мітрапаліт Іосіф III разам
з ваяводам полацкім Янам Глебавічам[93],

з многімі ўладыкамі, архіерэямі,
святарамі аглядаюць унутраныя сцены,
купалы сабора. Услед, у суправаджэнні
дзяка ідзе Францішак Скарына.

Ян Глебавіч

Цудатварэнне — нашая Сахвея!
Слывеш ты лепатою на ўвесь свет,
Ды ў абарончым Полацку яшчэ
Не здабыла ты роўнай славы збройнай.
А час!
Наш Полацк — даўнія вароты
Лівоніі, Літвы і Белай Русі.
Сахвея!
Стань дзясніцай, мышцай боскай,
Якая ключ трымае ад варот!
Шчытом зрабіся ў замку!
Аб яго
Пакрышацца ўсе хмары стрэл татарскіх,
Пажогі захлынуцца, што да сцен
Ідуць з Масковіі...

Іосіф III
*(Хрысціць крыжам вокны, высокі купал.)*

Свят, свят...
Уседзяржыцель наш, святы і крэпкі,
Зрабі цвярдыняй дом свой —
Дом малітвы!

Ян Глебавіч

Найсветлы Жыгімонт наш перадаў
Усім нам павяленне:
Распачаць
Перабудову нашае Сахвеі!
Майстроў шукайце, дойлідаў удатных —
Хай вымуруюць тут чатыры вежы
З байніцамі —
Ля кутніх сцен сабора.

Іосіф III

А не заслоняць вежы лепату
Паднебных макавіц?

Ян Глебавіч

Сярэдняя —
Яшчэ вышэй над зводамі ўзнясецца!
А кутнія ўсе — зрушым...

Іосіф III

Як то — зрушым?..
Ці ўгодна будзе богу, калі іх —
На выгубленне...

Ян Глебавіч

Макавіцы тыя
На вежах збройных stануць і блістанне
Таксама ў неба узнясуць!

Скарына
*(Падыходзячы.)*

Найсветлыя!..
Мне дзіўна, што разгневаны Хрыстос
Павыганяў з сабора гандляроў,
Але чамусь людзей не выгнаў
З мечам!

Ян Глебавіч

Меч у байніцах нашых —
Абарончы!
Ён толькі дапаможа мечу веры!

Скарына

Але хіба ў Масковіі меч веры
Не гэткі, як і наш —
Не праваслаўны?
Чаго яны крыжуюцца крывава,

Няславячы адно веравызнанне?
Нам лепей — разгалошваць са званіц
Не кліч да бою,
Не блістанне зброі,
А браталюбства!

Іосіф III
*(Разводзіць рукамі.)*

Господня воля нашы княствы ўсе
Рассекла надвая мяжой, як мечам, —
На Русь Маскоўскую,
На Русь Літоўскую...
Мы молімся... Але ці складсці хлеб,
Дзясніцай усявышняй разламаны?

Скарына

О светласць,
Міралюбнасці не будзе,
Не будзе міру вечнага, пакуль
Мірскі першаўладыка ці духоўны
Пажадны тытулу —
«ўсея Русі»!

Іосіф III
*(З ноткай крыўды.)*

Але ж прастол мітрапалічны наш —
Ад Кіеўскай Русі!
Ён першародны!
Рукапаложаны нам патрыярхам —
Канстанцінопалем самім!

Скарына

Вось так —
І Данііл маскоўскі пра сябе...
Мудроней нават... «Трэці Рым»!
Там тытулы, няйнакш:
Гасудары, ўладыкі —
«усея Русі»...

Іосіф III

А мы — не Рым...
Не трэці, не чацвёрты...
Мы — Кіеў!..
Старадаўняя ўся Русь!

Ян Глебавіч

Ці праўда —
Вы вярнуліся з Масковіі?
Ці часам не вазілі ў «трэці Рым»
Вы кнігі свае бітыя?

Скарына

Зарана —
Маё паломніцтва туды... Але ж
Асуджаны я Богам на бадзянне
І на радзінных землях!
Анідзе
Фундатара не знойдзе
мая новасць...

Іосіф III

Калі яе чакае скрозь адпрэнне —
Ці богаўгодная яна?

Скарына

Няўжо:
Угодны люду паспалітаму —
Няўгодны Богу?

Ян Глебавіч

Так, я бачыў сам
Шмат кніг выбойных вашых —
Па дамах
Купцоў і нашых радчыкаў...

Іосіф III

Аднак —
Не цэрквы перад імі расчыняць!
А я іх ліцазрэў ў храмах Божых,
Не ў алтары... А сярод збору кніг
Апакрыфічных, кормчых, гістарычных —
У благавешчай супрасльскай...[94]
У віленскай прачысценскай...[95]
Ды і ў Сахвеі.
*(Строга аглядае святчэннікаў.)*

Скарына

Першаўладыка,
Не судзіце строга...
Мой сціплы дар прыняў Іосіф Солтан[96]
У кнігазбор Сахвеі...
Не адторг!

Іосіф III

Ах, не адторг?!
Ён даў паслабу цэрквам!
І ўсякую адступнасць і бясчынне
Не адсякаў...

Мітрапаліт, пашаптаўшыся з дзяком,
запрашае ўсіх у цэнтральны прастол.
Усюды — бляск вянцоў, іконаў, падсвечнікаў,
рызаў, золата, срэбра, дарагіх каменняў.
Свяшчэннікі з паклонам хрысцяцца
перад напрастольным крыжам Сафіі...
З'яўляецца дзяк са стосам кніг.
Скарына пазнае свае кнігі, просіць іх
у дзяка і нізка кланяецца перад крыжам.

Скарына

Чалом б'е гэта Кніга бездыханна
Распяццю на крыжы і тым святым
Рэліквіям з Галгофы,
Што ў каморках
Тут, на крыжы, схаваны святалюбна

Рукою слыннай майстра…
Б'е чалом
Яна табе, удатны залатар!
*(Кладзе кнігі*
*каля напрастольнага крыжа.)*

Іосіф III
*(Таропка адсоўвае кнігі ад крыжа.)*

Ім грэшна тут з'яўляцца у прастоле…
Але чакае іх не асвячэнне
Перад Гасподнім крыжам —
Анафема!
Хто ты такі, міранін, кніжнік, лекар,
Каб без памазання,
Без рукапалажэння
Займацца талкаваннем тайнаў Божых?
Ды ўводзіць сябе ў сонмішча святых
Айцоў, вучыцеляў царквы? —
Васілія Вялікага…
Грыгорыя Багаслова…
Іаана Златавуста…
Феадосія Прамудрага…
А разам — пакланяцца лацінянам
За порчу слова Божага! —
Іераніму!.. Аўгусціну!
Перамяшаць усё ды павучаць
Імёнамі апосталаў —
На мове,
Пастыднай для царкоўнага служэння!
Тут ерась багахульная!..
Не прэкаслоў…
І вусны вяжы…
Ты кажаш — для паспольства?
Дарожнага карыставання?.. Не!
За «Падарожнай кніжкай»[97] —
Шлях вужа
Па камені тым самым, на якім
Краевугольна ўстала праваслаўе!
Вось гэта трохпрастольная Сахвея!

Скарына

Першасвяшчэнства ваша!
Не ўскладайце
На карак сцёрты мой ярмо няпраўды.
Зірніце ў «Падарожную...»,
ў «Псалтыр»,
«Акафістнік» ці «Часасловец»...[98]
Тут жа —
Царкоўныя славенскія пісьмёны!

Іосіф III

А кнігі «Бібліі»?
Усюды багамерзкасць!
Пакуса на скажэнне праваслаўя...
Ты лютарствам насыціўся...

Скарына

Сахвея!
Малю перад тваім прастольным крыжам:
Ратуй мае надзеі на разумнасць
Зямлі Айчыннай!
Хіба ты не бачыш,
Як б'ецца пропаведзь мая, —
Каб мы —
Ці ў праваслаўнай веры,
Ці ў лацінстве —
Былі едзіным целам ва Хрысце!

Іосіф III

Едзіным?
Чыё устанаўленне?..
Уніяцтва?
Душазагубнасць вышукаў лаціны:
Падвесці ўсіх нас —
Пад тыяру папства!
Ох, колькі уладык епархіяльных
Знайшло на камяні тым прэткнавенне...
Грыгорый... Цымблак... Місаіл...[99]

Што стала б з хрысціянствам,
Каб не мы —
Цвярдыня праваслаўя!

Скарына

Так, цвярдыня!..
Мой голас адлятае ад яе,
Як крык пустэльніка...
А ёсць дабро,
Ёсць зерні залатыя двух вызнанняў!
Малюся толькі я на талерантнасць —
Адзіны хлеб Хрыстовы!..
Няўжо можа
Варожа падзяліць якаясь маласць
Нязгоды ў поглядзе на Сімвал веры?[100]
Зыходзіць Дух святы —
Ад Бацькі толькі?
Ці ён зыходзіць і ад Бога-сына?
Развaж, нарэшце, Божа, тыя звады!
Калі не зможаш, то пашлі яшчэ
Адзін свой Дух святы —
Верацярпенне!
Каму патрэбна розніцы той дробнасць?
Гасударам?.. І пастырам авечак?
Ды толькі не ўсявышняму!

Іосіф III

Гляджу —
Ці не пасланы ты, ерэтык-кніжнік,
Сюды ад Яна, біскупа свайго?
Ты — з яго воінства!
Слуга яго!..
Ты ў Вільні з ім капланаў падаслаў
У звоны біць прачысценскай царквы!
Не прэкаслоў...
Народ бег да званіцы...
Ды не пажога сталася —
Бясчэсце!
Хоць паўшчуваў сыночка Жыгімонт,

Ды ці спыніў душазагубства воўча?
Ураднік тога Яна
Стаў хапаць
Людзей мітрапалічых ды папоў!
Ты з Янам захацеў зямлю смуціць
Русінскую?..
Царкву парушыць нашу?
Ты і цяпер — таемны саглядатай!..

Скарына

Першасвяшчэнства!
Вы няўжо не чулі,
Чым заплацілі мне за ўсё тружанне,
За гэтыя русінскія пісьмёны
Біблейскіх кніг маіх?
Цямніцай!.. Ямай!
Няўжо ўладыку біскупіі ў Вільні
Мог даспадобы стаць —
Мой друк русінскі?
Пасля ўсяго — ці мог я сакратарыць
У Белай залі капітула?

Іосіф III

Помні:
Слуга не можа двум служыць гаспадарам.
І дом, які ў сабе раздзеліцца,
Не ўстоіць!
Пакуса даўняя твая — на наш
Дом праваслаўя, крэпкі і едзіны!

Скарына

Едзіны — Дом Хрыста!
Падзеленаму, цяжка яму ўстояць...
Калі варожасцю жывіцца будзе,
А не цярплівасцю...
І я прыйшоў
Пад неба свае роднае Сахвеі,
Да вас — як на ратунак свой астатні.

Прыйшоў не крывамоўна, не падлыжна,
А множыць сваё слова ва Хрысце —
Любоў, міласпагаду, браталюбства
У кнігах —
Яны сатнуць славай вашай
І памяццю нашчадкаў!..
Толькі вы
Мне памажыце множыць гэта слова!
Адкрыйце скарбніцы для кніг свяшчэнных!
Нявер'ем не карайце справу...
Гэта — малітва сына Полацка пад небам
Прамудрае Сахвеі!
Я прыйшоў
Да вас, уладары айчынных земляў,
Магутныя ўладыкі скарбаў веры...
Купляеце вы ўгоддзі, вёскі з людам,
Абіцелям іх дорыце, саборам —
Як Канстанцін Астрожскі, як Хадкевіч,
Як Радзівілы...
Пальцаў не стае —
Сангушкі, Сакалінскія, Сапегі,
Алелькавічы, Глебавічы, Кішкі —
Вы, чалавекабогі соцень, тысяч
Шматлюдных мест, мястэчак,
Буйных замкаў,
Дзе цела сваё льгоцяць у раскошы
Супольна з вамі тысячы прыдворных...
Гулянні, баляванні...
А раскоша —
На чым яна цвіце?.. Не на дукатах?
Не на свавольных куплях, дараваннях?
Не на дзяржанні месц чыноўных?
Гора!
Не толькі вы купляеце!.. І вас —
Купляюць тым жа коштам!
Каб раздробіць!
Падкопваюць знутры вас пажыўленнем,
Спакусай заўладаць прыбытным месцам.
Купляюць кафедры яшчэ ў жывых
І пад жывых паквапных іерархаў

Наперад падкупаюцца... І ўсюды
Пануе «падаванне» караля,
Не выбары ў саборы —
Патранацтва!
Скажыце, дзе змаганцы праваслаўя,
Ахвярныя бяссрэбранікі веры?
Дзе вывучка высокая у школах
І тэалогіі...
І філасофіі?..
Апора — інакі, пустэльнікі,
Што душацца, знямоглыя, аскезай?
А дзе вярхі епархій?
Раздрабленне
Іх точыць злою прывіднасцю ўлады,
Раскош — мірскіх, царкоўных...
Вось агледзьце
Богабаязным позіркам саборы:
Іканастасы ярусамі ў золаце,
У жэмчугах, каменнях дарагіх
Вянцы, іконы, алтары...
А рызы — колькі іх,
Камчатных, аксамітных, мухаяравых,
А пазлашчоных, срэбнасцю каваных
Падсвечнікаў, ківотаў і кадзідлаў,
Паціраў, місак, лыжачак...
О Божа!
І што вам замінае праз багацце,
Праз гэты тлумны россып сваіх скарбаў,
Праз землі манастырскія, прыбыткі —
Убачыць скарб найбольшы сёння!
Кнігу!
Адціснутую ў выкладзе старанным,
Святільнік палымнеючы, якім
Нам толькі і магчыма ўратаваць
Ад цемры свае душы...

Ян Глебавіч

Пачакае —
Святільнік гэты ваш...

Нам трэба скарбы —
На збройную Сахвею!.. Вежы... Замкі...

Іосіф III

Схавай ты, блудны кніжнік,
Свой святільнік
Пад мантыю...

Скарына

Але Хрыстос сказаў:
Запаленую свечку пад сасуд
Ніхто не ставіць —
Ставяць на падсвечнік,
Каб бачылі святло, —
хто ў дом заходзіць!

Скарына роспачна выходзіць з цэнтральнага прастола, несучы на руках свае кнігі. Спыняецца пад купалам сабора. Уздымае вочы.

Пад купалам Сахвеі я малю:
Даруй, прамудрая,
Што я не здолеў
Сваёй вялікай справы даканаць.
То немач і мая, і не мая.
Яна нібы сышла з астральнай прорвы,
Каб пакараць зямлю маю...
За што?
Што ўмее слугаваць яна спакон?
Карміць, паіць сваіх валадароў?
Дзяцей сваіх вырошчваць на чужынцаў?
Ліхі і дзікі лёс!
О, як я прагнуў
Свой люд узняць разумным асвячэннем,
Даць старадаўняй полацкай «Пагоні»
Духоўны шчыт у рукі,
Праўды меч!
Узброіць ваяра смыслёнай кнігай,
Празорліваю ісцінай...
Сахвея!
Ты бачыш нашай прышласці абрысы.

Што там наперадзе?
Прыгледзься пільна:
Ваяр твой спаконвечны на кані
Ці пад канём?
Смуга ці дым паднебны
Па-над Дзвіною засцяць тваe вочы?
Вада жывая муціцца атрутнай?
Слупы агню ўстаюць, нібы знамение?
Пякельны дождж мардуе тваe землі?
А мова;
З якой Бог паслаў на свет
Мяне і люд мой шчыры,
Зганьбавана?
Няўжо такая цяжкая расплата
За тое, што заціснуты спрадвечным,
Як помрач, безгалоўем,
Я не змог
Сябе дарэшты ў родным краі
спраўдзіць?

Наступнікі, каму з вас тое ўдасца?..
Ды тое, што з-пад мантыі сваёй
Я выняў свой свяцільнік —
Кнігу праўды! —
Навуку другалюбства і Асветы
І ўзняў пакутліва —
Над Белай Руссю,
Не вынішчыць таптаннем ног ніякіх,
Не праглынуць пажаднасцю забрання!
І станецца свяцільнік сціплы мой
На ўсіх цяжкіх дарогах майго людства
Пламеннем жываносным!

# НА МАГІЛЕ МАРГАРЫТЫ

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

На пагосце за Вільняй стаіць
прыгорблены Францішак Скарына.
На адной руцэ трымае,
прыхінаючы да сэрца,
маленькага Сымонку,
другоіі рукой гладзіць
русявую галоўку падлетка Францішка,
што туліцца збоку.

Скарына

Я абхадзіў паўсвета у шуканнях
Прасвету для зямлі сваёй,
Што прагне
Святога Адраджэння...
Ды нідзе
Я не знайшоў у сэрцах уладарных
Апекавання годнага...
А толькі
Знайшоў я напаследак — гэты вось
Зямлі грудочак, родны і балючы!..
Я абхадзіў саборы розных вераў,
Вызнанняў,
Навучанняў самых мудрых,
Ды не знайшоў нідзе паразумення
Для веры майго сэрца,
Апроч гэтай,
З якой дрыготка я хілю калені
На твой грудочак ніцы,
Галубіца...
Я абхадзіў дарогі ў ямах, цернях,
Маліўся, каб не ўблытацца нагамі
У сеткі ганьбы,
У цянёты здрады,
Ды пажыццёва ўлоўлены застаўся
Іржавай кратай,
што гарчэй магілы...
Няўжо цярпенні, крыўды,

Злорачэнні
І ўсё, што я ў ярме цягнуў,
Больш варта,
Чым жменька твайго праху,
Маргарыта?!
Няма мне даравання...
Не збярог,
З рук выпусціў, нібы лілею ў пыл...
Які жахлівы крыж наш!
Не глядзіце
Вы, дзеці, на гаручую слязу,
Слязу і адвітання, і выгнання...
Маё каханне!
Я яшчэ вярнуся
Да цалавання ног тваіх!..
Да вас,
Карэнні родных пушчаў векавечных
І белыя крылатыя буслянкі!
Вярнуся, калі нават я спаткнуся
На сцежках братняй Чэхіі...
Як цяжка
Ад'езджым быць ад роднае зямлі!
На пасяленні вечным...
З праху ўстану!
Вярнуся, пературораны у памяць.
Вярнуся, пературораны
У дух.

*Прамаўленне духу Скарыны*

*Не адвітанне губіць нас —*
*Выгнанне.*
*Як горка пакідаць свой дом і дол!*
*Ганіцелі,*
*Хто даў такі дазвол*
*На дзікае насільства адарвання?*

*Ад роднага жытла, ад каранёў,*
*Ад запаветных рэчаў, мудрых нетраў,*
*Ад вобразаў,*
*Што тоўпяцца ў паветры,*
*Ад ценяў,*
*Што глядзяць з-пад камянёў!*

*Вы множыце ганенні розных «схізм»,*
*Кацэраў, іншаверцаў, вам няўгодных.*
*Хто ў свеце, невядома,*
*Болей шкодны?*
*Яны — ці вы?*
*Ці злы ваш астракізм?*

*Вы горш нязводнай молі, едкай тлі,*
*Што завязь дум і спраў пераядае.*
*Дакуль бацькоўскі край*
*Выгнанцам будзе з краю?*
*І родная зямля —*
*Выгнанніцай з зямлі?*

*1986—1989 гг.*

# ТЛУМАЧЭННІ

[1] *Адвернік Юрый* — радца Віленскага магістрата, адзін з фундатараў друкарскай справы Ф. Скарыны ў Празе і Вільні, першы муж Маргарыты.

[2] *Бона Сфорца* (1494—1557) — каралева Польшчы і вялікая княгіня Літоўская, жонка Жыгімонта І Старога, валодала шматлікімі землямі на Беларусі.

[3] *Асклепій* — славуты лекар Элады, продак Гіпакрата.

[4] *Бабіч Якуб* — найстаршы бургамістр Вільні. У яго камяніцы каля ратушы размяшчалася Скарынава друкарня.

[5] *Літва* — ужывалася ў двух значэннях: як назва этнаграфічнай Літвы і як назва літоўска-беларускай дзяржавы, Беларускія землі невыпадкова ж доўгі час (XIII—XVIII стст.) называліся проста Літвой.

[6] *Онкаў Багдан* — у Віленскім магістраце асэсар маршальскага суда, радца, дапамагаў фундаваць друкарню Скарыны.

[7] *Гаштольд (Гаштаўт) Альбрэхт* (памёр у 1539) — віленскі ваявода і канцлер Вялікага княства Літоўскага, абаронца палітычнай незалежнасці гэтай дзяржавы.

[8] *Мануцый Альд* (1448—1515) — выдатны венецыянскі кнігавыдаўца эпохі Адраджэння.

[9] *Еранім Яўсевій* (330—419) — вядомы перакладчык і тлумач, каментатар свяшчэннага Пісання. Пераклаў на лацінскую мову Біблію (атрымала назву Вульгата) з шырокім каментарыем; крыніцай гэтай карыстаўся Ф. Скарына пры перакладзе Бібліі на кніжную беларускую мову.

[10] *Эразм Ратэрдамскі* (1469—1536) — славуты дзеяч Адраджэння, аўтар бліскучай «Пахвалы дурноце».

[11] *Гус Ян* (1371—1415) — дзеяч чэшскай Рэфармацыі.

[12] *Сцікс* — дачка Акіяна, яе прадонныя воды цяклі ў царстве мёртвых.

[13] *Палеч Стэфан* — былы сябра Я. Гуса.

[14] *Мамона* — сірыйскі ідал, увасабленне срэбралюбства.

[15] Вытрымка з булы праклящя папы Яна XXIII.

[16] *Жыжка Ян* (каля 1360—1424) — дзеяч гусіцкага руху, палкаводзец. *Пракоп Вялікі* (каля 1380—1424) — паплечнік Я. Жыжкі, загінуў у бітве з крыжакамі.

[17] Вытрымка з запісаў Пётры Младаневіца («Цярпенні магістра Яна Гуса»), які апісаў спапяленне свайго сябра.

[18] *Скарына Іван* — старэйшы брат Ф. Скарыны, яго апякун і памочнік.

[19] *Дзіке* — багіня справядлівасці, дачка Феміды, багіні правасуддзя.

[20] *Суд Жыгімонта або Гаспадарскі суд* — апошняя судовая інструкцыя з удзелам князёў, маршалкаў, біскупаў. Жыгімонт I Стары (1467—1548) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы. Яго Гаспадарскі суд, многія ўказы, прывілеі мелі непасрэднае дачыненне да лёсу Ф. Скарыны.

[21] *Скарына Лука* — бацька Ф. Скарыны, полацкі купец.

[22] *Ян* (1498—1538) — біскуп віленскі, з роду князёў літоўскіх, пазашлюбны сын Жыгімонта I і Кацярыны Тальнічанкі.

[23] *Права гайнае* — законна распачатае ў судзе.

[24] *Статут Гаштольда* — так не зусім слушна шляхта называла Статут Вялікага княства Літоўскага (1529), у яго складанні прымалі ўдзел радчыкі, людзі княскага двара, канцэлярыі, магчыма — і Ф. Скарына.

[25] *Жыгімонт II Аўгуст* (1520—1572) сын Жыгімонта I, празванага Старым, таму што пры жыцці, па волі Боны, згадзіўся на каранацыю малалетка Аўгуста на вялікае княжанне ў Літве (1529), затым—і караля Польшчы.

[26] *Астрожскі Канстанцін Іванавіч* (памёр у 1530) — вялікі гетман, кашталян віленскі, ваявода троцкі, пераможца ў бітве пад Оршай з войскамі Васіля III (1514), абаронца праваслаўя.

[27] *Радзівіл Юрый Мікалаевіч* (1480—1541) — гетман польны літоўскі, стараста гарадзенскі.

[28] Вытрымка з судовага дэкрэта Жыгімонта I (1529).

[29] *Пталамей Філадэльф* — егіпецкі цар, які ў час свайго праўлення (285—246 г. да н. э.) апекаваўся над зборам старадаўніх кніг для сваёй вялікай бібліятэкі.

[30] *Лютэр Марцін* (1483—1546) — заснавальнік новага веравызнання (лютэранства). Сваё вучэнне выклаў у 95-ці тэзісах, якія прыбіў да дзвярэй вітэнбергскага касцёла.

[31] *Кацэр* — ерэтык.

[32] *Фрыдрых Саксонскі* — магутны нямецкі курфюрст, рашуча ўзяў пад сваю ахову і апеку Лютэра, яго вучэнне.

[33] *Applicare* (лац.) — злучаць, аб'ядноўваць (часцей —знешне).

[34] *Кумская Сівіла* — прарочыца, уладарка чорных кніг.

[35] *Юнона* — так услаўлялі каралеву Бону, раўняючы яе з антычнай рымскай багіняй, жонкай Юпітэра.

[36] *Аід*— бог падземнага царства мёртвых, пекла.

[37] *Тартар* — прадонне ніжэй Аіда, жытло ночы, усіх пачаткаў і канцоў.

[38] *Персефона* — дачка Зеўса, украдзеная Аідам сабе за жонку.

[39] *Amor (лац.)* — каханне.

[40] *Іліён* — старадаўняя назва легендарнай Троі.

[41] *Анценор* — абаронца Троі, пасля яе падзення плыў разам з Энеем да берагоў Італіі, першы дасягнуў яе і заснаваў Патавій — Падую.

[42] Радкі з «Энеіды» Вергілія.

[43] *Va bene (лац.)* — як добра!

[44] Залаты персцень уручаўся з прысуджэннем ступені доктара навук.

[45] *Alma mater (лац.)* — маці, выхавальніца.

[46] *Deo (лац.)* – Бог.
[47] *Deo Gratias (лац.)* – Божа мілы.
[48] *Magnus (лац.)* – вялікі, магутны.
[49] *Presto (італ.)* – хутчэй.
[50] *Меланхтон Пілін* (1497–1560) – паплечнік М. Лютэра.
[51] *Аркебуза* – вогнестрэльная зброя.
[52] Вытрымка з указа Жыгімонта I ад мая 1532 г.
[53] *Скарына Раман* – сын купца I. Скарыны.
[54] Вытрымка з судовай справы Ф. Скарыны ад 17 чэрвеня 1532 г.
[55] *Гусоўскі Мікола* (каля 1480 – пасля 1533) – славуты беларуска-польскі паэт-лацініст, гуманіст эпохі Адраджэння, аўтар вядомай «Песні пра зубра» (Кракаў, 1523).
[56] *Іоў* – персанаж аднайменнай кнігі Бібліі.
[57] *Альбрэхт Прускі* – з роду брандэнбургскіх маркграфаў (Гогенцолернаў), былы магістр Тэўтонскага ордэна, стаў падданым Жыгімонта I (1525), гарачы прыхільнік Лютэра.
[58] *Салон* – дзяржаўны дзеяч старажытных Афінаў, заканадаўца.
[59] *Пястаўна Ганна* – з дынастычнага роду мазавецкіх Пястаў, князсўна.
[60] *Рэфармацыя* – шырокі грамадска-рэлігійны рух у Заходняй Еўропе. Пра цікавасць Ф. Скарыны да Рэфармацыі сведчаць яго падарожжы да Альбрэхта Прускага і М. Лютэра.
[61] *Гутэн Ульрых фон* (1488–1523) – нямецкі гуманіст, прыхільнік Рэфармацыі.
[62] *Мюнцэр Томас* (1490–1525) – былы прыхільнік Лютэра, тэолаг, узначаліў паўстанне ў Сялянскай вайне (1524–1525), пакараны смерцю.
[63] Дэльфійскі сабор знаходзіўся ў старажытным грэчаскім горадзе Дэльфы. На калонах разбуранага сабора Сакрат, паводле яго слоў, прачытаў наказ «Пазнай самога сябе», накрэслены нібыта багамі Элады.
[64] *Carmen de bisontis* – «Песня пра зубра» М. Гусоўскага, які, знаходзячыся ў пасольскім падарожжы ў Рым, адгукнуўся творам на просьбу папы Льва X.
[65] *Леў X* (1475–1521) – рымскі папа, апякун паэзіі, мастацтва, аматар палявання.
[66] *Вітаўт* (1350–1430) – вялікі князь літоўскі, праціўнік Крэўскай уніі (1385). Пры Грунвальдзе (1410) узначаліў войскі Княства, якія вырашылі зыход бітвы.
[67] *Antidotum* (лац.) – супроцьяддзе, сродак супроць атруты.
[68] *Картэс Эрнанда* – палкаводзец канкістадораў, заваёўнік Мексікі.
[69] *Карл V* (1500–1558) – іспанскі кароль, імператар «Свяшчэннай Рымскай імперыі».
[70] Вытрымкі з указаў і грамат Жыгімонта I, дадзеных у 1532 г.
[71] *Карльштат Андрэас* – вітэнбергскі тэолаг, разам з Лютэрам адмаўляў значэнне філасофіі і свабоды волі ў багаслоўі.
[72] *Біблія Лютэра* (1534) – ствралася «цэхам» перакладчыкаў, знаўцаў старажытных моў.

[73] *Каралевіч Альбрэхт* — другі сын Боны і Жыгімонта I, заўчасна нарадзіўся і памёр.

[74] *«Псалтыр» і «Апостал»* — выдадзены ў Вільні (1522, 1525), пераважна на царкоўнаславянскай мове.

[75] *Еранім Пражскі* — магістр, паплечнік Я. Гуса, спалены ў Канстанцы на кастры (1416).

[76] *Эк Іяган* — тэолаг, люты праціўнік Лютэра, дыспутаваў з ім у Лейпцыгу (1519).

[77] *Аўгусцін Аўрэлій* (354—430) — біскуп, філосаф, «бацька» царквы апостальскай, далучаны Рымам да ліку святых.

[78] *Ібн Сіна, Авіцэна* (каля 980—1037) — славуты медык, філосаф, прыродазнаўца, паэт, па паходжанні — таджык. Адстойваў існаванне розуму і свету ідэй незалежна ад свету зямной матэрыі.

[79] *Глінскі Міхал Львовіч* (1470—1534) — нашчадак татарскага князя, вяльможны ўладар на Літве, перамог крымскіх татар пад Клецкам (1506).

[80] *Забярэзскі Ян* — ваявода троцкі, жыў у маёнтку каля Гародні, дзе быў акружаны войскам М. Глінскага і забіты.

[81] *Аляксандр (1461—1506)* — вялікі князь Літвы, кароль польскі, унук Ягайлы, меў за блізкага дарадчыка М. Глінскага.

[82] Смаленск узяты з дапамогай М. Глінскага, які, падтрымліваючы сувязі з каралеўскімі дварамі Еўропы, выпісаў адтуль вопытных майстроў гарматнага агню, ратных людзей — сярод іх і знакамітага гарматніка Стэфана, які прымусіў абарону капітуляваць.

[83] *Васіль III* (1479—1533) — вялікі князь маскоўскі, часта і доўга ваяваў з Вялікай Літвой.

[84] *Максім Грэк* — албанскі грэк, вучоны манах-прапаведнік, вандраваў па Еўропе, жыў на Афоне, адкуль быў запрошаны ў Маскву як знаўца старажытных моў.

[85] *Глінская Алена* — дачка Васіля Глінскага, пляменніца яго брата Міхала, маці Івана Грознага.

[86] *Іван IV Грозны,* (1530—1584) — вялікі князь «усея Русі», (з 1533), першы рускі цар (з 1547).

[87] *Беклемішаў Бярсень* — маскоўскі баярын, за пярэчанне Васілю III пайшоў на плаху; *Жараны Фёдар* — дзяк, за зварот са скаргай да Васіля III яго адлупцавалі бізунамі, адцялі язык.

[88] *Данііл* — мітрапаліт маскоўскі (1523—1539), дамагаўся ганення ерэтыкаў.

[89] *Ерась жыдоўствуючых* — з'явілася на Вялікай Літве, у Кіеве як спалучэнне іудзейства і хрысціянства.

[90] Ф. Скарына двойчы змясціў у Бібліі свой партрэт, што наклікала абвінавачанні ў ерасі.

[91] *Еська Сцепановіч і Міхна Аўсянік* — зяці І. Скарыны, пасля яго смерці судзіліся за падзел маёмасці.

[92] *Іосіф III* — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і «ўсея Русі» (1522—1534), былы архіепіскап полацкі, артадаксальны абаронца дагматаў праваслаўя.

[93] *Глебавіч Ян* — ваявода віцебскі (з 1529), полацкі (з 1532), канцлер літоўскі (з 1546).

94 Благавешчанская царква ў Супраслі мела сталых фундатараў — мітрапаліта Іосіфа Солтана і маршалка Хадкевіча; замест драўляных пабудоў яны ўзвялі тут, з дазволу караля, мураваныя царкву і манастыр.

95 Прачысценскім мітрапалічным саборам апекаваўся ў Вільні К. І. Астрожскі; дамогся дазволу на пабудову ў Вільні дзвюх цэркваў прасвятой Тройцы і свяціцеля Мікалая ў знак перамогі пад Оршай.

96 *Солтан Іосіф* — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і «ўсея Русі» (1507–1522), папярэднік Іосіфа III, былы архіепіскап Смаленска.

97 *«Малая падарожная кніжка»* — выдадзена ў Вільні ў 1525 г.

98 У склад «Малой падарожнай кніжкі» ўвайшлі «Псалтыр», «Часаслоў», «Каноны», «Акафісты», «Шасцідзённік», «Святцы», «Пасхалія».

99 Мітрапаліты праваслаўнага вызнання, якія ў розныя часы спрабавалі ў той ці іншай меры ажыццявіць ідэю царкоўнай уніі.

100 *Сімвал веры* — у вытлумачэннях яго тоіцца асноўнае разыходжанне паміж каталіцкай і праваслаўнай цэрквамі: першая з іх лічыць, што Дух Святы аднолькава зыходзіць ад Бога-бацькі і ад Бога-сына (Хрыста); другая — толькі ад Бога-бацькі, таму што, у адваротным выпадку, прыйшлося б прызнаць у аснове стварэння свету два першапачаткі.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Судны дзень Скарыны**

*Паэма*

Кампутарны набор і вёрстка: РУП «Друкарня «Перамога»

Падпісана да друку 02.11.2001 . Фармат 84x108[1]/[32]. Папера газетная. Гарнітура Кудрашэўская. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,66. Тыраж 2000 адз. Заказ. 2344.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ007 – 98, ч. 1; 22.11.20.300.

ТДА «Сталія». Л. Выд. 504 ад 17.07.2001. г. Мінск, пл. Свабоды, 23.
РУП «Друкарня «Перамога». 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11.
Ліц. ЛП № 5 ад 13.11.2000.